

№5 (968) 1 мая 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

$270 тысяч з сейфа МУС, імаверна, скраў міліцыянт. **Старонка 4**

Беларусы на службе ЦРУ. AEQUOR: захоп групы Вострыкава. **Старонка 16**

Моцная, слабая, усё сабе даравала: жанчына з-пад Любані жыве ў Варшаве і вядзе фантастычны дзённік па-беларуску. **Старонка 18**

# ХАЛОДНАЯ ВЯСНА 2017

**Красавік у Беларусі быў халодным. І не толькі надвор'ем. Арышты і штрафы — тая рэчаіснасць, у якую грамадства пагрузілі гэтай вясной. Сталічныя мастакі адказалі стрыт-артам пратэсту. На першай паласе «Нашай Нівы» — графіці, што з'явіліся ў Мінску за апошні месяц. Яны прысвечаныя міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу, кіраўніку мінскага АМАПа, спікеру Мясніковічу і кіраўніку БТ Давыдзьку. Героямі іншых графіці сталі таксама Марыяна Шчоткіна і Лілія Ананіч.**

НЕ ВЕРИМ
НЕ БОИМСЯ
НЕ МОЛЧИМ
#5 СУТОК

Закрыты ліст міністру Шуневічу. **Старонка 5.**

# Першамай у Мінску



Няглегдзячы на забарону, некалькі соцень чалавек сабраліся 1 мая на Кастрычніцкай плошчы Мінска, правялі мітынг і прайшлі са сцягамі да плошчы Незалежнасці. Людзі патрабавалі паляпшэння жыцця працоўных, а таксама вызвалення палітвязняў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На фота: Паўла Севярынца прывезлі ў суд Цэнтральнага раёна Мінска. Жонка падышла да машыны, каб пабачыць мужа. Севярынца затрымалі пасля першамайскай дэманстрацыі. Ноч ён правёў у ЦІП на Акрэсціна. На суткі пасадзілі таксама іншага жыхара сталіцы, Максіма Вінярскага.

### Ад рэдактара

Не нізкага рангу міліцыянт крадзе 270 тысяч даляраў з сейфа і ўцякае (**старонка 4**).

РАУС бунтуе супраць давядзення ім «плана па злачынствах».

Супрацоўнікаў МУС ловяць у судах на лжэсведчаннях.

Два начальнікі РАУСаў бухія за рулём...

Асабістага крытыка міністра збіваюць у пад'ездзе да крыві — і нападнікі, канечне, не выяўленыя. Збіты лічыць, што яму адпомсцілі за графіці, якое вы можаце пабачыць у нас на першай паласе.

У любой еўрапейскай краіне гэтых фактаў было б дастаткова для адстаўкі міністра (**старонка 5**). Але не ў Беларусі.

Цяжка разлічваць на пазітыўны імідж нашай краіны, пакуль яна не стане прававой дзяржавай.

* * *

Людзям некамфортна жыць з пачуццем безабароннасці. А яго адчуваюць многія. Бяссілле, віна, пратэст, любоў, настальгія, памяць – з гэтага складаецца дзённік Святланы Курс. Моцная штука (**старонка 18**).

* * *

Антон Рудак працягвае аналізаваць беларускія сляды ў рассакрэчаных дакументах ЦРУ (**старонка 16**).

Іншы цікавы гістарычны матэрыял – знойдзеныя ў раскрытых архівах украінскага КГБ дакументы пра апошніх партызан Украінскай паўстанцкай арміі, якія дзейнічалі на тэрыторыі Піншчыны да 1956 года.

* * *

Прызыўнікам і іх бацькам рэкамендуем да прачытання цікавы дзённік салдата – як яны перамаглі дзедаўшчыну (**старонка 8**).

* * *

Нарэшце, на паласе здароўя – гутарка з пластычным хірургам, які можа любую жанчыну ператварыць у Кім Кардаш'ян (**таронка 14**).



### Падзякі

Дзякуем чытачам-фундатарам «НН»Ю.Гогіну, В.Жыдовічу, В.Дашуку, Бекарэвічу, А.Вашкевічу, Юліі, Алекса, В.Кіпрыяновічу, Кодзку, Паўлу К., А.Томіну, Максімовічу, Цімуру, Я. Грому, Я. Чыгіру, Дзянісу А., VZh, DK, Вацюку, Н. Якавіцкай, Юліі, Ю.Ю., Аляксандру Т. і Пінчуку, а асабліва — А.Куцу, І. Соркінай, В. Вінаградаву, Аляксею, Александровічу за грошы, дасланыя праз АРІП у красавіку. Асобна і асабліва дзякуем Эльжбеце Смулковай.

### Памёр наглядчык гродзенскага гадзінніка

30 красавіка адышоў у вечнасць Юзаф Ясюкевіч, шматгадовы наглядчык старэйшага ў Еўропе вежавага гадзінніка, які змяшчаецца ў гродзенскім касцёле імя Святога Францішка Ксаверыя. Занядбаны вежавы гадзіннік аднавілі ў канцы 1980-х. Бясконца аддany роднаму гораду чалавек, Ясюкевіч быў адзіным у Беларусі наглядчыкам гадзінніка, піша Hrodna.life.

### Скульптара, імаверна, забіў унук. За электронную цыгарэту

Жахлівае двайное забойства адбылося ў Слоніме. Ахвяры — скульптар Леанід Богдан і яго жонка.

Міліцыя паведаміла дэталі трагедыі.

Падазраваным па справе праходзіць 17-гадовы ўнук скульптара. Ён жыў з 61-гадовай бабуляй і 64-гадовым дзядулем, бо ў маці другая сям'я ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, а бацька ў Мінску займаецца бізнесам.

Затрыманы падлетак прызнаўся, што трагедыя адбылася апоўначы, калі пенсіянеры ўбачылі ў яго электронную цыгарэту. Сваякі не зразумелі, што гэта за прылада, думаючы, што яна звязана з наркотыкамі. Такая версія абурыла ўнука, ён схапіў нож ды металічны шуфлік і гэтымі прадметамі забіў бабулю і сур'ёзна параніў дзядулю. Скульптар прасіў выклікаць хуткую, але юнак адправіўся ў гараж, узяў там сякеру і дабіў ёй дзядулю.

Скульптар Богдан быў вельмі паважаны ў горадзе чалавек. Ён вельмі шмат зрабіў для Слоніма.

### У Мазыры рэцыдывіст параніў двух амапаўцаў

Інцыдэнт адбыўся ўначы 30 красавіка падчас затрымання злачынцы. Нягледзячы на пранікаючыя нажавыя раненні, міліцыянтам удалося абясшкодзіць злачынцу. Цяпер гэтыя героі ў шпіталі, але жыццю іх пагрозы няма.

### Ханок хоча падаць у суд на Ярмоленку

Такога скандалу беларускі шоу-бізнэс не памятае. Вядомы кампазітар Эдуард Ханок забараніў выкарыстоўваць музыку сваіх песень Анатолю Ярмоленку і Ядвізе Паплаўскай.

Адпаведныя лісты Эдуард Ханок накіраваў міністру культуры Барысу Святлову і міністру інфармацыі Ліліі Ананіч. Ён абвінавачвае спевакоў у парушэнні аўтарскіх правоў.

Вырашэннем канфлікту занялося Міністэрства культуры.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by за красавік

1 Як у палескай вёсцы жыве самая маладая ў Беларусі мама шасцярых дзяцей

2 Беларуская гасціннасць? Уласніца мінскіх апартаментаў для турыстаў расказала, праз што ёй і замежнікам даводзіцца праходзіць

3 Зянон Пазняк з паплечнікамі прэзентаваў праграму рэформаў Беларусі — прэзідэнцка-парламенцкая рэспубліка, талер, ваяводствы замест абласцей

4 Топ-12 перлаў з выступу Аляксандра Лукашэнкі

5 Што за дзіўны ветэран з'явіўся на плакаце да 9 Мая?

6 Ганна Бонд прабегла ў Мадрыдзе 21 км і на фінішы ўзняла бел-чырвона-белы сцяг

7 Статкевіч пра сюжэт Першага канала: Расія рыхтуецца да Беларусі без Лукашэнкі

8 Дзяўчына дня. Жонка вакаліста Brutto — пікантныя фоты

9 Топ-7 самых прыгожых беларускіх тэнісістак

10 Гадаваць дзіця-вегана ў Беларусі: гісторыя маладой маці з Баранавічаў і меркаванні спецыялістаў

# Маштабны апоўзень на Замкавай гары ў Навагрудку пагражае вежы

Зямля папаўзла па ўсім усходнім схіле Замкавай гары ў Навагрудку — гэта той, які над Фарным касцёлам. У выніку пасунулася зямля і пад нядаўна рэканструяванай Касцельнай вежай.

Апоўзні на гарах бываюць выкліканыя дзейнасцю чалавека або зменай кірунку грунтовых вод. Змагацца з імі няпроста. Нагадаем, што гэтай зімой зямля папаўзла і на Замкавай гары ў Вільні. Там апоўзень быў выкліканы бяздумнай высечкай дрэваў і кустоў на схілах.

Праект умацавання Замкавай гары і вежы ў Навагрудку, які былі ажыццёўлены ў 2013—2014 гадах, распрацоўваў «Гроднаграмадзянпраект».

«Мы праводзілі сваё геалагічнае даследаванне, — расказваў «Нашай Ніве» тады яго галоўны інжынер Рышард Кацынель. — Па яго выніках мы распрацавалі праект умацавання схіла бураін'екцыйнымі сваямі — па-іншаму гэта зрабіць было немагчыма. А ўжо металічная канструкцыя для ўтрымання вежы будзе трымацца на буранабіўных сваях. Бетанавалі зімой, але раствор закачвалі пад зямлю, таму гэта не патрабавала адмысловых прысадак. Сваі добра трымаюць грунт», — сцвярджаў тады Кацынель.

Зараз, пасля апоўзня, патрэбны пастаянны маніторынг стану вежы, маніторынг прасадак па гарызанталі, адхілення вежы ад вертыкалі. Сітуацыя патрабуе неадкладных крокаў.

Хочацца, каб беларусы захавалі для ўнукаў вежу Навагрудскага замка такой, якой мы бачым яе цяпер, а не крушню пад гарой.

Навагрудскі замак стаіць на адным з самых высокіх узгоркаў краіны — 323 м над узроўнем мора. Калі стаіш на гэтай гары, перад вачыма рассцілаюцца прасторы.

Навагрудак (Наваградак) быў першай сталіцай Вялікага Княства Літоўскага, рэзідэнцыяй Міндоўга. Замкавая гара з вежамі — гэта адзін з самых знакамітых беларускіх краявідаў. Муравáны замак тут паўстаў у XIV—XV стст.

З Навагрудкам і замкам звязаныя пачаткі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага — магутнай беларуска-літоўскай дзяржавы, у якой наш народ перажыў свой залаты век.

Рэканструкцыя вежы ў свой час выклікала вялікія спрэчкі.

**Сяргей Гезгала**



Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў правёў экстранную нараду з нагоды сітуацыі. Ва УПП «Інстытут «Гроднаграмадзянпраект» ужо распрацаваны праект па ўмацаванні гары. Яго праектна-каштарысная дакументацыя праходзіць экспертызу. Як расказаў галоўны інжынер інстытута «Гроднаграмадзянпраект» Рышард Кацынель, ёсць намер умацаваць схілу і адначасова стварыць дрэнажную сістэму, каб уся вада з гары збіралася і адводзілася, што цалкам ліквідуе магчымасць з'яўлення апоўзневых з'яў. Работы запланаваныя на 2017 год.

ТАЦЦЯНА ЦАРУК

Пошта рэдакцыі

## Ліст чытача: «Спасібо деду…» не пісалі, а агароджа была. А цяпер «спасібо деду», а агароджа вось такая…»

Ёсць на паўднёвым усходзе Магілёўшчыны вёска Барзэйкі, дакладней, была. Цяпер там толькі могілкі на ўзгорку, якія відаць здалёк. Дамы радзелі паступова, цяпер там вокны свецяцца толькі ў дзвюх хатах. Цяпер ужо тыя жыхары, што хадзілі на могілкі ў Радаўніцу, працягваючы традыцыі продкаў, адпачываюць на могілках побач з імі.

Памятаю, вакол гэтых могілак у дзяцінстве ўсё было перакапана — шукалі захаванага ўспеху, падчас вайны, невядомага салдата, каб перазахаваць яго ў брацкую магілу. Але знайшлі пазней, зрабілі магілку і паставілі крыж. Мясцовыя жанчыны дагледалі магілку, упрыгожвалі крыж ручніком у Радаўніцу. Цяпер прыемна бачыць, што магіла невядомага салдата акультурана, дзякуючы тым жа неабыякавым вяскоўцам.

Гэтая вёска бачыла шмат чаго на сваім вяку. Яе амаль ушчэнт спалілі ворагі ў вайну. Людзі паспелі збегчы ў лес. Пасля рабілі зямлянкі, а потым, як скончылася вайна, адбудоўваліся зноў.

Палі былі вельмі ўраджайныя вакол вёскі, людзі працавітыя, як і ўсе беларусы. Яны ўмелі працаваць, весяліцца, не скардзіліся ніколі на свой лёс, нягледзячы на цяжкасці, якія выпалі на іх долю. Тут шмат было ўдоў, многія мужчыны вярнуліся з фронту цяжка параненыя і надоўга забавіліся на гэтым свеце, мой дзядуля ў тым ліку.

Жыццё ішло. Ды вось новая бяда — Чарнобыль!.. І ўжо новыя захароны. Шмат новых. На жаль, не старыя. Гісторыя гэтай вёскі — гісторыя краіны. Сведкі гэтай гісторыі ляжаць на гэтых могілках. А тады, у маё дзяцінства, прайшло толькі нейкіх 20 год пасля вайны, але ж агароджа вакол могілак была і было каму яе дагледзець, рамантаваць. І не было «спасібо деду…» А цяпер гэтыя словы ёсць, а агароджа вось такая, на жаль… Балюча… Яны ж не паскардзяцца. Дык хіба ж можна гэтым карыстацца жывым? На маю думку, мой дзядуля і іншыя аднавяскоўцы вартыя большай павагі, а не толькі фанабэрыстага «спасібо деду…»

**Даслаў чытач «Нашай Нівы»**



## Жыхары выселенай вёскі пад Брэстам наведалі свае старыя могілкі ўпершыню ад 1946 года

На Радаўніцу ў сяле Прылукі (Брэсцкі раён) прайшла працэсія на старыя могілкі. Упершыню ад 1946 года — у той год Савецкі Саюз увёў «пагранічную паласу».

Вёскі над Бугам тады трапілі пад высяленне. Прылукі, Заказанка, Дурычы, Збунін — жыхары дзясяткаў паселішчаў мусілі пакінуць свае дамы. Гэта была людская драма, а часам і трагедыя. Яе дагэтуль мала ведаюць. Жыхароў не пускалі нават на могілкі.

Могільнік там стары. Увогуле, Прылукі і Заказань — вельмі старыя паселішчы. Тут, на пясчаных грудах сярод даліны Буга, людзі жывуць без перапынку ўжо 10 тысяч гадоў.

У 2017 годзе стараннямі айца Дзмітрыя, новага святара Пакроўскай царквы, што ў Прылуках, і дзякуючы падтрымцы пагранічнікаў жыхары атрымалі магчымасць схадзіць на старыя могілкі без прапускоў, па пашпартах. Старых жанчын пагранічнікі падвезлі сваёй машынай. Адна жанчына плакала ад эмоцый, сядаючы ў аўтамабіль.

Працяг на старонцы 10.



Сям'я з Прылук знайшла магілу цёткі.

# Міліцыянта падазраюць у крадзяжы $270 тысяч з сейфа МУС

— Гэты супрацоўнік не першы год працуе ў ГУБАЗіК МУС, і такога ад яго, вядома, ніхто не чакаў. Сваім учынкам ён падставіў напарніка, — распавядае TUT.BY уласная крыніца. — Справа была такая: амаль 270 тысяч даляраў аперупаўнаважаны канфіскаваў пры затрыманні дырэктара візавага цэнтра. Пытанне аб перадачы такой сумы ён абмяркоўваў са следчым СК, аднак той сказаў, што не будзе захоўваць яе ў сябе. Супрацоўнік ГУБАЗіК паклаў даляры ў сейф, замкнуў, але дублікат ключа заўсёды ёсць у напарніка — ці мала што можа здарыцца? Гэтым і скарыстаўся яго калега: прыйшоў у выхадны дзень, забраў 270 тысяч даляраў і з'ехаў спачатку ва Украіну, дзе жывуць яго сваякі, а затым у Румынію. Паводле нашай інфармацыі, ён збіраецца вылецець да сястры ў Амерыку».

Адзін з самых буйных крадзяжоў за апошні час адбыўся проста ў будынку МУС. Пра гэта не паведамлялі ні міліцыя, ні Следчы камітэт. І толькі 18 красавіка гэтая гісторыя стала вядомая шырокай публіцы дзякуючы апублікаванай у Адзіным дзяржаўным рэестры судовых рашэнняў Украіны пастанове



Шаўчэнкаўскага раённага суда Кіева.

Неўзабаве міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч пацвердзіў: да крадзяжу датычны не староннi чалавек.

— Я магу толькі адно сказаць: у сям'і не без вырадка, гэта ганьба яму і яго сям'і, — пракаментаваў міністр.

Журналісты выказалі здагадку, што да гучнай справы можа мець дачыненне ўжо былы старшы ўпаўнаважаны па асабліва важных справах ГУБАЗіК МУС Беларусі Андрэй Уразаў. Менавіта ён 29 снежня 2016 года каментаваў журналістам затрыманні ў візавым цэнтры, а ў лютым супрацоўнік міліцыі ўжо шукаў працу ў службе аховы на спецыялізаваным сайце. Просьбу пракаментаваць сітуацыю Уразаў праігнараваў. Але па інфармацыі, сейф, у якім ляжалі грошы, знаходзіўся ў кабінеце не Уразава, а зусім іншага супрацоўніка.

Калі ў Мінску ад падрабязнасцяў крымінальнай справы ўстрымліваюцца, то ў Бухарэсце інфармацыяй падзяліліся.

— Гэты чалавек на сённяшні дзень з'яўляецца грамадзянінам Румыніі, пражывае тут. Паводле дакументаў міжнароднага вышуку, ён быў затрыманы ў Румыніі. Аднак у сувязі з тым, што ён цяпер грамадзянін Румыніі і Румынія не выдае сваіх грамадзян трэцім краінам, ён быў адпушчаны, — пракаментавала іншая крыніца.

Як жа супрацоўнік МУС змог так хутка атрымаць грамадзянства? Хутчэй за ўсё, ён скарыстаўся спрошчанай працэдурай, яшчэ знаходзячыся ў Мінску. Такая працэдура прадугледжана для асоб, у якіх прамыя сваякі пражывалі на гістарычных тэрыторыях Румыніі: Букавіна, Бесарабія... Кайданкі на ўцекача надзелі ў студзені, месяц ён правёў за кратамі, а затым падаў усе неабходныя дакументы, і 19 лютага яго адпусцілі.

Як удалося даведацца, амерыканская віза дадзенаму грамадзяніну была анулявана ў сувязі з учыненым злачынствам на тэрыторыі РБ. Пакінуць Румынію ён не зможа, бо знаходзіцца ў міжнародным вышуку. Менавіта таму яго і затрымалі ў аэрапорце, калі ён спрабаваў вылецець у ЗША.

Зараз экс-міліцыянт знаходзіцца ў Румыніі. Як стала вядома, супрацоўнік ГУБАЗіК МУС прыехаў у гэтую краіну адзін, ён халасты, сям'і ў яго няма.

У МУС ад каментароў адмовіліся.

**Кацярына Барысевіч, Tut.by**

# 11 крычаўскіх міліцыянтаў напісалі зварот Шуневічу: кіраўніцтва адбірае ў іх прэміі

Крычаўскіх міліцыянтаў кіраўніцтва прымушае выконваць план па «злачынствах» і аддаваць частку заробкаў. 11 супрацоўнікаў правапарадку даслалі ў лютым ліст міністру Шуневічу, у якім апісваюць умовы сваёй працы.

Падпалкоўнік міліцыі Ігар Вусік праслужыў у міліцыі 21 год, медаль «За бездакорную службу», які ён атрымаў летась, паказвае з гонарам. Міліцыянт прызнаецца, што служыць у Крычаўскім РАУСе, дзе ён кіруе цяпер аддзелам аховы парадку і прафілактыкі, усё цяжэй. Падпалкоўнік цвердзіць, што цяперашні яго кіраўнік, падпалкоўнік Станіслаў Чупрын, перайшоў усе магчымыя межы: супрацоўнікам не даюць прэміяў, а калі прэміруюць, грошы трэба аддаць кіраўніцтву.

Паборы, кажа Вусік, ягоны кіраўнік дзяліў з намеснікам кіраўніка па ідэалагічнай рабоце Васілём Ціханенкам.

«У снежні 16-га года нам выдалі прэміі, але мы гэтае прэміяванне мусілі вярнуць. Ціханенку і іншым кіраўнікам, відаць», — распавядае ўчастковы Крычаўскага РАУСа Андрэй Шашкоў.

Паводле міліцыянтаў, дзяжурныя не маглі сыходзіць са службы, не выявіўшы правапарушэнняў паводле артыкулаў «За хуліганства» і «За распіванне алкагольных напояў у грамадскіх месцах». «Міліцыянты мусілі дзяжурыць, пакуль не знойдуць вінаватых паводле адпаведных артыкулаў», — зазначае былы міліцыянт Юрый Дзюбанаў.

Ігар Вусік разам з калегамі звяртаўся да вышэйшага кіраўніцтва, аднак магілёўскае Упраўленне ўласнай бяспекі парушэнняў паводле скаргі міліцыянта не знайшло. Больш за тое, пасля напісання скаргі сам Вусік трапіў на прафілактычны ўлік. Міліцыянт упэўнены: у Чупрына сувязі з магілёўскімі калегамі, што ладзілі праверку.

Цяпер і Ігар Вусік, і ягоныя паплечнікі разлічваюць на расследаванне сталічных органаў. У звароце да міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча яны пералічылі ўсё, з чым сутыкаліся пад кіраўніцтвам Чупрына: знявагі і кпіны, несправядлівыя пакаранні, неабгрунтаваныя з гледзішча міліцыянтаў пераводы на ўзмоцнены варыянт нясення службы ды абавязковыя выяўленні правапарушэнняў. Падпісалі зварот 11 чалавек.

Станіслаў Чупрын па тэлефоне кажа, што справу ўжо разгледзелі.

«Калі звярнуліся людзі да міністра са скаргай, значыць, разбіральніцтва праводзяць пэўныя кампетэнтныя органы, — кажа па тэлефоне кіраўнік Крычаўскага РАУС Станіслаў Чупрын. — Дакладней, ужо разабраліся, ёсць вынікі пэўных праверак».

Падпалкоўнік Вусік хоча дамагчыся звальнення кіраўніка, аднак допускае, што пасля асвятлення справы ў медыя звольняць яго самога. Нават маючы трох малых сыноў, ён такога выніку не баіцца. Кажа, што ў любым выпадку працаваць гэтак, як апошні год, больш не можа.

**Марына Вашкевіч, Белсат**

## Жыхар Мінска ў судзе даказаў, што здаваў экзамен, калі міліцыя «бачыла» яго на пікетаванні

Прынесці даведку з ВНУ і прывесці сваіх выкладчыкаў у суд спатрэбілася студэнту 3 курса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Раману Пратасевічу, каб даказаць, што ён здаваў экзамен раніцай 25 лютага. Справа ў тым, што ў гэты час міліцыянты, маркуючы па адміністрацыйным пратаколе, бачылі яго на акцыі ў Курапатах.

На Пратасевіча склалі пратакол за ўдзел 25 лютага ў несанкцыянаванай акцыі ў Курапатах. У пратаколе правапарушэння было ўказана, што студэнт «актыўна ўдзельнічаў у незаконным пікетаванні на будаўнічай пляцоўцы па адрасе: Мірашнічэнкі, 49». Паводле звестак міліцыі, ён быў там у 10.00.

Але Пратасевіч прынёс даведку з дэканата, што ў гэты дзень ён здаваў экзамен на журфаку, які доўжыўся з 10.00 да 12.00 па прадмеце «Мова і стыль СМІ». Гэтага аказалася недастаткова, і суддзя Дзмітрый Цыкал выклікаў у суд сведкамі выкладчыкаў, якія прымалі іспыт у Пратасевіча 25 лютага.

Дацэнтка кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання журфака БДУ Вольга Горбач распавяла, што студэнты рыхтуюцца да адказу ў прысутнасці выкладчыкаў. Пераздача экзамена праходзіла з 10 да 12 гадзін. Па словах выкладчыка, Пратасевіч быў на кафедры да 11.30—11.40.

— Здаў? — спытаў суддзя.

— Вы ведаеце, нават на 5 здаў. Да гэтага была курсавая на 4, там шмат спісаў. А тут, напэўна, баяўся, падрыхтаваўся. Я нават ўзрадавалася, што не на 4.

Старшая выкладчыца Маргарыта Цыбульская таксама пацвердзіла, што Пратасевіч 25 лютага здаваў экзамен.

Суддзя пайшоў у дарадчы пакой, а калі вярнуўся, заявіў, што віна Пратасевіча не даказана.

— Справу аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да Пратасевіча спыніць за недаказанасцю яго вінаватасці.

Сябры Пратасевіча і іншыя актывісты ў зале сустрэлі рашэнне суддзі апладысментамі.

**Паводле Tut.by**



# Закрыты ліст Ігару Шуневічу: Вы упэўнены, што хочаце перамагчы?

Піша **Стась Карпаў**.



Не ведаю, як пачаць, Ігар Анатолевіч. І гэтых пратакольных «дарагі» ці «паважаны» не хочацца. І наогул, я свой ліст перапісваў два разы, і даўся ён мне надзвычай цяжка. Спачатку атрымлівалася як бы не для вас, а для ўсіх астатніх. І тады я падумаў напісаць тое, што магло б вам сказаць уласнае сумленне, якое, дапусцім, унутры вас жыве. Хацелася не столькі даказваць, колькі казаць відавочнае. Можа быць, тады хоць вы са мной і не пагодзіцеся, але зразумееце. І, магчыма, наступным разам пасаромеецеся казаць пра «хвалю дыскрэдытацыі міліцыі».

Гэта я буду лічыць сваёй прамежкавай перамогай, ну а краіна наша ўсё адно застанецца камусьці «аднаму» — будучым «вам» ці будучым «нам». Бо разам «вас» і «нас» яна не вытрымае.

Такім чынам, я хачу вам расказаць пра агіду. У прынцыпе, уся наша дзяржава выклікае ўва мне гэтае пачуцце, але сёння я пішу да вас і таму пра міліцыю.

Вы неяк сказалі: «Усе яны (рэвалюцыі) пачыналіся з дыскрэдытацыі ўлады, найбольш моцных яе галін. ...Мне здаецца, у нас спрабуюць разыграць той жа сцэнар». Сказалі — і ўнутры мяне паболела агіды. Чаму?

Давайце я растлумачу. Уявім, што, напрыклад, «стала вядома, як міліцыянер Н. прадаваў спайсы». Для мяне дыскрэдытацыя міліцыі — гэта частка пра спайсы, а для вас — частка пра «стала вядома». Разумееце? Сам факт злачынства для вас ніколі не падрыў даверу. Вы ніколі не абмяркоўваеце злачынства вашых супрацоўнікаў як дыскрэдытуючы фактар. А вось абмеркаванне — абмяркоўваеце.

І ў мяне ўзнікае пытанне: гэта ж для гандляра спайсам добра, калі пра яго не ведаюць, а калі ведаюць — кепска. Для вас жа павінна быць наадварот?

Для мяне дыскрэдытацыя — гэта падрыў даверу, а для вас — невыкананне абавязку любіць.



Стась Карпаў зарабляе як прадпрымальнік у сферы IT, але вядомы ён найперш як паэт і публіцыст. Ягоны «закрыты ліст» міністру ўнутраных спраў Шуневічу, які шырока разышоўся ў інтэрнэце.

У родзе Карпавых была рэпрэсаваная саветамі беларуская пісьменніца Ядзвіга Бяганская, Карпавы бралі дзейсны ўдзел у абароне Курапат у лютым. Тады, нагадаем, «асобы ў цывільным» уначы напалі на палаткі абаронцаў. Міліцыя тых «асобаў» так і не знайшла.

Вам увесь час падаецца, што міліцыя створана не для працы, а для любові. Таму, калі можна, я апішу яшчэ пару эпізодаў. Пра службу і любоў.

Вечарам 19 снежня 2010 года на вуліцы Калектарная каля офіса «Гавары праўду» на нас напала міліцыя. У нас у руках былі рукавічкі і сцягі. У іх — святлошумавыя гранаты і дубіны. Адна з гэтых гранат трапіла ў маю жонку — і зараз у выглядзе сувеніра ў нас дома захоўваецца жончына напалову згарэлая сумка. Вы скажаце, што я дыскрэдытую... Але што мне рабіць, калі я ведаю? Я ведаю, што гэта была міліцыя, бо роўна так «невядомыя» затрымлівалі за «хлапкі», роўна так шмат разоў затрымлівалі Дашкевіча. Роўна так Пальчэўскага спрабавалі зацягнуць у машыну. Вядомыя «невядомыя». І пра начны напад на намётавы лагер у Курапатах мы з вамі таксама ўсё разумеем.

Мы ведаем, што гэта была міліцыя, але не можам даказаць. Бо нельга прымусіць міліцыю шукаць міліцыю.

Раней я лічыў, што асобы, чые злачынствы вядомыя, але бяздоказныя, называюцца «зладзеямі ў законе». Цяпер я разумею, што бываюць варыянты, і разумею, што імкненне даказаць злачынства можна кваліфікаваць як кампанію па дыскрэдытацыі.

Але скажыце, Ігар Анатолевіч, калі вы кажаце пра гонар мундзіра — вы маеце на ўвазе чорную куртку, трэнікі і вязаную шапачку? Проста хацелася б пераканацца.

Я разумею, расказы пра тое, як міліцыя совае дубінкі ў рот узятым пад варту — бяздоказныя. Але, скажыце, гэта няпраўда? Не мне, канечне. Скажыце сабе. Памятаеце, як амапавец «пры адсутнасці складу злачынства ў дзеяннях» ударыў кулаком у твар Святлане Завадскай? Цікава проста, калі гонар мундзіра дазваляе зрабіць гэта — то, можа быць, і дубінку ў рот тыкаць дазваляе?

Калі мундзір не супраць збіцця бяззбройных жанчын, то, можа, з ім і наконт астатняга можна дамовіцца? Мундзір, наогул, часта пратэстуе?

Я памятаю Фрунзенскі суд і працэс над арганізатарамі Плошчы-2010. Як паміж усіх гэтых небяспечных каварных інтэлігентаў, якія набіліся ў вестыбюлі, хадзілі вашы «ахоўнікі правапарадку і дзяржаўнасці». Сытыя, моцныя, з бліскучымі вачамі, неадрозныя ад наведвальнікаў сельскай дыскатэкі, у штоніках і туфельках з вострымі насамі. І як яны смяяліся і раўлі матам праз лесвічны пралёт на ўвесь суд, абмяркоўваючы свае фінансавыя адносіны.

Разумееце, перад маімі вачамі былі адначасова і яны, і Генадзь Бураўкін. Магчыма, вы яго таксама не чыталі, але паверце, Бураўкін побач з «ахоўнікамі дзяржаўнасці» — сам па сабе наймацнейшая хваля дыскрэдытацыі апошніх. Бо немагчыма паважаць людзей, з якімі ты адчуваеш нават не цывілізацыйную, а эвалюцыйную розніцу.

Дарэчы, вы самі хацелі б апынуцца ў свеце Бураўкіных ці ў свеце ахоўнікаў дзяржаўнасці? Сярод, як вы кажаце, «пісак і гарлапанаў» ці сярод ідэолагаў свінафермаў? Вы задумваліся калі-небудзь на гэты конт?

Вы, праўда, хацелі б перамагчы? Я маю на ўвазе — не «перамагаць». Гэта вам, канечне, падабаецца. А перамагчы абсалютна?

Проста тут жа вось якая справа. Вы можаце сказаць, што вам не блізкія інтэлігенцкі і пісакі. Вам даспадобы моцныя духам, мужныя людзі. Героі і бескампрамісныя байцы. Але як растлумачыць тады, чаму на нядаўнім судзе, вашым жа судзе, «у сваіх сценах» супрацоўнікі міліцыі, якія затрымлівалі Дашкевіча, даючы паказанні, называлі свае імёны ціхім шэптам і адвакат іх перапытваў па некалькі разоў. Чаму яны хавалі твары і ледзь выціскалі з сябе словы?

І чаму побач з імі «адмарозак і маргінал» Дашкевіч стаяў роўна, не апускаў вачэй і не хаваў твару? Чаму ён казаў: «прызнаю дзеянне, але не прызнаю віны»?

Вам не падаецца, што і тут усё перакулена з ног на галаву?

Вашы людзі павінны былі б паказаць прыклад мужнасці, а Дашкевіч — быць вартым жалю баязліўцам, як належыць маргіналу? Што вам з гэтай нагоды кажа мундзір?

Дарэчы, даруйце, што я ўвесь час паўтараю, але паколькі я кажу пра агіду — гэта важны момант. Калі мы кажам пра мундзір і не маем на ўвазе куртку і шапачку — ці не кажам мы пра той самы мундзір НКВД, якім вы так ганарыцеся?

І гэта зусім не марнае пытанне. Справа ў тым, што, як вы ведаеце, у 1937—1938-х гадах у СССР дзейнічалі так званыя тройкі, куды, акрамя сакратара абкама і пракурора, уваходзіў прадстаўнік НКВД, і за некалькі хвілін гэтыя людзі маглі вынесці чарговаму ворагу народа смяротны прысуд.

Я гэта да чаго. Думаю, калі вы бачыце, як прэс-сакратар ГУУС Аляксандар Ластоўскі на фэйсбуку раіцца, ці караць дзяўчыну за фота на плошчы Перамогі — ваш мундзір не паўстае. Але вось мне, разумееце, агідна і таму цікава спытаць: калі прэс-сакратар галоўнага упраўлення ўнутраных спраў вялікай еўрапейскай краіны публічна за межамі суда абмяркоўвае лёс чалавека са сваімі падпісчыкамі — гэта дыскрэдытуе міліцыю, ці яшчэ не?

Шмат у мяне пытанняў, але я разумею, што непрыемны тэкст, якога непрыемна шмат, — непрыемны ўдвая. Таму я спынюся яшчэ толькі на адным моманце.

Вось калі вы адстойваеце права міліцыі збіваць людзей пры затрыманні, уламвацца ў кватэры і ні разу на маёй памяці не прызналі віны свайго ведамства за выключэннем асобных «недахопаў прафесіяналізму», я бачу ў гэтым не клопат пра нейкую мэтазгоднасць і правапарадак, у якім прысутнічае «права». Я бачу ў гэтым звычайнае чалавечае і вельмі зразумелае «я хачу». Тыя, хто змагаецца за правы курцоў, хочуць курыць. Для сябе. Тыя, хто «за здаровы лад жыцця нацыі» — хочуць самі быць здаровенькімі. Любое змаганне за правы групы — гэта найперш асабістае, эгаістычнае.

Таму, калі вы апраўдваеце гвалт, — вы кажаце «я хачу». Вы хочаце, і многія з тых, хто працуе ў міліцыі, — хочуць. Хочуць біць людзей. Яны хапаюць аднарукіх за хлапкі, яны дастаўляюць у пастарункі людзей, якія, выходзячы з царквы, нібыта «лаюцца матам» і яны іх «усміраюць». Вось так. А мы іх дыскрэдытуем.

Міліцыянер, які падышоў да хлопцаў на Курапатах, каб ахвяраваць грошы на крыжы, зрабіў гэта таемна. Міліцыянер, які пастукаўся ў камеру Дашкевіча, каб падзякаваць яму, зрабіў гэта ноччу. Так што, як бачым, унутры свайго ведамства вы бясспрэчна перамаглі. Тыя, хто не хоча збіваць людзей і можа з імі гаварыць, баяцца ў гэтым прызнацца сваім жа саслужбоўцам. Але мне проста хацелася б вярнуцца да свайго папярэдняга пытання. Ігар Анатолевіч, вы упэўнены, што сапраўды хочаце перамагчы?

Перамагчы паўсюль і безумоўна?

# Маладафронтавец Сяргей Пальчэўскі: У зняволенні я падпісаў паперу аб супрацы з КДБ

У суполцы маладафронтаўцаў у фэйсбуку з'явіўся допіс ад імя актывіста Сяргея Пальчэўскага. Ён прызнаецца, што быў завербаваны КДБ пад псеўданімам Артур. Пальчэўскага шантажавалі крымінальнай справай за ДТЗ, а таксама пагражалі апублікаваць падрабязнасці яго інтымнага жыцця.

«Сябры, хачу перад вамі паспавядацца. І судзіце мяне так, як хто палічыць патрэбным. Сёння я прызнаюся ў тым, што падпісаў супрацу з КДБ.

На першым жа допыце, на які мяне прывезлі ў цэнтральны апарат камітэта, я меў размову без адваката з двума гэбэшнікамі. Яны адразу пачалі патрабаваць, каб я распавядаў ім нешта па «справе патрыётаў». Я адмовіўся. Тады мяне пачалі шантажаваць.

Мне была выказана пагроза крымінальнага пераследу і дадатковага тэрміну за ДТЗ з маім удзелам. Справа ў тым, што сёлета ў лютым я, рухаючыся за стырном, збіў на пешаходным пераходзе жанчыну. Дзякуй Богу, ДТЗ абышлося без пераломаў, але пашкоджанні здароўю кваліфікаваныя як менш цяжкія, і за гэта, пры жаданні пацярпелай, можа быць заведзеная крымінальная справа.

Таксама была агучана пагроза публікацыі нейкіх інтымных падрабязнасцяў аб маім асабістым жыцці. Па шчырасці сказаць, я і не вельмі зразумеў, пра што вядзецца гаворка. Цяпер узгадваю, што за некалькі дзён да арышту мне грукаліся ў сетцы «Укантакце» невядомыя людзі і казалі, што ведаюць аб тым, што я гей, ды прапаноўвалі мне адкрыцца ў «шчырай размове». Гэтых людзей я заблакаваў, але, калі вычварэнцам з КДБ цікава, сёння я прызнаюся: я не гей.

На завяршэнне мне пагражалі «петушатнямі» ў зоне.

Зважаючы на шантаж і тое, што я не вёў ніякай злачыннай дзейнасці, не ведаю ніякіх сакрэтаў — я вырашыў даваць паказанні. Пасля таго, як мы паразмаўлялі прыватна, гэбэшнікі загадалі паўтарыць усё гэта пры адвакаце і далі мне на подпіс паперу аб супрацы. Пад псеўданімам Артур я падпісаў супрацу з КДБ, разважаючы аб тым, што па вызваленні прызнаюся аб гэтым маім сябрам. І сёння я каюся ў гэтым учынку перад Богам і людзьмі. Калі нехта мяне асуджае за ўчыненае, я лічу, што кожны мае на тое поўнае права», — напісаў Сяргей Пальчэўскі.

Хто такі Сяргей Пальчэўскі? Маладафронтавец стаў вядомы пасля таго, як лёг пад колы грузавіка і прыкаваў сябе кайданкамі да бампера, каб спыніць будаўнічыя работы ў Зялёным Лузе каля Курапат.

Сяргей Пальчэўскі — мінчук, скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт, а цяпер зарабляе цяслярствам. Раней ён працаваў майстрам на заводзе «Атлант».

У 2012 годзе ён прыйшоў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю, а крыху больш за год таму пазнаёміўся са Змітром Дашкевічам і стаў актывістам «Маладога фронту».



НАСТАССЯ РОЎДА

**Ці спрабавалі вас завербаваць спецслужбы?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 255 | 20% |
| Не | 801 | 63% |
| Не ведаю | 124 | 10% |
| Я сам вербаваў | 94 | 7% |

# Наста Дашкевіч (Палажанка): У 2011 я падпісала паперку ў КДБ, але агентам мяне ніхто не спрабаваў зрабіць

Маладафронтавец Мікалай Дземідзенка агучыў інфармацыю, што ў лютым 2011 года падпісаў дакумент аб супрацоўніцтве са спецслужбамі. Па яговых словах, у той самы момант у суседнім пакоі падобную паперку падпісвала зняволеная па справе Плошчы-2010 Наста Палажанка (цяпер — Дашкевіч).

«Наша Ніва» паразмаўляла аб той гісторыі з Настай.

«У прынцыпе, Мікола кажа праўду. Наўрад ці ягоны подпіс аб супрацоўніцтве неяк паўплываў на маё вызваленне. Гэта ўсё было вырашана раней, але спецслужбісты ўдала маніпулявалі на гэтым. Праўда і тое, што Мікола адразу ўсім расказаў усё.



Што тычыцца мяне, то 17 лютага ў мяне быў складаны дзень — допыты. Потым мне паведамілі: «Сёння ты выходзіш на волю». Перад вызваленнем павялі на яшчэ адзін допыт, дзе прапанавалі падпісаць паперку. Сказалі, што Зміцер Дашкевіч у зняволенні, каб аблегчыць яго лёс.

«Вось папера, садзіся пішы», — далі чысты аркуш. Я нават не памятаю, што там было. Здаецца, нейкая абсалютна дзяжурная фраза аб сустрэчах.

На сувязь са мной за ўвесь гэты час так ніхто і не выходзіў. Я мела некалькі размоваў з кадэбэшнікамі ў час следчых дзеянняў па маёй крымінальнай справе. Гаварылі на палітычныя тэмы. Нічога такога, што б я не магла сказаць у любым інтэрв'ю, я не казала. Я тады займала жорсткую пазіцыю па санкцыях, яны мяне спрабавалі пераканаць у адваротным.

Калі Змітра Дашкевіча асудзілі на 2 гады зняволення, то ніякіх сувязяў не было зусім. Ніхто мяне не шантажаваў, не казаў спыніць дзейнасць. Я лічу, што агучваць трэба, калі ты знаходзішся на кручку, каб яго абарваць. Але нічога падобнага ў мяне не было. З мяне не спрабавалі зрабіць «агента ўплыву» — ці як гэта называецца?

Пасля падпісання таго дакумента ў маім жыцці абсалютна нічога не змянілася, ён ніяк не паўплываў на мае далейшыя дзеянні».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Вернікі жывым шчытом абаранілі царкву «Новае жыццё» ад судовых выканаўцаў

Судовыя выканаўцы спрабавалі патрапіць у будынак пратэстанцкай царквы «Новае жыццё». Паводле атрыманых папераў, вернікі мусілі вызваліць памяшканне да 26 красавіка.

Дзясяткі чалавек сталі жывым шчытом перад дзвярыма, не пускаючы судовых выканаўцаў.

«Былі судовыя выканаўцы, але зараз сышлі ўжо. Дзякуй Богу! Міліцыя таксама прыязджала, але сабраліся нашы браты — каля 100 чалавек — і міліцыя не палезла. З'ехалі. Выканаўцы таксама з'ехалі, але сказалі, што справа будзе працягвацца, бо яны павінны выканаць рашэнне суда ад 2009 года — ніяк не могуць выканаць. Па гэтым рашэнні мы павінны пакінуць наш будынак, але мы нікуды не збіраемся сыходзіць. Выканаўцы прапанавалі нам вырашаць гэтае пытанне з уладамі. Мы імкнёмся гэта рабіць, але ж улады нешта не ідуць пакуль на кантакт», — адзначыў юрыст пратэстанцкай супольнасці Сяргей Луканін у каментары *Krynica.info*.

Прычыны, чаму ўлады зноў спрабавалі выселіць царкву менавіта зараз, Сяргей Луканін не ведае. «Перыядычна, недзе раз на год, яны нас турбуюць такімі пытаннямі, але ж года паўтара не было іх чуваць. Чаму — не ведаем», — паведаміў юрыст.

# У Беларусі 19% цяжарнасцяў сканчваюцца абортамі, у Расіі — 30%, у Літве — 13%

Колькасць абортаў у Беларусі скарачаецца год за годам.

Статыстычныя падлікі вядуцца ад пачатку 1960-х, і да 2002 года колькасць абортаў пастаянна перавышала колькасць нараджэнняў.

Паводле статыстычных дадзеных, летась у Беларусі было зафіксавана 27467 перарыванняў цяжарнасці (пазалетась — 29217).

Такім чынам, абортамі скончыліся 19% цяжарнасцяў (у 2015 годзе было 19,8%).

Наколькі беларуская сітуацыя адрозніваецца ад суседніх краін?

Напрыклад, у Расіі перарываюцца 30,4% цяжарнасцяў, а ў Літве — 13,1% (гэта дадзеныя за 2015 год).

Што да сітуацыі па беларускіх рэгіёнах, то абортамі скончылася наступная доля цяжарнасцяў:

Міншчына — 13,5%
Брэстчына — 15,4%
Гродзеншчына — 16,2%
Магілёўшчына — 18,6%
Мінск — 19,5%
Гомельшчына — 24,3%
Віцебшчына — 24,6%

**Браніслаў Юрэвіч**

# Прэзідэнтам Францыі стане кандыдат, жанаты з жанчынай, на 24 гады старэйшай за яго?

Шанцы на перамогу мае левы ліберал Эманюэль Макрон і 48-гадовая Марына Лё Пэн — дачка заснавальніка Нацыянальнага фронту Жан-Мары Лё Пэна.

Расійская прэса падае Лё Пэн абаронцай традыцыйных каштоўнасцей. Але пра тое, у якой атмасферы яна гадавалася, красамоўна сведчыць той факт, што за хрышчонага ёй бацька запрасіў галоўнага сутэнёра парыжскага раёна пляс Пігаль.

Іншы яскравы факт: стаўшы лідарам партыі, Марына выключыла з яе свайго тату. Такім чынам яна спрабавала змяніць яе імідж. Антысемітызм старога Лё Пэна ёй не прыдаваўся.

Лё Пэн па адукацыі адвакат, але па прафесіі амаль не працавала, з маладосці пайшла ў палітыку.

Яна была двойчы замужам, а апошнія 8 гадоў жыве нераспісаная з паплечнікам па партыі. 39-гадовы Макрон быў самым маладым кандыдатам. Найбольш незвычайны факт з яго асабістага жыцця — ён у 17 гадоў сышоўся са сваёй ліцэйскай настаўніцай французскай мовы, старэйшай за яго на 24 гады. Іх раман аказаўся моцны, не аднадзённы. Ажэніцца яны толькі праз 12 гадоў, калі яму было 29, а ёй — 53. Дзеля гэтага Брыжыт Траньё, маючы трое дзяцей, разышлася з першым мужам.



У выпадку перамогі Эманюэль Макрон стане не толькі самым маладым прэзідэнтам Францыі, але і першым у свеце кіраўніком дзяржавы, чыя жонка настолькі старэйшая за яго. Фота Ройтэрз.



Марына Лё Пэн і яе цяперашні спадарожнік жыцця і правая рука па партыі Люі Альё. Фота Closer.

«Гэта я ўгаварыла яго ісці ў прэзідэнты цяпер, — сказала ягоная жонка, — праз пяць гадоў праблемай для яго была б мая морда [ma gueule]», — пажартавала Траньё.

Ёй цяпер 63, супольных з Макронам дзяцей у іх няма. У часе кампаніі ў сацсетках былі запушчаныя чуткі, што Макрон у асабістым плане «вядзе падвойнае жыццё», але бруд да Макрона не прыстаў.

Макрон атрымаў філасофскі дыплом, а пасля скончыў Нармальную школу адміністрацыі (яе можна груба параўнаць з нашай Акадэміяй кіравання).

Ён пачынаў кар'еру ў дзяржаўнай інспекцыі фінансаў, а пасля сышоўся з фінансістамі групы *Nestle* і банка *Rothschild*. Толькі за два гады, з 2010 да 2012, ён як банкір зарабіў больш за 2 мільёны еўра. У 2012 годзе яго, беспартыйнага, прызначаюць міністрам фінансаў у сацыялістычны ўрад, што адкрывае яму дарогу ў палітыку.

**Першы тур:**
Макрон — 24%
Лё Пэн — 21,3%
Фіён — 20%
Меланшон — 19,6%

Макрон — не першы цэнтрыст у гісторыі, які можа стаць прэзідэнтам Францыі. Да яго быў, напрыклад, Валеры Жыскар д'Эстэн у 1980-я. Але ўпершыню прэзідэнтам «шасцікутніка», як яшчэ называюць Францыю, можа стаць чалавек без партыі. Макрон абапіраецца на створаны пад выбары чыста паліттэхналагічны рух *En marche* («У рух» або «Наперад»).

Макрон — відавочны ўлюбёнец фінансавых колаў Францыі. Ён таксама, відаць, падаецца Маскве найгоршым кандыдатам.

У Францыі — прэзідэнцкая рэспубліка, таму ад прэзідэнта залежыць шмат. Прэзідэнтамі краіны часта станавіліся значныя гістарычныя постаці. Шарль дэ Голь трымаўся правых нацыяналістычных поглядаў, Жорж Пампіду праславіўся як унікальны знаўца і мецэнат мастацтва, Франсуа Мітэран быў ветэранам-партызанам і сацыялістам, які, аднак, ідэальна ладзіў з Рональдам Рэйганам.

Праграмы кандыдатаў сапраўды істотна розняцца. Лё Пэн хоча выхаду з зоны еўра, разрыву адносін з ЗША і збліжэння з Расіяй. Макрон паходзіць з традыцыйнага істэблішменту і схільны працягваць палітычны курс Францыі апошніх дзесяцігоддзяў.

Лё Пэн, спадзяюцца ў Расіі, аслабіла б Еўрасаюз і НАТА — стратэгічныя задачы Крамля.

**Сяргей Гезгала**

# Як Качанава за паўгода абагнала ў чарзе на жыллё 10530 жыхароў Цэнтральнага раёна Мінска

«Чарга на паляпшэнне жыллёвых умоў» у Мінску — досыць эфемерная рэч. Агулам у спісе больш за 200 тысяч сем'яў, а за мінулы год права пабудавацца атрымалі толькі 626 чалавек. Праз такія тэмпы будаўніцтва чарга фактычна спынілася на тых, хто запісаўся ў яе ў канцы 1980-х.

Аднак многія ўсё адно запісваюцца ў ільготны спіс — на ўсялякі выпадак. Каб зрабіць гэта, трэба пражыць у сталіцы 10 гадоў. Аднак ёсць і выключэнні — вайскоўцы, суддзі і іншыя падобныя катэгорыі. Звычайна яны будуюцца ў ведамасных дамах.

Зрэшты, існуюць і выключэнні з выключэнняў. Інтэрнэт-партал Мінгарвыканкама дазваляе адсачыць, якое месца ў чарзе займае той ці іншы грамадзянін.

Нашу ўвагу прыцягнуў выпадак Наталлі Качанавай, цяперашняй кіраўніцы Адміністрацыі прэзідэнта. Яна разам з мужам пераехала ў Мінск у снежні 2014 года, калі была прызначаная віцэ-прэм'еркай. Спачатку жыла ў гатэлі, пасля, мусіць, на тэрыторыі рэзідэнцыі Драздны.

Сайт Мінгарвыканкама паведамляе, што грамадзянка Наталля Іванаўна Качанава (дата нараджэння — 25 верасня 1960) стаіць на ўліку ў Цэнтральным раёне Мінска са складам сям'і 2 чалавекі. Яна знаходзіцца ў агульным спісе з 14 чэрвеня 2016 года пад нумарам 10532. Апроч таго, Качанава ўключана ў асобны спіс з 14 чэрвеня 2016 года, яе нумар у гэтым спісе — 3.




Наталля Качанава — у цэнтры.

Чыноўніца (на той момант віцэ-прэм'ерка па сацыяльных пытаннях) упершыню з'явілася ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў у чэрвені 2016 года. І ўжо ў кастрычніку 2016 года Мінгарвыканкам выдзеліў ёй участак пад забудову ў «Драздах-2».

Такім чынам, Качанава змагла вырашыць сваё кватэрнае пытанне за чатыры месяцы, абышоўшы ў чарзе 10530 жыхароў Цэнтральнага раёна Мінска.

Што такое 10 тысяч чалавек, якіх абагнала Качанава?

Гэта, напрыклад, аўдыторыя аншлагавага канцэрта Сяргея Міхалка на «Мінск-Арэне».

**Ягор Марціновіч**

# Адміністрацыя прэзідэнта прапанавала Алексіевіч узначаліць камісію па выбары помніка ў Курапатах

Нобелеўскаму лаўрэату па літаратуры Святлане Алексіевіч патэлефанавалі з прэзідэнцкай адміністрацыі і прапанавалі ўзначаліць камісію па вызначэнні варыянта помніка ў Курапатах.

— Я не хачу гэта абмяркоўваць. У нас адбылася складаная размова, — сказала Святлана Алексіевіч у інтэрв'ю радыё «Свабода».

**— Але што вы скажаце пра абвешчаны конкурс эскізаў памятнага знаку ў Курапатах?**

— Я нават не вельмі добра была падрыхтаваная да гэтай размовы, я не вельмі добра ведаю. Там ужо нейкія канфлікты. Мне спрабавалі распавесці. Але паколькі я гэтым не думала займацца, я адзінае сказала, што там павінны быць людзі, для якіх Курапаты былі справай жыцця. І ўзначальваць такую камісію меў бы права толькі Пазняк. І там павінна быць больш людзей, якія насамрэч зрабілі Курапаты Курапатамі.

**— Зянон Пазняк звярнуўся да мастакоў, архітэктараў і скульптараў, каб яны не ўдзельнічалі ў гэтым конкурсе, у гэтай прафанацыі, як ён сказаў…**

— Я не ведаю. Магчыма, яны і шукалі такую прымірэнчую фігуру. Я не зусім у курсе гэтай справы. Але Пазняк, я думаю, таксама не мае рацыі. Там павінен стаяць помнік. Шкада, што без яго, але гэты помнік павінен там быць.

**— Значыць, вы адмовіліся ад прапановы прэзідэнцкай адміністрацыі…**

— Ну, зыходзячы з таго, што я дрэнна сабе ўяўляла... Людзі сядзяць у турмах, столькі арыштаў было на Дні Волі, такая нянавісць, з такой нянавісцю білі людзей. Таму неяк дзіўна было б мне ўдзельнічаць ва ўсім гэтым.

# Як мы пабаролі дзедаўшчыну

На ўласным досведзе піша **Антон Клімовіч.**

Спадзяюся, мае занатоўкі дапамогуць новым прызыўнікам псіхалагічна падрыхтавацца да салдацкага побыту.

### Недарэчнае пытанне да генерала

У канцы мая, пад самую квецень садоў, забралі мяне ў войска. Сціплыя провады зладзілі сябры — калегі па рок-гурце. Сабраў у заплечнік зубную шчотку, шкарпэткі ды падаўся да ваенкамата.

Там вызначылі мне службу ў мотастралковай дывізіі. І марудна пацяклі дні.

Кармілі няблага. Толькі перапынкі паміж сняданкам і абедам велікаватыя, і ў чаканні абедзеннага стала ў страўніку салдата — буркатня. Гэта, як кажуць хлопцы, кішка кішку даганяе.

Цяжка прывыкалі і да абутку. У першыя ж дні большасць да крыві здзерла грубай скурай ботаў пяты і пальцы ног. А без здаровых ног, вядома, няма настрою на боегатоўнасць.

А калі гаварыць пра маральны аспект службы, то вельмі дакучалі мацюкі афіцэраў гарнізона.

Прызнаюся, я таксама мацюкаўся, як і моладзь вакол мяне. Звычайна каб эмацыйна вылучыць значнасць негатыўнай падзеі ці пры недахопе слоў.

У войску ж мацюкі ідуць «сплашняком»: адно нармальнае слова, а далей дзесяць нефармальных.

За час службы салдаты павялічылі слоўнікавы запас негатыўнай лексікі ў дзясяткі разоў. Камбінацыі шмат якіх слоў канфузілі ці смяшылі да слёз. У нармальным грамадстве паўтарыць іх нельга.

Афіцэры ўжывалі іх не толькі калі абураліся. Мацюкі сыпаліся нават тады, калі афіцэры намагаліся салдат пахваліць ці падбадзёрыць. Стварылася ўражанне, што з'явілася яшчэ адна мова — усеагульная, якую разумеюць без перакладу.

У першы дзень службы афіцэр вучыў салдат:

— Вы павінны быць вышэйшымі на галаву па культуры паводзін за тых хлопцаў, якія ходзяць у цывільным. Вы павінны памятаць усе ветлівыя словы і выкарыстоўваць іх, калі звяртаецеся да іншых людзей. Заўсёды памятайце, што вы прадстаўляеце наша слаўнае беларускае войска, цывілізаванае, добра выхаванае...

Наш патрыятычны дух падскочыў высока пасля тых слоў. Мы выпнулі грудзі, ганарліва агледзелі ваколіцу і адзін аднаго арліным поглядам. Але гэты горды дух з нас выпусцілі на першых жа практычных занятках.

Пасля таго, як афіцэр ахарактарызуе ўсе часткі нашага цела на ўсеагульнай мове, арлінага погляду ніяк не атрымліваецца. Пад уздзеяннем мацюкоў кожны з нас у думках ацэньваў сябе ніжэй за плінтус. Як у анекдоце: калі чалавеку сто разоў скажуць, што ён — свіння,то ў сто першы раз ён зарохкае.



**Антон Клімовіч**

24 гады, скончыў Педуніверсітэт імя Максіма Танка, настаўнік фізікі і інфарматыкі, музыка ў андэграўндным гурце.

Дарэчы, віртуозам па мацюках у нашай часці прызналі афіцэра, які адказваў за ідэалагічную работу.

Чаму такая завядзёнка ў войску? У першыя месяцы службы ў мяне з'явілася магчымасць спытаць пра гэта генерала.

У час навучання пры вайсковым цэнтры, дзе праходзіла падрыхтоўку тысяча салдат, аб'явілі сход для ўсіх навучэнцаў. На сходзе можна было задаць пытанні па побытавых і службовых праблемах.

Салдаты пыталіся пра рэжым і нормы харчавання, выказвалі пажаданні наконт параднага абмундзіравання і прасілі ўдасканаліць парадак накладання спагнанняў. Пад заслону сходу я, па ўсёй форме назваўшыся, задаў пытанне таксама:

— Чаму ў войску так непамерна мацюкаюцца?

У зале наступіла пранізлівая цішыня.

Пасля паўзы, марудна падбіраючы словы, генерал намагаўся растлумачыць папулярнасць «усеагульнай» мовы спецыфікай службы і канцэнтрацыяй на невялікай тэрыторыі асоб мужчынскага полу.

У канцы маналога генерал прызнаў: мацюкі — гэта нядобра.

Ужо ў час сходу на мяне, як на аўтара няёмкага пытання, афіцэры пазіралі няўхвальна. Пасля сходу нас пашыхтавалі асобна ад іншых. Прагучаў загад камандзіра:

— Крок наперад радавому, які агучыў пытанне пра мацюкі.

Выйшаў уперад, адрэкамендаваўся. У мяне спыталі:

— Кім працаваў да службы?

— Настаўнік у школе.

Афіцэр пахадзіў туды-сюды ўздоўж шэрагу. У зморшчынах яго лба чыталася думка: быццам бы настаўнік і павінен пратэставаць супраць мацюкоў. Дык за што ж яго пакараць?

—Колькі разоў падцягваешся на турніку? — наступнае пытанне.

—Дваццаць, — адказваю.

І зноў моршчыць лоб афіцэр: моцны арэшак папаўся, лепш пакуль не накладаць спагнанне. Але трэба неяк разрадзіць абстаноўку. І ён расказаў анекдот.

З'явілася ідэя ў Міністэрстве адукацыі: правесці даследаванне ў дзіцячым садку, школе і войску на частотнасць выкарыстання мацюкоў. Ва ўстановах павесілі спецыяльныя гадзіннікі, у якіх пры кожным мацюку стрэлкі скакалі на хвіліну ўперад. Праз тыдзень інспектары прыйшлі ва ўстановы з праверкай. У дзіцячым садку гадзіннікі апераджалі час на шэсцьдзясят хвілін, у школе — на дзесяць гадзін, а ў салдацкіх казармах гадзіннікі зніклі.

— Дзе гадзіннікі? — спыталі ў днявальнага.

— Сяржант загадаў выкінуць на ... гэтыя вентылятары.

Афіцэр скончыў выступленне словамі, што лаяцца, вядома ж, нядобра, і камандны склад будзе ўдасканальваць культуру маўлення. І ў гэты момант з боку стрэльбішча пачулася: «Так вашу ... ... ... б... х... в ... і с... на ... ... і ...!» Гэта лейтэнант праводзіў заняткі па баявой падрыхтоўцы з салдатамі.

А пакаранне я атрымаў праз два дні пасля сходу. У час вучэбных заняткаў прыплюшчыў вочы. І тут жа побач намаляваўся лейтэнант з пытаннем:

— Чаму з заплюшчанымі вачамі слухаеш лекцыю? Два нарады па-за чаргой!

Адправілі чысціць прыбіральні. Магло быць горш.

### Камандзір

Бабёр. Такая мянушка ў маёра, аднаго з нашых камандзіраў. Ён немалады, і не сказаць, што пажылы. Якраз у тым веку, калі пра мужчыну кажуць: у росквіце сіл.

Але наш Бабёр заўважна стаміўся ад службы. Магчыма, гэта ад ізаляванасці жыцця, бо вайсковая часць размешчана ў лесе, далёка ад гарадоў.

Жылы дом камандзіра месціцца побач з казармамі. У працоўны і вольны час ён бачыць толькі салдатаў ды афіцэраў. Дзень за днём адно і тое ж.

Вось чарговы выхадны выпадае на зазімак. Жонка Бабра выправіла яго пагуляць з шасцігадовай дачкой. Ён выйшаў на ганак, агледзеў знаёмыя прасторы і задумаўся: куды павесці дзіця? Усе сцежкі ў лесе таптаныя-ператаптаныя, усе казармы па сто разоў агледжаныя. Толькі замерзлая лужына каля лесу — нешта новае ў пачатку зімовага сезону.

— Гайда, дачушка, катацца, — кажа бацька. І яны ўдваіх гадзіну коўзаюцца па тонкім лёдзе на падэшвах ботаў: туды-сюды. Потым стала нудна так забаўляцца ўдваіх. І бацька вырашыў прыцягнуць да забавы на лёдзе салдат. А ў іх па распарадку дня — ціхая гадзіна.

Салдаты цэняць гэты час, бо штодня а шостай раніцы пад'ём, а пасля заняткамі і працай шчыльна загружаны дзень. Таму 60 хвілін адпачынку днём — раскоша. Але калі Бабёр вырашыў, то паступіла каманда: пад'ём, марш на прагулку. І салдаты заслізгалі па лёдзе. Праз некаторы час катокператварыўся ў цёмную брудную лужыну, раскалмачаную салдацкімі ботамі.

Ніхто са служывых не атрымаў задавальнення. Ім шкада было гадзіны адпачынку, якую скраў у іх старшы па званні. А ён, адпачыўшы на імправізаванай коўзанцы, адправіўся дадому абедаць.

Вечарам камандзір кінуў кліч, каб салдаты скінуліся на пяць тысяч рублёў (старымі) яму на бутэльку гарэлкі. Заробак Бабра пад кантролем жонкі, а выпіць у выхадны вельмі захацелася.

Салдаты сабралі падатак і ўручылі камандзіру. У думках без злосці нават пажадалі: выпівай, калі табе вельмі ўжо трэба. Яму трэба. Ён страчвае розум, нудзіцца ў глухім гарнізоне і співаецца.

За год службы гэта быў адзіны выпадак пабораў афіцэра з салдат на бутэльку гарэлкі.

### Гульня, якую прыдумалі дарослыя

Да службы ў войску мне даводзілася выслухаць нямала

**Ва Узброеных сілах Беларусі**

служыць і працуе 65 тысяч чалавек. З іх 48500 вайскоўцаў і 16500 цывільных.

расповедаў пра дзедаўшчыну.

Расказвалі знаёмыя, хто ўжо адслужыў. Звычайна яны сканчалі свае апавяданні так: ты — не хлюпік, са спортам сябраваў, абаронішся, калі спатрэбіцца сіла.

Першыя тры месяцы ў вучэбцы слядоў дзедаўшчыны не заўважыў. Шчыра служылі сяржанты: вучылі маладых салдат усяму, што самі ўмелі. Сяржантаў строга кантралявалі афіцэры.

Калі мы, маладыя салдаты, прыбылі ў рэгулярную часць, нам зладзілі сустрэчу дзяды. Першыя іх словы былі пытаннем: вы як будзеце жыць — па статуце ці па дзядусе? Я, у прыватнасці, адказаў: як усе. Што тут іншае скажаш у першыя дні службы?

Прайшоў тыдзень, і стала зразумела, што дзедаўшчына — гэта гульня, якую прыдумалі дарослыя людзі.

Усе салдаты па ўмовах гульні падзяляюцца на сланоў, чарпакоў і дзядоў. Сланы — маладыя салдаты, якія пачынаюць службу. Яны павінны падпарадкоўвацца чарпакам і дзядам. Для сланоў — найгоршыя ўмовы ў побыце.

Напрыклад, у сталоўцы дзяды сядзяць каля сцяны, дзе найзручней, чарпакі — пасярод залы, а для сланоў вызначаны апошнія шэрагі сталоў на ўваходзе, самыя нязручныя. У буфеце сланам можна купляць толькі мінеральную ваду і халву, у прыбіральні для іх вызначаны спецыяльныя пісуары, мабільным тэлефонам можна карыстацца толькі ў вызначаны час (дзяды карыстаюцца мабільнікам вольна).

Мне яшчэ ў вучэбцы далі званне сяржанта. Але я ўсё роўна вымушаны быў падпарадкоўвацца салдату-чарпаку. Калі мне загадае чарпак прынесці булку ці курыва з буфета, я павінен купіць гэта за свае грошы.

Абрад пасвячэння ў салдаты, прыдуманы дзядамі, мякка кажучы, бянтэжыў. Уявіце перакуленую табурэтку, над якой ставяць салдата ракам і сцябаюць папругай па голым азадку столькі разоў, колькі месяцаў яму служыць — васямнаццаць у большасці выпадкаў.

Я катэгарычна адмовіўся ўдзельнічаць. Напэўна, у мяне быў шалёны выгляд чалавека, здольнага даць адпор, калі хто будзе настойваць. Таму ад мяне з той табурэткай адступіліся.

Пасля давялося пачуць, як малады салдат расказваў пра гэты абрад сябру, што прыехаў да яго на выхадны. У яго голасе чулася захапленне тым момантам, калі яго дралі па голым азадку папругай.

Ён не адчуў сябе прыніжаным. Яму было цікава гуляць у дзедаўшчыну. З-за такіх хлопцаў, звыклых да прыніжэння, гатовых да рабскай паслухмянасці, і нараджаюцца тыя правілы гульні.

Правілы дзедаўшчыны дыктуюць: чым паслухмянейшы салдат, тым хутчэй пераходзіць у наступнае саслоўе, а непакорных і дзёрзкіх караюць.

Непакорны мае шанец выстаяць, калі моцны фізічна. Ён можа ў адказ на агрэсію даць у лоб таму ж чарпаку.

## Пералом

Жывучасць дзядоўскіх абрадаў залежыць і ад падбору салдат у часці. Калі верхаводзяць жарсткаватыя і тупаватыя хлопцы, чакай бяды.

Прыніжаны і пабіты салдат з маладых можа сарвацца ва ўцёкі ці стрэліць па жывой мішэні. І пакараюць яго, а не таго, хто яго давёў.

Салдатам, якія толькі прыйшлі на службу, цяжка падпарадкоўвацца. Пасля працоўнага дня на стрэльбішчы, па калена ў снезе, альбо на рамонце баявой тэхнікі думаеш толькі, як дабрацца да пасцелі. І ў гэты момант дзед знаходзіць табе заняткі: ля яго прыбяры, збегай яму курыва прынясі. У такія хвіліны напружанне дасягае мяжы.

Пералом у жыцці нашага падраздзялення наступіў пасля вяртання групы салдат з камандзіроўкі. Мы адсутнічалі ў часці месяц і засталіся па-ранейшаму сланамі. За гэты час саслужбоўцы, што прызываліся адначасова з намі, павысіліся, сталі чарпакамі. У першы ж дзень яны намагаліся прадэманстраваць уладу: паслаць па булкі. Мы ў адказ абурыліся:

— Што выпендрываецеся? Вы ж такія, як і мы.

А яны ў адказ:

— Мы вышэйшыя за вас, падпарадкоўвайцеся чарпакам.

Мы аб'ядналіся вакол лідара нашай групы, Аляксандра, здаровага хлопца, прыдумалі тактыку паводзін і абвясцілі:

— Мы больш не служым па дзядусе, а толькі па статуце. Ніякіх чарпакоў і дзядоў не прызнаём. Да тых, хто служыць другі год, будзем ставіцца з павагай. Па іх просьбе можам і булку прынесці, і падлогу памыць, але толькі па просьбе і без зневажальных загадаў.

Нам спрабавалі пагражаць. У адказ мы прадэманстравалі рашучасць і бугры-мускулы Аляксандра.

Той не цырымоніўся:

— У лоб дам, калі будзеце задзірацца.

Падраздзяленне стала жыць па статуце. Але ж час ідзе: хто прыйдзе пасля нас на месца дзядоў? Не факт, што не ўзновяць яны прыніжэнні маладых салдат.

## Якія яны, сучасныя салдаты?

Розныя — адкажу, — але ёсць супольныя рысы, каб выдзеліць іх у грамадзе.

У нашай часці служылі ў большасці дзеці простага люду, з сем'яў рабочых і калгаснікаў. Для іх характэрны невысокі ўзровень адукацыі: школа, вучылішча, радзей — каледж.

У дні наведвання роднымі і блізкімі на паркоўцы каля часці стаяць самыя танныя паношаныя аўтамабілі. І вопратка іх бацькоў сціплая, і «паляну» для свайго дзіцяці яны накрываюць пасялянскую: прадукты ў асноўным з прысядзібных сотак. Іх дзеці — талковыя салдаты, цярпліва вучацца вайсковаму майстэрству, цягавітыя, звыклыя да працы.

За час службы не выявіў ніводнага салдата, у якога бацькі былі б па нашых мерках багатыя. Відаць, уласнікі заводаў, фірмаў і параходаў не пасылаюць сыноў служыць альбо яны служаць у іншых месцах. Тых, хто скончыў вышэйшую навучальную установу, таксама сустрэнеш рэдка.

Праўда, прыйшлося назіраць аднаго салдата, якога прызвалі пасля ўніверсітэта. Лейтэнант на занятках тлумачыў прынцып дзеяння вайсковай тэхнікі па законах фізікі. Затым перадаў указку адукаванаму салдату, загадаўшы: працягвай. Салдат упэўнена працягнуў лекцыю. Пасля заняткаў афіцэр спытаў у яго: што ты тут робіш, калі ўсё ведаеш?

Салдату, па сутнасці, сказалі, што ён дарэмна марнуе час.

Яшчэ адзін разумнік апынуўся ў салдатах выпадкова. У яго і век сыходзіў з прызыўнога, і жанаты быў, і меў дзяцей. Але прыйшла павестка, ён паспяшаўся з'явіцца ў ваенкамат, упэўнены ў чарговай адтэрміноўцы... І аказаўся ў войску. Служыў выдатна.

Дарэчы, у войску ўвагу прыцягваюць нестандартныя салдаты. Служыў адзін з мянушкай Туманны. Юра скончыў ВНУ, вывучаў камп'ютары. У камп'ютарах разбіраўся, але ў войску павінен быў вучыцца страляць, арыентавацца на мясцовасці, рамантаваць тэхніку. Усё гэта ніяк не мог спасцігнуць. Гэты салдат быў нібы дзесьці ў іншым вымярэнні. Думаў зусім не пра тое, што пабач, і погляд яго быў адпаведны.

У час вучэнняў Туманны трапіў у палон да дыверсантаў «ворага», калі некуды крочыў, нічога не заўважаючы вакол. Яго аглушылі, скруцілі і завалаклі ў палатку для допыту. Надавалі тумакоў, застаўся шнар на галаве. Яшчэ Туманны ўмудрыўся прыпячы руку аб грубку, якая стаяла ў «варожай» палатцы для абагрэву. Праз суткі Туманнага вызвалілі з палону. Два дні ён адлежваўся ў лазарэце, а на трэці зноў крочыў па пляцы з выглядам іншапланетніка і з баявым аўтаматам, які целяпаўся ў яго на баку. На пытанне сяржанта, ці баляць сінякі, адказаў:

— Не, мне добра, лепей за іншых.

І пашкандыбаў далей. А сяржант насцярожана праводзіў яго позіркам і падумаў, што лепш бы не даваць зброю ў рукі такім Туманным.

Двух салдат, падобных да яго, спісалі з войска пасля вучэнняў. Ім было даручана чысціць жэрлы танкавых гармат. Пасля ад першага ж снарада жэрала разарвала. Салдат-чысцільшчыкаў не судзілі, бо ў першыя месяцы службы было заўважана, што яны, мякка кажучы, неадэкватна сябе паводзілі.

Як яны праходзілі медкамісію, дзе былі вочы і розум спецыялістаў, якія прызналі іх годнымі? Часам здаецца, што мабілізацыя ў нашай краіне падобная да невада. Закінулі — хто папаўся, той і заняў месца ў вайсковых шэрагах.

## Адслужыў, чаму навучыўся?

Калі прыйшоў час дэмабілізавацца, я прааналізаваў: чаму навучыўся за час службы, што каштоўнае ўзяў адсюль і панёс далей у жыццё. Што пасталеў, навучыўся стрымліваць эмоцыі, дысцыплінаваць сябе — гэта факт. Але, калі ішоў служыць, спадзяваўся даведацца больш. Дарэчы ўспомніць рэкламны ролік па тэлевізары, дзе бравы палкоўнік, рэкламуючы службу, звяртаецца да юнака:

— Ну што, сынку, у войска хочаш?

Маўляў, мы цябе навучым і з парашутам скакаць, і страляць, і з любой тэхнікай спраўляцца. Можа, дзе і вучаць так, ды толькі ў нашым дывізіёне рэклама далёка апярэдзіла сапраўднае становішча. У вучэбным цэнтры нам далі тэарэтычную падрыхтоўку, а вось практыка пайшла куды слабей. Магу пералічыць практычныя дзеянні на пальцах.

Адзін раз на палігоне наблізілі ўмовы да баявых: танк прасаваў акоп, у якім я сядзеў. Другі раз мы вучыліся кідаць баявую гранату. Толькі замест салдат гранаты ўвесь дзень кідаў інструктар-падпалкоўнік.

— Мне так спакайней, — тлумачыў ён.

Трэці раз мы выехалі на вучэнне экіпажамі на лёгкабраніраваных танках. Вось і ўсе практычныя заняткі.

Большую частку службы чысцілі, змазвалі зброю, пераносілі скрынкі з боепрыпасамі. А па паперах у гэты час у нас былі вучэнні экіпажаў, абарона і г.д.

Падрыхтаванасць войска павінна быць вышэйшай, чым цяпер. І гэта залежыць у першую чаргу ад настроенасці афіцэраў. Мне пашанцавала назіраць, як служыў адзін талковы лейтэнант. Казалі, што ён з сям'і патомных вайскоўцаў. Ён строга патрабаваў ад салдат выканання статуту, пры гэтым не прыніжаў іх годнасці. Спакойна тлумачыў тое, што мы не разумелі, а ў вольны час займаўся з намі на спартыўнай пляцоўцы. Праз некалькі месяцаў ён вымушаны быў звольніцца, бо ў афіцэрскім асяродку яго не прынялі як свайго.

Большасць афіцэраў дэманстравала салдатам такі лозунг: «Ты хто такі? Ты ніхто і ніякі». Са слоў лейтэнантаў, старшыя над імі гэтак жа не паважалі іх.

У час службы афіцэры мелі над салдатамі поўную і безагаворачную ўладу. Гэта ўлада была і ў тым, каб перакласці выкананне сваіх абавязкаў на таго, хто ніжэй па службовай лесвіцы. Узяць хоць водпускі. Каб салдат атрымаў адпускное прадпісанне, афіцэр мае запоўніць стос папер. Але гэтыя паперы запаўняе, піша, носіць па інстанцыях сам салдат, які хоча ў водпуск. Афіцэры толькі правяраюць, ці правільна напісаў. Часцей за ўсё гэта выглядала так.

Салдат прыносіць запоўненыя паперы на водпуск. Афіцэр чытае і рве паперы, бо, на яго погляд, яны няправільна складзены. Ён дае свае рэкамедацыі, як запаўняць лісты. Салдат зноў запаўняе і прыносіць новаму афіцэру, які заступіў на дзяжурства. Той таксама кідае пісаніну ў сметніцу. Такая «гульня» можа доўжыцца месяцы. Некалькі салдат так і не пайшлі ў водпуск, стаміўшыся пісаць.

Такім чынам, звальняючыся ў запас, я хацеў пакінуць свае пажаданні. Каб нашы вайскоўцы ўдасканальваліся ў вайсковых умельствах і не забываліся на маральны дух салдат. І яшчэ пра тое, што бяздумнае падпарадкаванне робіць з вайскоўцаў прыслугу, а не баявых салдат, якія павінны служыць Айчыне.

Вось так я аформіў свае пажаданні ў выглядзе запісак.

### Як служыў у 1940-я мой прадзед

Мой прадзед па мацярынскай лініі ноччу 22 чэрвеня 1941 быў у дазоры на мяжы Беларусі і Польшчы. У небе чуўся гул самалётаў, пачаліся бамбёжкі. Наступ немцаў быў імклівы, не паспелі апомніцца, як апынуліся ў палоне. У лагеры ўмовы былі такія, што прадзед хутка зразумеў: не выжыве, трэба ўцякаць. Першы раз злавілі, цкавалі сабакамі, збілі.

На другія ўцёкі знайшоўся кампаньён, афіцэр. (Перад палонам ён паспеў пераапрануцца ў радавога, каб немцы не расстралялі на месцы.)

Ішлі ноччу, днём хаваліся ў дрэнажных трубах. Елі і чарвякоў, і матылькоў, і лісце, каб толькі было што ў страўнік. Напарнік прымацоўваў іголку на тонкую драўляную палачку, пускаў па лужыне. Па тым, як палачка павернецца, вызначаў бакі свету. І вёў на ўсход.

Праз тры тыдні перайшлі лінію фронту. Колькі было радасці, калі зваліліся ў акопы да сваіх. Іх узялі пад варту і адаслалі ў НКВД, дзе доўга дапытвалі. Аб'явілі здраднікамі Радзімы. Напарніка расстралялі. Прадзеда адправілі ў лагер для штрафнікоў за Урал. Там здабываў руду, працаваў кавалём у гарачым цэху на вайсковым заводзе.

У 1944-м зноў прызвалі. Давялося браць Кёнігсберг, дзе палеглі дзясяткі тысяч салдатаў. Прадзед цудам ацалеў, пражыў 91 год, але да канца жыцця не любіў успамінаць вайну. Магчыма, баяўся зноў трапіць у савецкі лагер за Уралам.

### 1960-я: дзед

Дзед быў у войску ад 1965 да 1968 года (у той час служылі тры гады). Ён гадаваўся ў глухой вёсцы на Віцебшчыне, скончыў дзесяцігодку, працаваў у калгасе. А служыць давялося на тэрыторыі Польшчы, у ракетных войсках.

З яго расповедаў запомніліся кароткія карцінкі.

«У першы дзень, калі нас пасялілі ў казарме, выдалі пасцелю. Раніцой наступнага дня дзяжурны афіцэр выявіў, што адзін салдат спаў на голым матрасе. Пасцеля ляжала пад падушкай. І ніхто не кпіў з недарэкі, які не ведаў, нашто тая прасціна. Не адзін ён быў з беднай сям'і».

Дзед быў добра падрыхтаваны фізічна. Мог дзясяткі разоў падцягнуцца на турніку і лёгка круціў на ім «сонца». Ніхто ў той час вясковых хлопцаў не прымушаў займацца спортам, проста само жыццё рабіла хлопцаў моцнымі і загартаванымі. Мальцы самі ставілі сабе турнікі ў дварах.

У той час не было адтэрміновак для студэнтаў. У дзедавым узводзе з пятнаццаці салдат дзесяць прызываліся з ВНУ: качагар скончаў авіяцыйны, кравец — замежных моў, шавец —інжынерны.

Дзедаўшчыны не было. Тых, хто служыў трэці год, першагодкі паважалі без лішніх слоў. І казарму ў іх чаргу маглі прыбраць, і грубку вытапіць.

Салдат не прыніжалі. Галоўны ўпор рабіўся на тое , што савецкія салдаты — гордыя ваяўнічыя, добра навучаныя. А такіх нельга крыць матам. І афіцэры не дазвалялі ў адносінах да салдатаў нецэнзурных слоў. І між сабой салдаты не лаяліся. Ведалі: за такія словы атрымаеш нарады і на губу трапіш. І мацюкі, і дзедаўшчына сталі звычкай у перыяд застою, у 1970-я і 1980-я.

**Салдацкі паёк**

Чорны хлеб — 250 гр.

Белы — 70 гр.

Булачка — 1 шт.

Мяса — 100 гр.

Рыба, птушка — па 100 гр.

Цукар — 60 гр.

Масла — 30 гр.

Малако, кефір — 100 гр.

Яйка — 1 шт.

Гароднiна — 830 гр. (у тым ліку бульба — 550 гр.)

Сокі — 100 гр.

# Жыхары выселенай вёскі пад Брэстам наведалі свае старыя могілкі ўпершыню ад 1946 года

Працяг са старонкі 3.

Хрэсны ход, ці, па-старому кажучы, «працэсія», ішоў па тым самым полі — «лука» азначае «прырэчная лугавіна ў выгіне, «луцэ», ракі», — якое даўным-даўно дало назву Прылукам.

Ад могілак за 70 гадоў мала што ацалела: два дзясяткі паўразбураных помнікаў.

Наталля, сястра спевака і кампазітара Ігара Карнелюка, які таксама каранямі з гэтых мясцін, знайшла магілу сваёй бабы Акуліны. Тая памерла ў 1935-м 30-гадовай. «У мяне слёзы пацяклі!» — кажа яна.

Наталля прынесла з сабой кветкі.

Царкоўныя актывісты пачалі расчыстку старога кладавішча. Як успамінаюць старыя людзі, на могілках дрэваў не было, цяпер жа яны зараслі лесам.

На могілках паставілі жалезныя крыжы.

Магчыма, некалі ўдасца ідэнтыфікаваць і дастаць тыя пліты, што ўпалі і зацягнуліся зямлёй.

Можна было б абазначыць і старыя курганы. Тады гэтае месца стане не толькі месцам памяці, але яшчэ і ўнікальным гістарычным помнікам — могілкі як сувязь часоў і адначасова ахвяра высяленняў у ХХ стагоддзі.

Заснавальніца тэатра і арт-прасторы «Крылы Халопа» з Брэста Аксана Гайко знайшла магілу свайго прадзеда Мяльяна Гарбацюка, які памёр у 1937 годзе.

«Пачуцце нерэальнасці, — напісала Гайко ў сябе ў фэйсбуку, — харугвы і вышка, дрот і алені, што свабодна бягуць па полі, пагранічнікі і пеўчыя, людзі, якія ўспамінаюць, дзе што знаходзілася на гэтым «полі», астаткі магіл і гісторыі, гісторыі... Магілы маіх прадзеда і прабабкі — амаль адзіныя захаваныя, бо «він богатый буў», — піша Гайко. Яна з горыччу дадае, што ёй не ўдалося пакуль «пайсці далей могілак і пабачыць месца, дзе стаялі забраныя ў дзеда дом, лес і азёры».

Айцец Дзмітрый у сваёй кароткай казані нагадаў, што людзі ўваскрэснуць і ўздымуцца на Страшны Суд з таго месца, дзе яны пахаваныя. Хай жа гэтае месца будзе дагледжаным, сказаў ён.

Высяленне людзей з-пад мяжы было тыповым для савецкага таталітарызму рашэннем. Адгароджваліся нават ад краін «народнай дэмакратыі». У «пагранічную паласу» трапіла зона 800 метраў ад ракі. Між тым большасць сёлаў спрадвеку стаяла над вадою. Для параўнання: з другога боку Буга, у Польшчы, усе засталіся жыць на сваіх месцах, нават калі хата стаяла за 20 метраў ад Буга.

«У Старой Заказані ў нас быў сад вялікі, свае пчолы. А на новым месцы — ні яблынькі. У калгасе працавалі за працадні, «за палачкі», як казалі. А мне летам так хацелася яблычка... А купіць няма за што. Бывала, пабачу на вуліцы недагрызак, памыю яго і з'ем, — расказвае ўраджэнка Заказанкі Валянціна (у дзявоцтве Карнялюк). — А дзед мой Рыгор так любіў пчоламі займацца. Ён высялення не вынес. Выйдзе з хаты, сядзе і глядзіць на захад, дзе ўсё жыццё засталося. Так і памёр, змарнеў», — расказвае Валянціна.

**Андрэй Дынько;**
**фота Наталлі Цярэшчанка**




86-гадовая Вера Свірыд з Заказанкі спадзявалася знайсці магілу дзеда. Але знаку ад яе не засталося.

**Як пішуць гістарычныя энцыклапедыі, на месцы старых Прылук і Заказанкі** выяўленыя сляды стаянак мезаліту, неаліту і селішчаў Сярэднявечча. Адно з урочышчаў каля Заказанкі называлася Гарадзішча. Захаваліся курганы XIII стагоддзя. На другім беразе Буга, у Кастамалотах, захаваўся абраз святога Мікіты, падораны ў 1631 годзе жыхаркай сяла Прылукі «Хвядорай з мужам і сынамі». У XVIII стагоддзі Прылукі былі цэнтрам воласці, а суседняя Заказанка была пазначаная на картах як «Заказанне» і месцілася на востраве між рукавамі пратоку Буга Спанаўкі.

У 1905 годзе ў Прылуках было 1459 жыхароў. Да 1921 года гэтая лічба скарацілася да 383 чалавек — астатнія загінулі ў часе «бежанства» ў Расіі.



Так выглядаюць новыя могілкі Прылук. Тут хаваюць людзей ад 1945 года.



Старыя могілкі пачалі парадкаваць дзякуючы ініцыятыве айца Дзмітрыя з Прылук і дазволу пагранічнікаў.



Сястра спевака Ігара Карнелюка Наталля (размаўляе з мужчынам на пярэднім плане) знайшла магілу бабы, якая памерла 30-гадовай у 1935 годзе.



# Ганна Бонд прабегла ў Мадрыдзе 21 км і на фінішы ўзняла нацыянальны сцяг

Беларуская тэлевядучая Ганна Бонд прабегла паўмарафон. Перад гэтым 8 тыдняў яна разам з камандай *IRun* займалася фізічнай падрыхтоўкай з прафесійнымі трэнерамі.

«Наша Ніва» звязалася з Ганнай адразу пасля марафону, каб яна падзялілася эмоцыямі:

«Зусім мозг не варыць зараз. Быў ліміт — трэба было прабегчы за тры гадзіны, я прабегла за 2:40. Першыя пяць кіламетраў даваліся вельмі цяжка, потым проста прыходзіць разуменне таго, што адступаць няма куды. Апошнія два кіламетры цягнуліся вечнасць. На фінішы аж расплакалася».

Пра сцяг Ганна адказала проста: «Б-Ч-Б — годны сцяг з гісторыяй. Зрэшты, як і я. У мяне таксама вялікая гісторыя бясконцага пераадолення сябе».

Што канкрэтна гэтага сцяга, то дыстанцыю прабег з ім эстонскі грузін Сяргей Махашвілі. Ён грамадзянін Расіі, які жыве і працуе ў Беларусі. Такім чынам ён хацеў выказаць свае пачуцці да нашай краіны. А на фінішы палотнішча падхапіла Ганна.

**Мікіта Недаверкаў**

# Польшча спрашчае працэс рэпатрыяцыі з Усходу

Прэзідэнт Анджэй Дуда падпісаў змены ў законе аб рэпатрыяцыі. Новыя палажэнні павінны спрасціць працэс вяртання ў Польшчу і пражывання тут палякаў, якія вырашылі вярнуцца на гістарычную радзіму з Усходу. Правы на вяртанне маюць палякі аж да чацвёртага пакалення.

Дзяржаўны сакратар у Канцылярыі прэзідэнта краіны Адам Квяткоўскі адзначыў, што гэты закон вельмі чакалі. На думку палітыка, новыя палажэнні закона аб рэпатрыяцыі — гэта аднаўленне гістарычнай справядлівасці.

«Вельмі важна, каб нашы землякі, якія пражываюць за мяжой, бачылі і адчувалі, што Польшча пра іх памятае, і закон таму пацвярджэнне», — адзначыў Квяткоўскі.

Перш за ўсё, у новым законе з'явілася новае вызначэнне «рэпатрыянта». Цяпер гэта чалавек, які прыбыў на тэрыторыю Польшчы на падставе нацыянальнай візы, выдадзенай з мэтай рэпатрыяцыі і пастаяннага пражывання ў Польшчы.

Закон таксама прадугледжвае прызначэнне Упаўнаважанага ўрада і стварэнне Рады па справах рэпатрыяцыі, а таксама стварэнне спецыяльных адаптацыйных цэнтраў для рэпатрыянтаў і выдзяленне прыезджым штомесячнай дапамогі памерам 200 злотых (45 еўра).

Рэпатрыянты змогуць атрымліваць таксама іншую фінансавую дапамогу і карыстацца медыцынскімі паслугамі.

**Паводле radiopolsha.pl**



## Украінская спявачка Джамала выйшла замуж

Пераможца песеннага конкурсу «Еўрабачанне-2016» Джамала выйшла замуж 26 красавіка. Мужам 33-гадовай спявачкі стаў Бекір Сулейманаў, ён далёкі ад творчага асяродку чалавек — працуе эканамістам.

Цырымонія адбылася ў Ісламскім культурным цэнтры Кіева. І Джамала, і яе абраннік — крымскія татары, таму вяселле прайшло ў нацыянальных традыцыях.

# Андрэй Курэйчык жэніцца трэці раз

Новай абранніцай Курэйчыка стала бізнэс-кансультант **Вера Кушнярова**.

Для Веры гэта таксама будзе трэці па ліку шлюб, і маладыя спадзяюцца, што цяпер ён дакладна апошні. Вяселле пара запланавала на верасень. Мы звязаліся з Андрэем Курэйчыкам, які знаходзіўся ў Хабараўску дзеля новага праекта — спектакля пра падарожнікаў-першаадкрывальнікаў Далёкага Усходу, каб распытаць падрабязнасці такой важнай падзеі ў яго жыцці.

**«Наша Ніва»: Ці ёсць у вас ужо канкрэтныя планы, як і дзе гуляць вяселле?**

**Андрэй Курэйчык:** І для мяне, і для Веры — гэта не першы шлюб. Усе шаблонныя вяселлі сыграныя. Думаю, на гэты раз будзе просты добры вечар у асяроддзі блізкіх людзей.

**«НН»: А што наконт мядовага месяца? У фэйсбуку вы папрасілі сяброў падзяліцца магчымымі варыянтамі, няўжо няма асабістай мары?**



Андрэй і Вера любяць падарожнічаць.

**АК:** У сувязі з працай і дзякуючы прыроднай цікаўнасці, мне давялося шмат дзе пабываць: я жыў у Амерыцы, Англіі, Германіі, аб'ехаў Еўропу уздоўж і поперак. Быў на Кубе, Карыбах, папулярных курортах Міжземнага і Чорнага мораў... Вось цяпер у паездцы на Далёкі Усход. Але для вяселля падарожжа хочацца знайсці нешта новае. Тое, што для нас абаіх будзе адкрыццём. Калі нехта параіць такое месца ў Беларусі, з добрым сэрвісам і цікавым культурным складнікам, я таксама не супраць.

**«НН»: Вы кажаце, што сённяшняе каханне апошняе, на ўсё жыццё. Адкуль такая ўпэўненасць? Чамусьці мне здаецца, што з мінулымі жонкамі вы таксама думалі такім чынам, ці Вера асаблівая?**

**АК:** Вера — дзіўная жанчына. Моцная, кахаючая, разумная. Бліскучы прафесіянал і рэдкі па якасцях чалавек. У нас з ёй склалася раўнацэннае партнёрства і паразуменне, без якіх рамантыка і каханне рызыкуюць хутка астыць. Нашы адносіны прайшлі праверку часам і жыццёвымі штормамі. Шмат памылак мы нарабілі ў свой час. Ёсць надзея, што яны нас чамусьці навучылі. Зараз да шчасця мы будзем ставіцца больш беражліва і адказна.

**«НН»: А якія памылкі вы маеце на ўвазе? Можаце параіць нешта, каб іншыя пары ўзялі на заметку?**

**АК:** Парада простая: беражыце свайго чалавека, калі вам пашанцавала яго знайсці. Многае можна зразумець і даравадь, калі любіш. Ну і старайцеся, каб разам не было сумна. Штодзённасць забівае адносіны не горш, чым недавер або непавага.

**«НН»: Як успрынялі «новых» бацькоў вашы і дзеці нявесты?**

**АК:** Хоць мы з маёй былой жонкай даўно не жывём разам, нашы дзеці маюць магчымасць праводзіць час у абаіх бацькоў. У іх ёсць мама і тата, якія ставяць іх інтарэсы ў аснову, якія іх вельмі любяць. А да таго, што кожны з нас будуе асабісты лёс, яны ставяцца з разуменнем. Дзеці Веры — равеснікі маіх Глеба і Марты, яны цудоўна камунікуюць і сябруюць. Нам весела разам.

**Кацярына Карпіцкая**

# Як у палескай вёсцы жыве самая маладая

Аналізуючы зборнікі Белстата за мінулы год, мы звярнулі ўвагу на гераіню-рэкардсменку — адзіную беларускую маці, якая да 20 гадоў нарадзіла пяцёра дзяцей. Журналісты абзванілі ўсе ЗАГСы на Берасцейшчыне (як высветлілася, яна жыве недзе там), каб знайсці гэтую жанчыну. Начальнікі дамоў абрадаў адначасова заміloўваліся і дзівіліся мэце пошукаў. Большасць адразу ж расчароўвала: у нас такіх няма. Узамен нам прапаноўвалі 18-гадовую маці з трыма дзецьмі ў Ганцавіцкім раёне. На Камянеччыне падказалі, што ў іх жыве аж восем сем'яў, дзе ў мінулым годзе нарадзіўся восьмы нашчадак, але ўсё гэта са сталымі бацькамі. У Жабінцы параілі напісаць пра 40-гадовую маму, у якой падрастае сем ратоў...

Дваццацігадовую маці-гераіню пакуль так і не знайшлі, але надзею на цікавы рэпартаж нам даў Кобрынскі раён, дзе нам распавялі пра старэйшую на два гады жанчыну, якая гадуе шасцярых дзяцей: Вікторыю Юзапчук з вёскі Бельск. Не ехаць было нельга.



Раджык і Вікторыя. Ён старэйшы за жонку на тры гады.

### «Тры кланы: праваслаўныя, баптысты і цыганы»

Першыя цыганы з'явіліся ў Бельску каля дзесяці гадоў таму. Тагачасны старшыня, прыгадваюць мясцовыя жыхары, шукаў добрага пастуха і знайшоў яго сярод цыганоў. Дапамог сям'і з хатай. Следам за першымі на хлебнае па тагачасных мерках месца сталі сцякацца сваякі. Сёння з 255 хатніх гаспадарак Бельска, многія з якіх выкарыстоўваюцца толькі ў якасці лецішчаў, 5 належаць гэтай этнічнай меншасці. Каля цыганскіх хат звычайна навязаныя вялікія калматыя сабакі, часам па некалькі штук. Можна зразумець: цыганы — пастухі, а сабака ў гэтай справе — першы памочнік.

«У нас тут жывуць тры кланы: праваслаўныя, баптысты і цыганы. Камуністы яшчэ былі, ды змерлі ўсе», — уводзіць у курс справы купец у бельскай краме.

У Кобрынскім раёне сёння дзень здароўя, паўсюдна забаранілі прадаваць алкаголь. Аднак у Бельску свае правілы: ад раніцы гаспадарлівыя людзі затарваюцца «беленькай», каб у поўным узбраенні сустрэць вечар пятніцы. Што яшчэ цікава: у крамах над прылаўкамі вісяць праваслаўныя іконы і календары.

Тут поўдзень. Вока, звыклае да суровых паўночнабеларускіх пейзажаў, увесь час чапляецца за зялёныя шары амялы, што, нібы гіганцкія елачныя цацкі, весела паабсаджвалі старыя дрэвы. «Воно такэ мае білі ягоды. Птыця іх доўбэ, а потым на гуляку гадыть — і воно новэ собіростэ», — тлумачаць нам эксперты каля бельскай крамы.

Даведаўшыся, што мы прыехалі ў госці да цыганоў, прадавачка клапатліва раіць набыць дзецям халвічных цукерак: «Гэта іх любімыя». Заадно заклікае не баяцца: «Яны ў нас мірныя. Толькі рабіць не хочуць. Нават цыганскі барон з баранэсай жывуць у галечы і разрусе. І калі хтосьці дагэтуль успрымае іх як рамантыкаў, якія імкнуцца жыць у гармоніі з прыродай, спяшаюся засмуціць. Была б магчымасць, усе цыганы даўно пераехалі б у горад, толькі дорага там для іх».

Статус барона звычайна перадаецца ў спадчыну. Але тут цыганы дэмакратычна абралі важака самастойна, аддаўшы рашэнне сваіх праблем найбольш мудраму і пісьменнаму.

### Кватэры замест прыроды, «Жыгулі» замест коняў

У Бельску ціха. Гэты дзэн парушаюць толькі рэдкія, адзінокія машыны, вараўрысты ды арыі пеўняў, што праспалі світанак. Людзі рыхтуюцца да хуткай пасадкі бульбы, пра што сведчаць пераараныя палеткі і аб'ява




на дошцы ў цэнтры: «Жыхары ААТ «Навасёлкаўскі», тэрмінова падайце заяўку на ўдзел у цэнтралізаванай пасадцы бульбы!».

Дом Юзапчукоў здалёку відаць дзякуючы каляровым дыванам, якія сушацца на сонцы. Побач прыпаркаваныя старэнькія «Жыгулі», якія сучасным цыганам замяняюць каня. Пабудова — практычна векавая, з нізкімі ўваходамі, без каменнага падмурка і з дзіравымі вокнамі. Кажуць, што выкупілі гэты ўчастак за $300.

Гаспадар дома Раджык складае з дзецьмі дровы на двары. Пабачыўшы нас, заганяе малых у хату. Пачуўшы, што мы хацелі б напісаць пра іх сям'ю, ён адмоўна махае галавой: «Якія панты мне тут, каб вы нешта расказвалі? Прыязджалі ўжо такія да маёй цёткі неяк, а потым усе ў інтэрнэце пачыталі, што цыганы дрэнныя, што дамы ў іх дрэнныя і ўсё ўвогуле дрэнна».

Ён гаворыць на сумесі расейскай, украінскай і цыганскай, блытана і эмацыйна. Дзяцей, якія зацікаўлена высоўваюць насы з дому, адразу ж заганяе назад. Прапанаваныя халвічныя цукеркі трохі растопліваюць бацькава сэрца. Праз нейкі час, пашкадаваўшы тых, хто спецыяльна ехаў сюды 300 кіламетраў, ён трохі расслабляецца і нават пачынае сёе-тое пра сябе распавядаць.

Раджык тлумачыць, што жонкі дома няма, маўляў, паехала ў горад вырашаць пытанні з дакументамі. Без яе дазволу пусціць да дзяцей чужых ён не можа: «У нас выразны падзел абавязкаў. Яна за малых адказвае, я — за гаспадарку». Праўда, апошняе слова ў цыганскіх сем'ях усё роўна за мужчынам.

Абое нарадзіліся ў Камянцы, але амаль ніколі не знаходзіліся ў адным месцы працяглы час. Сем'і вандравалі па Беларусі: дзе ёсць праца, там і прычальвалі. Калі Віцы было 14 гадоў, зноў сустрэліся ў Пінску і вырашылі не расставацца. Раджык называе іх гісторыю прыгожым сло-



За чаем у бельскага цыганскага барона. Дома ўвесь час кураць.

#### Топ месцаў Беларусі, дзе шлюбы развальваюцца часцей за ўсё

Белстат апублікаваў дэмаграфічную статыстыку за 2016 год. На падставе гэтых звестак «Наша Ніва» склала рэйтынг раёнаў краіны, дзе летась распадалася больш за ўсё шлюбаў.

Мы параўноўвалі колькасць разводаў на тысячу вяселляў.

У сярэднім у Беларусі гэтая лічба складала 506 — то бок пяць разводаў на 10 вяселляў. Аднак ёсць і раёны горшыя.

Дрыбінскі — 722

Ляхавіцкі — 719

Лепельскі — 705

Чэрвеньскі — 698

Добрушскі — 630

Круглянскі — 630

Клімавіцкі — 623

Смалявіцкі (+Жодзіна) — 615

Нараўлянскі — 607

Бабруйскі — 605

Адзначым, што сярод абласцей найбольш разводзяцца на ўсходзе, на Віцебшчыне (558) і Гомельшчыне (530), а найменш — на захадзе, на Гродзеншчыне (452) і Брэстчыне (464).

# ў Беларусі мама шасцярых дзяцей

вам «каханне». У гэтае паняцце для яго спакойна ўпісваецца тое, што, як сведчыць даведка з сельсавета, старэйшыя дзеці маюць іншае імя па бацьку і лічацца яму пасынкамі. Першы з іх з'явіўся на свет літаральна праз год пасля вяселля.

«Галоўнае, каб у жаніха грошы былі, тады можна нявесту выбіраць. Мы склікалі родных, вечарыну зладзілі — вяселлі ў нас цяпер вельмі да вашых падобныя», — распавядае галава сямейства. Грошы ў родзе, паводле яго слоў, часцей за ўсё зарабляюцца пастуховым рамяством. Пакуль калгас на гэтых землях квітнеў і такой працы хапала, цыганы сюды і з'язджаліся. Дзеці перасяленцаў жывуць крыху ў процілеглай рэальнасці: працу ў вёсцы знайсці складана, тым больш калі ты цыган.

«Начальнікі да нас вельмі дрэнна ставяцца: толькі сваіх уладкоўваюць, а нас за людзей не лічаць. А чым мы горшыя? Быў адзін цыган, напіўся і паводзіў сябе дрэнна, дык не ўсе ж мы такія!» — разважае Раджык.

Тым часам паглядзець на журналістаў прыязджае «барон». Мікалаю трохі за 40, ён родам з Украіны. Да дома Юзапчукоў падрульвае на ўсё такіх жа «Жыгулях» у суправаджэнні маладзейшага цыгана ў скуранцы і цыганкі. Гаворыць Мікалай гладка, акцэнты расстаўляе лагічна. Яму б быць палітыкам, а не кароў пасвіць. «Хай здымаюць! — спыняе ён суседку, якая спрабуе пагнаць нашага фатографа ад хаты Юзапчукоў. — Хай пакажуць, як жывуць шматдзетныя сем'і — хата ледзь стаіць, дрэва вунь якое: як вецер, можа і абваліцца на дом».

Мікалай расказвае, што цыганоў, як і ўсю краіну, турбуе дэкрэт №3: «Прыязджалі, перапісвалі нас... А з чаго падатак плаціць, калі работы няма? Мы былі пад Мінскам, каля Трасцянца, дык там людзі ў сметніках корпаюцца. Не цыганы, а вашы, беларусы». Ён расказвае, як усё лета пасвіў статак на 400 галоў на Віцебшчыне, а грошай так і не атрымаў: «Раз ты цыган — што ты дакажаш».

### «Быццам бы грамадзяне Беларусі, але народ своеасаблівы»

Свая праўда на гэтыя скаргі ў старшыні Навасёлкаўскага сельсавета Валянціна Скакуна, да якога мы накіроўваемся, пакуль галоўная гераіня не вярнулася дадому: «Цыганы — быццам бы грамадзяне Беларусі, але народ своеасаблівы. Да працы ставяцца безадказна, хочуць сабе заробак, вышэйшы за сярэдні. Дык як гэта, беларус будзе атрымліваць 200 рублёў, а цыганам, таму што яны іншыя, трэба больш плаціць? Таксама яны вельмі «заўтракамі» карміць любяць, таму наймаць іх — сабе даражэй».

З асцярожнасцю да цыганскай працоўнай сілы ставяцца многія працадаўцы. Так што за грашыма даводзіцца выбірацца ў іншыя населеныя пункты: пасвіць кароў у Віцебскай вобласці ў сезон, жабраваць у суседніх вёсках. На месцы можна яшчэ за капейкі дапамагчы суседзям насекчы дроў або раскідаць гной.

Але, мабыць, больш за ўсё цыганоў тут не любіць участковы Вадзім Рачко, называючы іх «распаўсюднікамі педыкулёзу і злачынстваў». А вось настаўнікі мясцовай беларускай школы — хваляць. У школе-дзевяцігодцы цяпер 39 вучняў. Сын Вікі і Раджыка Ігар пайшоў у першы клас і добра вучыцца. А дачка іх дзядзькі Аксана хутка скончыць дзявяты і, можа, пойдзе вучыцца на кухара.

Школа, хоць і малакамплектная, закрывацца не збіраецца, кажа настаўніца малодшых класаў: «У Бельску дзяцей многа падрастае: у Вікторыі шэсць, у яе суседкі пяць, вунь там чатыры — гэта ўсё ў цыганоў. Але і беларусы тут маюць па трое дзяцей звычайна».



Віка і яе дзеці: Ігар, Вадзім, Давід, Хрысціна, Вікторыя і Анжаліка.

### Дзеці — гэта шчасце, але пакуль хопіць?

Набліжаецца час прыезду Вікторыі. Пра тое, што мы яе чакаем, муж паведамляе ёй загадзя па мабільніку. І просіць забраць машынай з Навасёлак, бо штосьці не так з кобрынскім аўтобусам. На пыльнай узбочыне нас чакаюць Вікторыя са швагеркай Ліляй. У іх на руках чацвёра дзяцей, у тым ліку немаўля, і пара вялікіх сумак з вопраткай. Усе ладкуюцца на заднее сядзенне і супакойваюць нас: «Мы заховаемось». Дый якая там можа быць ДАІ.

Віка ўсміхаецца нам, асабліва калі расказваем, як настаўнікі хваляць яе першакласніка Ігара. Але, не паспеўшы ступіць на свой двор, напускаецца на Раджыка: «Шо цэ такеээ?!» У значэнні «чаго пусціў чужых», як мы разумеем. Ведаючы пра закрытасць цыганскай дыяспары, мы не выключалі, што не зможам пагаварыць з галоўнай гераіняй, аднак усё яшчэ не губляем надзеі. Пад націскам агульных угаворванняў Вікторыя ўсё ж запрашае ў дом.

Унутры — усяго два пакойчыкі: кухня з печкай і газавай плітой ды вялікая гасцёўня, якая адначасова служыць і спальняй, і дзіцячай, і кабінетам. Абадраныя шпалеры, прадзіраўленыя канапы і гара падушак з коўдрамі, каб уначы слацца на падлозе... На гэтым фоне сапраўднай раскошай выглядае тэлевізар і, хоць старэнькі, але камп'ютар: дзеці грызуць сасіскі і глядзяць мульцікі.

Тэлевізар і камп'ютар для іх — галоўныя каналы сувязі з вялікім светам: ні Віка, ні Раджык нармальна не ўмеюць чытаць і пісаць, але з навін ведаюць, што ў эканоміцы ўсё дрэнна і хто ў гэтым вінаваты. Інтэрнэт жа пастаянна выкарыстоўваюць, каб запампаваць на мабільны тэлефон цыганскія песні: пад іх малыя і танцуюць, і засынаюць. За межамі Беларусі нікому з Юзапчукоў бываць не даводзілася.

Як распавядае шматдзетная мама, яе шэсць «крывінак» практычна не плачуць і не хварэюць. «Пра цыганоў кажуць, што мы дрэнна жывём. Але ж у кожнай сям'і ёсць нейкія праблемы, хіба не так? Мы б хацелі сабе нармальны вялікі дом, марым пра ўласную кватэру ў Кобрыне, ды не даюць. Дзяржава не дапамагае шматдзетным сем'ям на справе, толькі на словах», — абураецца Віка. Запэўнівае, што з задавальненнем пайшла б працаваць, напрыклад, даяркай, як толькі дзеці падрастуць. Толькі баіцца, што, як і мужа, не возьмуць.

Усе рэчы сям'і змяшчаюцца ў адсек канапы, дзе яны шукаюць нешта «больш прыстойнае» перад фотасесіяй, на якую мы іх таксама папярэдне вельмі доўга ўгаворваем. За акном трывожна брэша гаспадарская аўчарка: цяпер яна агрэсіўнейшая, чым звычайна, бо ашчанілася.

«Аборты мы не прымаем з рэлігійных меркаванняў [усе дзеці Юзапчукоў ахрышчаныя ў бельскай праваслаўнай царкве — **НН**]. Увогуле, у нас лічыцца, што дзіця — гэта шчасце і надзея на лепшую будучыню. Адно дзіця — гэта маленькае шчасце, а шмат — вялікае. Я сама расла ў сям'і з адзінаццацю братамі і сёстрамі, таму была падрыхтаваная», — дзеліцца Вікторыя і дадае, што хацела б, каб усе дзеці атрымалі адукацыю і выбіліся ў людзі.

На іншыя пытанні пра жыццё яна зноў і зноў адказвае сустрэчным: «Навошта вам усё гэта?»

Калі мы ўжо збіраемся з'язджаць, Вікторыя прызнаецца, што цяжарыць у найбліжэйшы час не плануе. Як бы там ні было, штогадовыя роды не найлепшым чынам адбіліся на яе арганізме. Так што адна з самых маладых шматдзетных маці Беларусі ўзяла адпачынак.



У Бельску захаваліся стагадовыя хаты — без каменных падмуркаў, з падсыпанымі пяском прызбамі і маленькімі вокнамі. Найчасцей такія хаты выкарыстоўваюцца як дачы, частку пакуплялі цыганы.

**Кацярына Карпіцкая, фота Сяргея Гудзіліна**

# Пластычны хірург: «Беларусы просяць паўтарыць банальныя ідэалы прыгажосці — Кім Кардаш'ян і Брэда Піта»

Якія аперацыі зараз найбольш запатрабаваны ў Беларусі, чаму памер мае значэнне, а бодзіпазітыў прайграе жаданню падабацца — у нашай гутарцы з пластычным хірургам Алегам Стасевічам.

Алег Стасевіч — пластычны хірург з 20-гадовым стажам. У месяц ён робіць дзясяткі аперацый. Скончыў лячэбна-прафілактычны факультэт Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Што адметна, група, дзе вучыўся будучы хірург, захацела, каб навучанне вялося на беларускай мове, і адміністрацыя, як і большасць выкладчыкаў, пайшла ім насустрач. Гэта інтэрв'ю таксама адбылося на чыстай мове. Пасля інстытута наш суразмоўца засвоіў шмат тэарэтычных і практычных курсаў тут і за мяжой. Працаваў у Цэнтры пластычнай і рэканструкцыйнай мікрахірургіі, у «Нардзіне», з 2011 года — у медыцынскай установе «Канфідэнс».



Многія беларускі хочуць быць падобныя да амерыканскай зоркі Кім Кардаш'ян



Алег Стасевіч — пластычны хірург з 20-гадовым стажам.

**«Наша Ніва»: Спадар Алег, на якім узроўні цяпер знаходзіцца айчынная пластычная хірургія? Ці не адстаём мы ад сусветных магчымасцяў?**

**Алег Стасевіч:** У савецкія часы развіццё гэтай медыцынскай галіны крыху стрымлівалася, бо яна не адносілася да асноўных патрэб. Лічылася, што, напрыклад, анколагі захоўваюць жыццё, і гэтага было дастаткова. Як будзе выглядаць пацыент пасля такой аперацыі, хвалявала мала. Нягледзячы на ўсё гэта, сёння беларусы валодаюць усім, што ёсць у тых краінах, дзе пластычная хірургія пачала распрацоўвацца раней.

**«НН»: Што найчасцей не падабаецца беларусам у сваёй знешнасці?**

**АС:** У першую чаргу людзі звяртаюцца па амаладжальныя працэдуры. Прычым далёка не ўсе імкнуцца выглядаць маладзейшымі за свой век, ёсць тыя, хто проста хоча знешне наблізіцца да свайго ўзросту, бо цяпер з люстэрка на яго глядзіць нехта старэйшы.

У топе зваротаў таксама змяненне формы і аб'ёмаў грудзей, контуру носа і ліпасакцыя. На 10—15 зваротаў ад жанчын прыпадае 1 мужчынскі.

**«НН»: А які памер грудзей зараз самы папулярны?**

**АС:** С, ці трэці. Але я, канечне, арыентуюся не толькі на жаданні пацыентак. Імкненне да гармоніі — гэта галоўнае правіла пластычнага хірурга. Калі я бачу, што ў чалавека ўсе часткі цела і без маёй дапамогі выглядаюць прапарцыйна, я магу адмовіць у аперацыі.

З мужчынскім органам тая ж сітуацыя, тым больш што аперацыя там куды больш складаная, чым аўгментацыя грудзей імплантамі. Быў у практыцы выпадак: прыйшоў да мяне мужчына і сказаў, што хоча павялічыць свае геніталіі. А там усё нармальна абсалютна па ўсіх крытэрыях. Я спытаў, кім ён працуе. Высветлілася, што мужчына ездзіць на будоўлю ў Санкт-Пецярбург. Тады я параіў яму завітаць у Эрмітаж і прыгледзецца да антычных статуй: да тых прапорцый, што лічацца стандартамі прыгажосці ў мастацтве. На мае довады мужчына адказаў наступнае: «Цяпер ужо іншыя стандарты». Людзі «натхняюцца» тэматычнымі, эратычнымі сайтамі і імкнуцца ўвасобіць гэта ва ўласнае інтымнае жыццё. Сёння нас ужо хвалюе не толькі, як выглядае твар, але і тое, што ніжэй за пояс. Калі хочаце ведаць, таму патэнцыйнаму кліенту я параіў не спяшацца.

**«НН»: Вось раней існавала мода на пульхныя вусны, а зараз што ў трэндзе пластыкі?**

**АС:** Аб'ёмныя вусны і цяпер у модзе. Тое ж самае з ягадзіцамі. Але ў цэлым модна выглядаць здаровым і маладым.

**«НН»: Ці прыходзяць да вас з канкрэтнымі фотаздымкамі, маўляў, хачу быць падобным да вось гэтага індывіда?**

**АС:** Так, і гэта спрашчае задачу хірургаў, бо, калі кажуць «зрабіце мне прыгожа», губляешся: у кожнага ж сваё меркаванне на гэты конт.

Часам да мяне прыходзяць з даволі банальнымі фотаздымкамі, на якіх змешчаны ідэалы прыгажосці, растыражаваныя сусветнымі СМІ: Скарлет Ёхансан, Кім Кардаш'ян, Мэрылін Манро, Брэд Піт... Але здараецца, просяць арыентавацца на нейкіх расійскіх зорак, імёны якіх я магу зусім не ведаць, прыходзіцца гугліць.

**«НН»: Вас не хвалюе, што ў сувязі з рухам «бодзіпазітыў» (успрыманне цела такім, якое яно ёсць), які зараз набірае папулярнасць, у будучыні ў вас паменшыцца колькасць кліентаў?**

**АС:** Людзі ўсё адно будуць рабіць аперацыі, як яны працягваюць выкарыстоўваць макіяж ці мыць валасы. Можна ж хадзіць з бруднай галавой, нічога асабліва страшнага не здарыцца, але мы гэтага не робім. Усе нашы паводзіны, звязаныя са знешнасцю, прадыктаваны інстынктамі: усе жывыя істоты імкнуцца памнажацца, таму нам так важна падабацца іншым. Як бы мы ні спрабавалі засяроддзіцца толькі на сабе, мы ўсё роўна будзем старацца прывабіць партнёра, хай і неўсвядомлена, бо жывём у свеце навязаных стэрэатыпаў і меркаванняў.

**Кацярына Карпіцкая**

# Найбольш каштоўная рыба — не чырвоная

Лекавыя ўласцівасці рыбінага тлушчу адкрылі ў пачатку XIX стагоддзя, задоўга да адкрыцця вітамінаў. І ўжо ў пачатку XX правялі мноства даследаванняў, вывучыўшы харчаванне арктычных народаў, эскімосаў, інуітаў Канады і Ісландыі, якія, як аказалася, ніколі не хварэлі на атэрасклероз. Гэты факт і звязалі з вялікай колькасцю рыбы ў іх рацыёне, піша *Likar.info*.

Спяшаемся расчараваць аматараў чырвонай рыбы: незаменныя тлустыя кіслоты, якімі нібыта багаты рыбін тлушч, насамрэч утвараюцца ў марскіх водарасцях. Таму выходзіць, што ямо мы толькі смачны тлустабялковы прадукт без Амега-3.



### Чаму чырвоная рыба з супермаркета бескарысная

Рыба ў запрудах сілкуецца камбікармамі, а не планктонам. Таму ў тлушчах штучна выгадаваных рыб могуць назапашвацца дыяксіны, ртуць, пестыцыды і іншыя шкодныя злучэнні.

У ЗША, да прыкладу, нядаўна была ўведзена забарона на імпарт некаторых рыбных прадуктаў з Кітая ў сувязі з іх забруджваннем канцэрагенамі і вытворнымі антыбіётыкаў. Проста ў якасці прафілактычных сродкаў у штучныя вадаёмы дадаюць антыбіётыкі.

### У якой рыбе насамрэч утрымліваюцца Амега-3

Амега-3 тлушчы трэба шукаць у селядцы і скумбрыі, а не ў ласосі. Як правіла, увесь супермаркетавы ласось нарадзіўся і рос у няволі, на штучных кармах, таму Амега-3 там знайсці праблематычна, таму аматарам толькі чырвонай рыбы пажадана дапаўняць рацыён Амега-3 тлустымі кіслотамі, якія ўтрымліваюцца ў вітамінных комплексах.

Амега-3 захаваны выключна ў сырой (засоленай або марожанай) рыбе, паколькі любая тэрмічная апрацоўка, няхай гэта будзе варэнне, смажанне або запяканне, змяняе іх формулу.

Для бяспечнага спажывання такой рыбы трэба купляць добра прасолены селядзец або скумбрыю, а затым вымочваць у вадзе.

Не выбірайце «маласольную» рыбу, каб знізіць рызыку заражэння глістамі.

Спалучайце рыбу з карыснымі «кампаньёнамі»: цэльназерневым хлебам, зелянінай, гароднінай, натуральнымі напоямі (настоем шыпшынніка, узварамі без цукру, бярозавым сокам).

# Прафілактыка атэрасклерозу: 9 асноўных крокаў

Атэрасклероз, як іржа, пашкоджвае сасуды.

Наступствы атэрасклерозу могуць быць вельмі сур'ёзнымі: пры пашкоджанні крывяносных сасудаў у першую чаргу пакутуюць сэрца і мозг, а ў цяжкіх выпадках гэта можа скончыцца інфарктам і інсультам.

Атэрасклероз вельмі моцна звязаны са стрэсамі ў нашым жыцці, бо стрэс правакуе паступленне ў крывяное рэчышча халестэрыну з печані, а пастаянны рост узроўню халестэрыну ў крыві звязаны з большай рызыкай атэрасклерозу (ушчыльненнем артэрый), галоўным адмоўным фактарам пры сардэчных прыступах.

Калі хочаце пазбегнуць развіцця атэрасклерозу, у першую чаргу неабходна адмовіцца ад курэння, злоўжывання спіртнымі напоямі, абмежаваць ужыванне жывёльных тлушчаў, больш рухацца і менш нерваваццa.

**1. Ешце рацыянальна.** Цыбуля, часнык, памідоры, яблыкі, аўсянка і тлустая рыба зніжаюць рызыку развіцця хваробаў сэрца. Гэта магутныя антыаксіданты, яны разрэджваюць кроў.

**2. Знізьце спажыванне солі**, павялічце спажыванне рыбы, гародніны, садавіны.

**3. Ешце больш прадуктаў, багатых на клятчатку.** 100 грам аўсянкі ў дзень будзе дастаткова, каб панізіць узровень халестэрыну.

**4. Ужывайце вострыя прыправы, такія як імбір, карыца, гваздзіка і перац.** Яны робяць артэрыі здаравейшымі, бо стымулююць кровазварот і пашыраюць крывяносныя сасуды, якія забяспечваюць кіслародам канцавіны.

**5. Кантралюйце сваю вагу.**

**6. Не курыце.**

**7. Рухайцеся!** Фізічная актыўнасць павялічвае ўзровень халестэрыну ахоўных ЛВП (ліпапратэінаў высокай шчыльнасці ў адносінах да ЛНП (ліпапратэінаў нізкай шчыльнасці), умацоўвае сэрца і спрыяе зніжэнню вагі.

**8. Здымайце эмацыйнае напружанне фізічнымі нагрузкамі.**

**Сяргей Гезгала**

# Як у 1956 годзе загінуў апошні партызан УПА на тэрыторыі Беларусі

На адзінаццатым годзе пасля скканчэння Другой сусветнай вайны, у пачатку сакавіка месяца, у хату 26-гадовай незамужняй сялянкі з хутара Памесце Ксені Пытаевай (вулічная мянушка — Самарка) зайшло двое ўзброеных партызанаў. Яны папрасілі паснедаць. Яны бывалі ў гэтай хаце не ўпершыню. Ксеня спякла ім яечню. Яны паелі, набралі жару з печы ў чыгунок і спусціліся ў падвал — у «падполле», як называюць падвалы на Палессі.



**Фотаў Арла і Паўла не захавалася. А як яны маглі выглядаць? На гэтым здымку — Аляксандр Сцепанюк, які ў 1949—1950 гадах быў кіраўніком «Беларускай акругі» УПА. Ён загіне ў 1952 годзе.**

Калі ўвечары Ксеня залезла туды набраць бульбы, адзін хлопец ляжаў нежывы. Не, яго не забіў пабрацім. І не атруцілі энкавэдысты.

Арол застрэліўся, патлумачыў ягоны сябар.

Арол моцна пакутаваў на рэўматызм і стаміўся цярпець нязносны боль. Ясна, ад чаго ўзнік рэўматызм: партызанам часам даводзілася спаць на снезе і ўвесь час — у сырых схованках ці паграбах. Як гаворыцца ў адным з данясенняў КДБ, Паўло прызнаваўся агенту, што ім за зіму 1955—1956 гадоў тройчы давялося спаць на снезе ў лесе.

Ішоў 1956 год. Гэта значыць, для Арла ішоў 14-ы год падполля, два першыя з якіх прыпалі на нямецкую акупацыю і 12 — пад Саветамі. Не маючы доступу да знябольвальнікаў, Арол зрабіў сабе смерць.

Сапраўднае імя Арла было Сцяпан Трусевіч. Ён быў камандзірам апошняй «баёўкі» Украінскай паўстанцкай арміі, якая дзейнічала ў тым ліку ў Іванаўскім і Пінскім раёнах Беларусі.

Украінская паўстанцкая армія (УПА) была ўтвораная ў 1942 годзе. Яе касцяк склалі актывісты Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў, але яна стала шырэйшай за АУН. УПА ставіла задачу здабыцця Украінай незалежнасці. Даволі масавай была УПА і ў паўднёвых раёнах Берасцейшчыны і на Піншчыне, дзе ў многіх людзей была ўкраінская свядомасць і да вайны існавалі арганізаваныя ўкраінскія палітычныя і культурныя структуры. Аляксандр Лукашэнка са спасылкай на архівы заяўляў, што ва УПА на тэрыторыі цяперашняй Брэсцкай вобласці ўваходзіла да 15 тысяч чалавек. З цікавых фактаў: у дапамозе падполлю УПА ўдзельнічаў у тым ліку бацька Ірыны Абельскай, які жыў у Бярозаўскім раёне. У 1952 годзе яго за гэта асудзілі на 25 гадоў турмы.

Ішоў 1956-ы — уявіце. Мінула шэсць месяцаў ад часу публікацыі артыкула «Пра амністыю савецкім грамадзянам». Мінуў месяц, як Хрушчоў прачытаў свой даклад на XX з’ездзе.

З лагераў пачыналі вяртацца вязні. Магчыма, да далёкіх хутароў гэтыя весткі яшчэ не дайшлі або дайшлі цьмяна. Хтосьці скажа: выцерпі Арол яшчэ некалькі месяцаў — можа б, ён не рабіў сабе смерць, а здаўся б хрушчоўскай уладзе і выжыў. Як выжылі Васіль Кук ці Цімох Вострыкаў. Не думаю, што здаўся б. А чаму не думаю?

А вось зараз я раскажу, як загінуў Паўло — апошні партызан, і вы зразумееце.

Дарэчы, усе гэтыя звесткі сталі вядомыя, таму што ва Украіне адкрылі архівы КДБ.

Сапраўднае прозвішча Паўла было Ланевіч — Аляксандр Ланевіч.

23 мая 1956 года прыкладна а 23.00 Паўло зайшоў да селяніна Вакулы Савоніка, якога партызаны доўгія гады выкарыстоўвалі як сувязнога.

Паўло не ведаў, што за 6 месяцаў да таго Вакулу і ўсіх ягоных сямейнікаў затрымлівалі. Вакула не луснуў, а вось ягоную дачку Любу і ўнука Івана завербавалі. Іван, тайная мянушка Лясны, адправіўся да кагэбістаў і расказаў, што Паўло быў узброены аўтаматам, выглядаў бадзёрым, паводзіў сябе разняволена, прылашчыў дзяцей і пайграўся з імі, распытваў пра супрацоўнікаў органаў бяспекі і пра тое, чаму і каго з акругі ў апошні час выклікалі на допыты. Ад вячэры Паўло — упершыню за час заходаў у сям’ю Савонікаў — адмовіўся, толькі выпіў пару кубкаў вады і наліў сабе ў фляжку малака. Гэта навяло супрацоўнікаў дзяржбяспекі на думку, што Паўло больш не давярае Ляснóму.

Было чаму: Лясны меў каля сябе снатворны сродак «Няптун», той самы, якім, хто памятае па адной з даўнейшых публікацый «Нашай Нівы», карыстаўся агент Юозас Булька, каб прысыпляць і здаваць у рукі МДБ літоўскіх партызан.

Наступны раз Паўло з’явіўся ў Ляснога праз месяц, у той жа вечаровы час. І павёў яго праз балота, з ягоных слоў, на суседні хутар, каб «здабыць самагону для хворага Арла» (якога насамрэч тры месяцы як не было ў жывых). Лясны нерваваўся, думаў, што Паўло атрымаў ад сваёй агентуры інфармацыю пра яго здраду і вядзе забіць яго. Ці так гэта было, дазнацца ўжо немагчыма, бо знерваваны Лясны выхапіў выдадзены яму для самаабароны пісталет, расстраляў у Паўла ўсе патроны да аднаго і ўцёк да размешчанага на мясцовым тартаку пад выглядам работніка агента КДБ па дапамогу.

Калі аператыўная група з сабакамі выявіла параненага Паўла ў лясным гушчары, ён не стаў ні здавацца, ні адстрэльвацца, а застрэліў сябе.

Апошняга праціўніка Арол і Паўло забілі за два гады да таго, у 1954-м — гэта быў агент КДБ БССР Галубей, на хутары Ападышча Іванаўскага раёна. Апошнія два гады яны проста выжывалі і вялі сякую-такую агітацыю — КДБ выявіць, што іх прыхільнікі з ліку сялян куплялі ім фотаматэрыялы ў Пінску, якія, відаць, былі ім трэба, каб размножваць улёткі.

А як стала вядома ўсё пра Арла? А так.

Пры забітым Паўлу выявілі аўтамат ППШ, пісталет «вальтэр» і 60 патронаў да іх, падпольную літаратуру і штодзённік Арла.

У выніку доўгага і стараннага аналізу зашыфраваных запісаў у штодзённіку праз пяць месяцаў пасля смерці Арла і праз два месяцы пасля гібелі Паўла была арыштаваная 24-гадовая калгасніца Марыя з хутара Гліны.

«Будзь разумны — маўчы!» было жалезным правілам тых людзей і тых часоў. Але не ўсе вытрымлівалі.

Марыя здала Ксеню як дзяўчыну, што калісьці — калісьці — хавала Арла. А ў Ксені каля хлява выявілі не так даўно засыпаную яму.

І тую яму сталі раскопваць і знайшлі там цела Арла. Тады і Ксеня расказала — ды што было ўжо хаваць: што пяць месяцаў таму яна, яе 19-гадовая сястра Ліда і Паўло разам выцягнулі цела з лёха і пахавалі.

Арол і Паўло не былі «бандытамі», якімі малявалі і малююць антысавецкіх падпольшчыкаў прарасійскія «гісторыкі». Бандыты так не гінуць і так не паводзяць сябе. Але Арол і Паўло і не былі «супермэнамі», якімі апісваюць тую партызанку нашы рамантычныя нацыяналістычныя гісторыкі, яны не «бралі Навагрудак і Кобрын», не «вызвалялі эшалоны з арыштаванымі» і не «сыходзілі лясамі ў Германію», як апісваў дзейнасць Вітушкі Сяргей Ёрш. Арол і Паўло проста былі ў падполлі да канца і не далі сваім ворагам сябе схапіць.

Яны «проста ішлі і проста стаялі». Здаецца, іх фотаздымкаў не захавалася. Магіл, здаецца, таксама. Засталіся вось гэтыя дакументы іх праціўніка, на аснове якіх удалося рэканструяваць — штрыхпункцірна — апошнія гады іх жыцця. І божа мой, як цікава гэта чытаць — безадносна да таго, як мы ставімся да іх ідэй, метадаў і мэтаў.

Я апісаў толькі пра момант смерці і не буду расказваць пра іх ранейшую дзейнасць, каб вы купілі 4-ы выпуск альманаха «Справа» і прачыталі артыкул Яраслава Антанюка цалкам. Моцны нумар — як у гістарычнай, так і ў краязнаўчай і літаратурнай частках. Дай бог, каб кожны рэгіён Беларусі меў такія альманахі.

**Мікола Бугай**

4-ы выпуск «Справы», які выдае Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў, як заўсёды месціць тэксты паўкраінску, беларуску, па-руску і на гаворках Берасцейшчыны і Піншчыны.

Нумар мае тэмаю «Боль і як з ім жыць».

Публікуюцца кранальны ліст і вершы Уладзіміра Шыпілы з Полацка, псіхалагічны аповед Алеся Кіркевіча з Гродна. Апавяданне Кіркевіча — пра тое, якую дэфармацыю церпіць асоба на вайне і што канец вайны яшчэ не канец пакутам: прыстасавацца да міру ўдаецца не ўсім абаронцам айчыны.

Нядаўна ва Украіне святкавалі два важныя юбілеі — гісторыка Міхайлы Грушэўскага і святара, нацыянальнага дзеяча Андрэя Шаптыцкага. Слынныя юбіляры шмат зрабілі і для беларускай культуры. Пра гэта — у артыкулах рэлігіязнаўцы Ірыны Дубянецкай і гісторыка Віктара Кахновіча.

Болем страчаных літаратурных сувязяў адгукаецца гісторыя жыцця ўкраінскага перакладчыка 1920—30-х гадоў Аляксандра Сарокі (артыкул Вячаслава Лявіцкага).

Пра насычанае творчае жыццё слыннага ўкраінскага даследчыка беларускай літаратуры Івана Дзенісюка піша сябра рэдкалегіі «Справы», прафесар Вячаслаў Рагойша. У наш час умацаваннем повязяў беларускай і ўкраінскай літаратуры займаецца, у прыватнасці, Сяржук Сыс: украінскія пераклады яго лірыкі — у нумары.

Таксама «Справа», як заўжды, месціць матэрыялы з беларуска-ўкраінскага памежжа. На гэты раз чытайце беларускія вершы Наталлі Сацуты, а таксама наш скарб — творы на гаворках: старасты сяла Лелікава з Кобрыншчыны Пятра Шэпецюка, народнай паэткі з Бярозаўскага раёна Ніны Амяльчук і настаўніцы з Камянеччыны Веры Філасаф.

справа
беларуска-
ўкраінскі
альманах
білорусько-
український

Сярод вершаў — і вельмі незвычайная рэч. Гэта «дума», прысвечаная памяці загіблых у Кіеве ў лютым 2014 года. Аўтар, былы вайсковец, а пасля супрацоўнік урада Беларусі, украінец па паходжанні Аляксандр Грыцай, — непрафесійны літаратар, але народная манера робіць яго твор яшчэ больш шчымлівым.

У гэтым нумары публікуюцца і два чалавекі, якія не толькі прыклалі намаганні, каб захаваць родную культуру, але і пераламілі ход падзей. Яны здолелі зрабіць лакальную культуру, якая, здавалася, аджывае — цікавай, моднай, сучаснай, запатрабаванай. Гэтыя людзі — уласнікі аграсядзіб: Ала Палікарпук, што стварыла цэлы турысцкі кластар на Кобрыншчыне, назваўшы яго памясцоваму «Муховэцька кумора», і Васіль Грынь, які будуе турысцкі бізнэс на прывабнасці беларускай вёскі. Штогод да іх прыязджаюць сотні турыстаў.

Ала Палікарпук распавяла чытачам «Справы» пра свой бізнэс і падзялілася рэцэптамі гаспадынь з Кобрыншчыны, па якіх гатуюць і ў яе «Куморы».

Васіль Грынь падзяліўся замалёўкамі з мясцовага жыцця — вясёлымі, мілымі, часам горкімі, але заўжды поўнымі годнасці, якую Грынь пабачыў у сваіх аднавяскоўцах. Пачуццё ўласнай годнасці, гонар за сваю працу і ўменне смяяцца — тое, што ўздымае чалавека над болем і скрухай. Адметна, што замалёўкі напісаныя каларытнай гаворкай Віленскага краю.

Як жыць з цяжарам нязробленага, непаспетага, незваротна страчанага — і як зменшыць гэты цяжар — пра тое пішуць Алесь Паплаўскі і Таня Скарынкіна.

Упершыню да беларуска-ўкраінскага дыялогу ў «Справе» далучыліся польскія аўтары.

Цэнтральны твор «болевага» нумару — раман «Сонька», па вызначэнні крытыкаў, найлепшы раман Цэнтральнай Еўропы 2010-х гадоў. Яго аўтар Ігнацы Карповіч — польскі пісьменнік, які паходзіць з праваслаўнай, этнічна беларускай вёскі на Падляшшы. Невялічкі раман пісаўся восем гадоў, але ў выніку — ніводнага лішняга слоўца, ні фальшывага вобразу. Раман, напісаны ў арыгінале па-польску з украпленнямі беларускай мовы, перакладзены ў альманаху на рускую з украпленнямі беларускай — рэдакцыі альманаха падалося, што менавіта гэта дае магчымасць данесці пасыл аўтара самым поўным чынам.

Друкуецца і ўрывак з кнігі «Аблічча Беларусі» польскага дыпламата, былога пасла Польшчы ў Беларусі Лешака Шарэпкі.

Карацей, купа ўсяго цікавага.

**Набыць альманах у Мінску можна ў кнігарнях «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72), «Логвінаў» (пр. Незалежнасці 37А), на кніжнай выстаўцы «Каля спяваючых фантанаў» (КЗ «Мінск», Кастрычніцкая, 5, аддзел гістарычнай літаратуры), а таксама праз інтэрнэт-кнігарню kniger.by.**

# Беларусы на службе ЦРУ: AEQUOR, захоп групы Вострыкава

Піша гісторык **Антон Рудак**. Працяг. Пачатак у №3.

Улетку 1952-га, калі дэсантавалася група, вядомая ў дакументах ЦРУ як «AEQUOR Team II», Барыс Рагуля дамаўляўся з амерыканцамі пра стварэнне кадравай школы БНР з палітычнай і вайсковай секцыямі, што дазволіла б рэкрутаваць агентаў з большым поспехам: «Надзвычай цяжка пераканаць чалавека, які жыве ў камфорце, маючы дом, працу і дзяўчыну, каб ён аддаў гэта ўсё дзеля «патрыятызму» і заняўся скрайне непрыемнай працай, дзе галоўнай перспектывай з'яўляецца тое, што ён не пражыве доўга». Вярбоўка кандыдатаў гэтым разам мусіла адбывацца ў ЗША, і Рагулю, з увагі на кепскія вынікі рэкрутацыі еўрапейскіх эмігрантаў, яе не даверылі. У якасці кандыдатаў на ролю вярбоўшчыкаў у дакументах згадваюцца Алесь Маргові ч, Уладзімір Цвірка і Янка Запруднік, якія, як адзначаецца, ужо мелі досвед падобнай працы пад кіраўніцтвам Рагулі. Таксама прайшлі сумоўі з Янкам Сурвілам і Аляксандрам Надсанам. Між іншага, у справаздачы аб арганізацыі кадравай школы згадваецца цікавы факт: у Нью-Ёрку па вядомым Францішку Кушалю адрасе жыве «беларускі партызанскі лейтэнант, які мае здымкі беларускіх партызанаў».

Хаця сёння найбольш вядомым удзельнікам дэсанту ў Налібоцкай пушчы з'яўляецца Цімох Вострыкаў, насамрэч роля лідара каманды прызначалася Генадзю Касцюку, былому жаўнеру батальёна Барыса Рагулі. Касцюк быў вызначаны эмісарам урада БНР на Бацькаўшчыне і атрымаў ад Рагулі адпаведныя дакументы.

### Наведаў цешчу

Група дэсантавалася 27 жніўня 1952 года ля вёскі Кляцішча (у Налібоцкай пушчы, цяпер у Стаўбцоўскім раёне).

Паводле ўспамінаў Вострыкава, ужо на другі дзень яны з Касцюком наведалі Налібакі, потым вярнуліся на базу, дамовіліся з Кальніцкім ды Арцюшэўскім пра наступную сустрэчу 13 верасня і накіраваліся да Навагрудка. Пад горадам яны раздзяліліся – Вострыкаў пайшоў у вёску Багудзенка, дзе наведаў цешчу Барыса Рагулі, Тацяну Гутар.

13 верасня 1952 года Вострыкаў прыехаў у Менск, дзе збіраўся наведаць прафесара Леаніда Барысаглебскага, адрас якога дала яму Тацяна, сказаўшы, што той дапаможа з уладкаваннем на працу. Ураджэнец Навагрудчыны, Барысаглебскі скончыў Навагрудскую беларускую гімназію і Віленскі ўніверсітэт, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза, падчас нямецкай акупацыі ўдзельнічаў у падполлі, ад 1944 года выкладаў у БДУ, займаўся ядзернай і атамнай фізікай, даследаваў тэорыю элементарных часціц. Але дамоўленасць пра сустрэчу была патрэбная толькі каб пазбавіцца «хваста» — тым жа вечарам Вострыкаў планаваў выехаць у Гомель. На чыгуначным вакзале яго і арыштавалі.

### Застаецца таямніцай

ЦРУ свае архівы тых гадоў раскрыла, КГБ — дагэтуль не. Таму няма канчатковага адказу на пытанне, якім чынам місія «групы Вострыкава» была праваленая.



**Мікола Абрамчык і Барыс Рагуля. Кадр з дакументальнага фільма «Людзі з чорнымі душамі» (1962).**

Паводле версіі даследчыка Ігара Валахановіча, акурат Вострыкаў выдаў савецкім спецслужбам усю інфармацыю аб групе, якая дазволіла затрымаць астатніх яе ўдзельнікаў. Аднак сам Вострыкаў успамінаў, як адразу пасля дэсантавання яны натыкнуліся ў глухой пушчы на шматлікіх «грыбнікоў», што сведчыць: Саветы маглі загадзя мець дакладную інфармацыю пра месца і час дэсантавання.

У кожным разе не Вострыкаў быў затрыманы першы, а Арцюшэўскі.

Існуе верагоднае меркаванне, што інфармацыя пра групу стала наперад вядомая спецслужбам СССР дзякуючы нейкаму савецкаму агенту ў заходніх разведках. Гучала меркаванне, што гэтым агентам мог быць знакаміты Кім Філбі, які каардынаваў супрацу ЦРУ і Мі-6 па дапамозе антысавецкім рухам ва Усходняй Еўропе і выдаў албанскіх падпольшчыкаў у выпадку, аналагічным вострыкаўскаму. Аднак сам Філбі вымушаны быў звольніцца з Мі-6 у ліпені 1951-га, г.зн. за год да дэсанту Вострыкава (Філбі тады ўпершыню западозрылі ў шпіянажы). Факт застаецца фактам, што савецкае Міністэрства дзяржбяспекі яшчэ два з паловай гады пасля дэсанту праводзіла радыёгульню ў межах аперацыі «Ракета» з удзелам перавербаванага Арцюшэўскага.

Як сведчаць дакументы, яшчэ 31 жніўня амерыканцы атрымалі два паведамленні ад Міхала Кальніцкага. Пасля кантакт перарваўся.

Ва ўспамінах, апублікаваных Алегам Гардзіенкам у «Запісах БІНіМ» № 31 ад 2008 года, Вострыкаў апісвае свой удзел у следчых дзеяннях, выказвае між іншага гіпотэзу, што Міхал Кальніцкі не быў забіты падчас затрымання, а таксама настойвае, што група была выкарыстаная для прыкрыцця дэсантавання іншага, больш важнага агента ЦРУ.



**Генадзь Касцюк у зняволенні. Кадр з савецкага фільма.**

### Пакет з дакументамі

Напачатку лістапада ў ЦРУ наракалі, што кантакту з групай няма. Але ўжо на пачатак студзеня 1953 былі атрыманыя 6 паведамленняў ад Арцюшэўскага. Паводле рапарту ад 5 студзеня 1953, дзе пераказваўся іх змест (паведамленні пісаліся пад дыктоўку супрацоўнікаў Міністэрства дзяржбяспекі), цягам тыдня пасля прызямлення Вострыкаў пакінуў каманду, каб звязацца з асобай, якая жыла ў вёсцы Багудзенка і была рэкамендаваная Рагулем як «надзейны беларускі патрыёт» (у радыёпаведамленнях гэтая асоба згадвалася пад мянушкай «Прося», а ў дакументах ЦРУ — пад крыптанімам CAVADOR 1 — пад ім меліся на ўвазе Мікола альбо Тацяна Гутары — цешча і цесць Барыса Рагулі, бо ў дакументах на гэты конт ёсць рознач ытанні). Увечары 9 верасня падчас разведкі астатнія ўдзельнікі групы, маўляў, сутыкнуліся з «групай узброеных асобаў», завязалася перастрэлка, у якой Кальніцкі быў смяротна паранены. «Узброеныя людзі», аднак, адступілі, што дало Касцюку і Арцюшэўскаму магчымасць схавацца ўглыб лесу, забраўшы з сабою Кальніцкага, які памёр на наступны дзень, паспеўшы паведаміць, дзе схаваў рацыю і дакументы. Рацыю яны адшукалі, а вось дакументы прапалі, і сярод іх — блакноты з кодамі і асноўная схема сігналаў. Таму Арцюшэўскі быў вымушаны выкарыстоўваць запасную схему і застацца ў лесе разам з Касцюком, дзе яны збудавалі зямлянку. 7 снежня Арцюшэўскі паведамляў каардынаты базы, паводле якіх выходзіла, што група хаваецца ля вёскі Камень Валожынскага раёна, на паўднёва-ўсходнім ускрайку пушчы, непадалёк ад Івянца. Вострыкаў у гэты час, маўляў, вандраваў па краіне: наведаў Любчу, Навагрудак, Менск і ўрэшце асеў у Баранавічах. Паўторым: амаль уся гэтая інфармацыя была сфальсіфікаваная.

У маі 1953 года амерыканская выведка падрыхтавала перадачу з новымі дакументамі для групы. Тайнік з пакункам, які не перавышаў памерам бохан хлеба, мусіў закласці дэсантнік ЦРУ з ліку прыхільнікаў Народна-працоўнага саюза (НТС — расійская арганізацыя нацыяналсалідарыстаў, якая супрацоўнічала з амерыканскай разведкай). З увагі на гэта, амерыканцы лічылі неабходным прыхоўваць ад агента, што пакунак прызначаецца для «сепаратыстаў» — гэта магло «астудзіць яго імпэт». Пасля закладкі тайніка энтэзявец мусіў накіравацца ў Мінск.

Між іншага, у пакунку былі нумар газеты «Бацькаўшчына», прымеркаваны да святкавання 25 Сакавіка, зварот «да генерала Вітушкі» і ліст для ўдзельнікаў групы: «Мы часта думаем пра вас. Мы ведаем і разумеем, што вы працуеце ў цяжкіх умовах. Але гэтая праца надзвычай каштоўная, бо яна дапамагае не толькі вашаму народу і нам, але і ўсяму чалавецтву. Вы з'яўляецеся авангардам усіх, хто змагаецца супраць супольнага ворага. Без вашай адважнай падрыхтоўчай працы і працы такіх, як вы, перамога наўрад ці будзе магчымая. Мы дзякуем вам ад імя вашага народа і ад сябе». Ліст утрымліваў таксама інструкцыю да наступных дзеянняў групы, у тым ліку — да сувязі шляхам ліставання.



**Зброя і дакументы дэсантнікаў.**

### Тонкі ход

У Баранавічах, дзе, па легендзе МДБ, на той час знаходзіўся Вострыкаў, жыў таксама чалавек, які ліставаўся са знаёмымі на Захадзе. Ён не меў ніякага дачынення да ЦРУ, як і яго ныя адрасаты, але амерыканцы мелі магчымасць перахопліваць іх перапіску. Вострыкаў мусіў напісаць адкрытым тэкстам ліст («Напішыце, якая файная савецкая ўлада, якая ў вас добрая праца, як адбудоўваецца горад і г.д.»), а пасля змясціць у ім зашыфраванае паведамленне. Усе адрасы мелі быць перададзеныя па

радыё. Супрацоўнікі ЦРУ прасілі перадаваць як мага больш дэталяў з досведу легалізацыі і дзейнасці групы, якія маглі дапамагчы ў падрыхтоўцы наступных агентаў. Скончваўся ліст нечаканай фразай: «Калі ведаеце, напішыце, што здарылася з Вітушкам». (Як вынікае з пазнейшых дакументаў, ліст «ад Вострыкава» на Захад сапраўды прыйшоў, але з няясных прычынаў амерыканцы не здолелі своечасова перахапіць і прачытаць зашыфраваную ў ім інфармацыю.)

У дакладзе ад 8 кастрычніка 1953 года паведамлялася, што група мусіла наладзіць сувязь з «міфічнымі групамі супраціву, якія, як мяркуе Рада БНР, знаходзяцца ў азначаным раёне», але не здолела іх выявіць — у выніку аўтары тэксту сумняваліся, што далейшае супрацоўніцтва ў межах праекта будзе паспяховым. Таксама адзначалася, што любое супрацоўніцтва з Радай БНР варта спыніць, пакуль не будзе сабраная дадатковая інфармацыя, каб упэўніцца, што яе прыхільнікі не парушаюць канспірацыю альбо не знаходзяцца ў кантакце з савецкай разведкай (у гэтай праверцы быў задзейнічаны таксама «таемны партнёр» у Нью-Ёрку, які меў доступ да архіваў БНР).

## «Рагуля забранзавеў»

У студзені 1954-га супрацоўнік ЦРУ у лісце да калегі паракаў, што Рагуля, хаця і атрымлівае поўны заробак ад ЦРУ, насамрэч штодзень па восем гадзінаў заняты ў клініцы, і таму не надае ўвагі справам разведкі. Падчас асабістай сустрэчы амерыканец быў уражаны ягонымі дробязнымі пярэчаннямі і татальнай некампетэнтнасцю ў тэмах, якія абмяркоўваюцца: «здаецца, ён забранзавеў». Хаця, паводле словаў агента CAMBISTA-11, «уся «дванаццатка» інфармаваная настолькі ж», як Рагуля.

Тым часам працягвалася падрыхтоўка агентаў для чарговай беларускай групы, якая мусіла быць перакінутая ў БССР. Адным з дэсантнікаў меў быць Лявон Карась, аднак ужо ў справаздачы за люты 1954-га адзначалася, што дэсантаванне яго ў складзе групы непажаданае — перадусім з той прычыны, што ён валодаў канфідэнцыйнай інфармацыяй аб групе Вострыкава. Аднак залішняя абазнанасць Карася была толькі верхам айсберга — ЦРУ перадусім вінаваціла ў «парушэнні элементарных прынцыпаў канспірацыі» Барыса Рагулю, якога на той час адхілілі ад выканання абавязкаў, хаця працягвалі выплочваць заробак. Як мы ўжо згадвалі ў папярэдніх матэрыялах, Карась у верасні 1954 года быў знойдзены мёртвым пры таямнічых абставінах.

У справаздачы ЦРУ ад сакавіка 1954 года адзначалася, што пасля стварэння арганізаванай падпольнай сеткі ў БССР Вострыкаву варта прапанаваць перабрацца на Захад, перайшоўшы мяжу з Нарвегіяй. На канец 1954 года праверка бяспекі далейшага супрацоўніцтва з Радай БНР была амаль завершаная, і з вяртаннем агента з СССР мусіла быць прынятае канчатковае рашэнне — ці варта наогул працягваць такое супрацоўніцтва.

## Усё стала ясна

Да студзеня 1955 года ад імя групы прыйшло 65 радыёпаведамленняў — апошнія з іх утрымлівалі толькі нараканні на нядбаласць і непрыхільнасць амерыканцаў, затым сувязь спынілася. У гэты час кіраўніцтва ЦРУ было ўжо амаль упэўненае, што група знаходзіцца пад савецкім кантролем.

На выпадак, калі дэсантнікі сапраўды патрапілі ў савецкую пастку, ЦРУ планавала захоўваць маўчанне і ўстрымлівацца ад каментароў. Урад ЗША мусіў адкідаць усе абвінавачванні, прытым імкнучыся выкарыстоўваць любую інфармацыю, якая кампраметавала б савецкі бок. Усю адказнасць за дзейнасць групы мела ўзяць на сябе Рада БНР, якая ў выпадку неабходнасці мусіла паведаміць, што ўдзельнікі групы трапілі ў БССР без усякай чужой дапамогі шмат гадоў таму, «а яшчэ лепш — што яна была пакінутая і дзейнічала з часоў вайны». Рада мела таксама заявіць, што выкрытыя агенты — «не адзіны антыкамуністычны элемент у БССР, дадаўшы, што тыя, хто застаўся, будуць працягваць няспыннае змаганне з камуністычнымі ўзурпатарамі Беларускай Рэспублікі».

## «Памерці сваёй смерцю»

2 студзеня 1957 года Мікола Абрамчык патэлефанаваў супрацоўніку ЦРУ і папрасіў аб тэрміновай сустрэчы. Ён быў у паніцы: у снежаньскіх нумарах «Камсамольскай праўды» за 1956 год з'явіўся расповед пра ўсю эпапею «групы чацвярых», які ў кароткай форме пераказалі *New York Times, Herald Tribune i New York Post*. Абрамчык не мог схаваць сваёй раздражнёнасці, калі супрацоўнік сказаў, што ўпершыню чуе аб гэтым. Сам Абрамчык даведаўся аб публікацыі ад саветолага Аляксандра Даліна і цяпер лічыў, што Рада БНР вымушаная даць абвяржэнне, бо ў артыкулах згадваліся ягонае і Рагулева прозвішчы. Аднак, звязаўшыся з начальствам, суразмоўца Абрамчыка пачуў, што савецкія абвінавачванні лепш ігнараваць — «гэтая справа мусіць памерці сваёй смерцю».

Наастачу Абрамчык не прамінуў нагадаць, што спраўдзіліся ягоныя падазрэнні ў сувязі з савецкімі спецслужбамі кліўлендскага літаратара Алеся Змагара-Яцэвіча — ён нібыта ведаў аб захопе групы да з'яўлення савецкіх публікацый і вёў сярод беларусаў антыбэнэраўскую прапаганду, сцвярджаючы, што Абрамчык і Рагуля выпраўлялі людзей на верную смерць, а самі прысабечвалі абяцаныя ім у якасці страхоўкі грошы.

Аналізуючы публікацыі ў «Камсамольскай праўдзе», амерыканцы прыйшлі да высновы, што ўдзельнікам групы здрадзіў Арцюшэўскі — толькі яму былі вядомыя згаданыя ў артыкуле «метады рэкрутацыі» агентаў ЦРУ ў Брытаніі. Такая выснова была зробленая, бо ў тэксце нічога не згадвалася аб метадах вярбоўкі ў Лювэне, якія былі вядомыя Вострыкаву ды Касцюку — «паколькі гэтая інфармацыя яшчэ больш кампраметуючая... ёсць адчуванне, што савецкім спецслужбам не ўдалося ўзяць [Вострыкава і Касцюка] жывымі альбо зламаць іх». Застаецца толькі здагадвацца, якія менавіта метады меліся на ўвазе. У лютым 1957 года Рада БНР атрымала чарговы ўдар: Абрамчык даведаўся, што ў Англіі з'явілася жанчына з СССР, якая распавяла пра арышт Янкі Філістовіча, лёс якога ўвесь гэты час заставаўся невядомым.

У верасні 1957 з'явіліся ў справе AEQUOR і копіі публікацыяў у менскай «Звяздзе» ад 27 мая — 25 чэрвеня, дзе была апублікаваная аповесць Макара Паслядовіча «Па воўчых сцежках», якая апісвала дзейнасць і захоп савецкімі спецслужбамі Янкі Філістовіча. Напачатку 1958 года парыжскія кнігарні былі заваленыя асобнікімі кнігі «Квадрат Б-52», якая распавядала аб выкрыцці савецкімі чэкістамі «групы чацвярых». Дачыненні паміж ЦРУ і Радай БНР рабіліся ўсё больш халоднымі.


Зброя дэсантнікаў.

## Чуткі на чутках

Тым часам у студзені 1959 Кастусь Мярляк, колішні інтэндант батальёна Рагулі, паведамляў амерыканскай разведцы, што яму стала вядомая пэўная інфармацыя аб групе ад жанчыны, якая ведала яго і Касцюка з часоў навучання ў Наваградскай гімназіі і нядаўна перабралася з СССР у Польшчу, а адтуль прыляцела ў ЗША. Паводле расповеду ўцякачкі, Касцюк з'явіўся ў яе доме ў Наваградку ў жніўні 1954 года (з датай, як і з многім іншым у яе расказах, магла быць блытаніна) у форме савецкага маёра і папрасіў дапамогі і прытулку. Ён паведаміў, што яму з сябрамі ўдалося забіць савецкага «высокапастаўленага афіцэра» падчас вайсковых вучэнняў. Жанчына сцвярджала, што, як ёй удалося даведацца пазней ад вайскоўцаў, якія жылі ў яе хаце, забітым быў маршал Савецкага Саюза Сямён Цімашэнка (насамрэч, ён памёр сваёй смерцю ў 1970 годзе). Касцюк быў аддадзены за гэта пад суд, пакаяўся, выдаў сваіх супольнікаў і прасіў аб літасці, але ў апошні момант перад пакараннем смерцю выгукнуў «Жыве Беларусь!» і «Далоў савецкіх прыгнятальнікаў». Гэты ўчынак нібыта выклікаў масавыя беспарадкі ў Баранавічах. Як вынікае з іншых дакументаў у справе Мерляка, гэтую інфармацыю паведаміла Матрона Мазура — цешча Язэпа Сажыча. Яна распавяла і пра раскрыццё ў Наваградку падпольнай моладзевай арганізацыі (магчыма, маецца на ўвазе Саюз вызвалення Беларусі, які дзейнічаў у 1946–1947 гадах). Жанчына таксама прыгадала, як увесну 1954 года пачула ад савецкіх афіцэраў, што ў казармах у Скрыдлеве пад Наваградкам салдаты загінулі, з'еўшы ежы з катла, у які была падкладзеная атрута, і аналіз нібыта паказаў, што яна была амерыканскай вытворчасці.


# Квадрат Б-52

ДОКУМЕНТАЛЬНАЯ ПОВЕСТЬ, РАССКАЗАННАЯ ПОЛКОВНИКОМ П. И. САХАРОВЫМ

Задав десяток неожиданных вопросов, человек в белом развязал жгут и выпустил из него воздух. Артюшевский слышал, как бился пульс, а человек уже стоял перед ним и, глядя прямо в глаза, снова принялся за свое:

— Что бы ты сделал, если бы в кинотеатре вдруг возник пожар? О чем ты думаешь, когда видишь на улице идущих вместе мужчину и женщину? Что ты будешь делать, если на улице встретишь свою мать? На каком языке думаешь? А сны на каком языке видишь?..

Человек в белом переключал рычажки на аппарате, смотрел на красные кривые линии, появлявшиеся на ленте, а его сообщник стоял молча. Только когда Артюшевский встал со стула, тот тоже подошел к ленте и осмотрел кривые, нарисованные на бумаге.

— Сообразительностью особой ты не отличаешься. Ну да что делать... — Потом, словно взвешивая слова, резко спросил:

— Согласен ли ты на тяжелую работу, связанную с лишениями, плохим питанием и одиночеством на несколько недель или месяцев?

— Да...

На этом испытание не кончилось.

Артюшевскому показали несколько рисунков на картоне и приказали быстро рассказать о том, что на них изображено. На одной картонке: летний день, за сохой идет человек без рубашки; справа стоит женщина с опущенными вдоль бедер руками, слева — девочка с книгами. Вдали — избы, лес, холмистая местность. Отдельные фигурки людей двигались по дороге.

Артюшевский начал подробно пересказывать содержание, но его не стали слушать.

— Посмотри на обороте! — приказал второй.

На обороте было написано: «Русские колхозники».

— Я в своей жизни и сохи-то не видел!.. В наших колхозах на тракторах пахали, убирали комбайнами! — пожал плечами Артюшевский.

На другом рисунке была изображена кровать в мрачной комнате. На кровати лежит мужчина с закрытыми глазами. Над мужчиной склонился страшный старик с вытянутыми руками и скрюченными пальцами. На третьем рисунке — комната, освещенная настольной лампой. На постели — женщина, грудь обнажена, на ночном столике рюмки и бутылки вина. Спиной к кровати стоит, закрыв рукой глаза, мужчина... И еще несколько — Артюшевский уже не помнил точно, сколько рисунков. Потом ему дали в руки замысловатый узор, разрешили посмотреть на него секунд десять и тут же потребовали по памяти нанести узор на бумагу.

— Пожалуй, он все же для дела годится... — заметил по-английски человек в белом.

Второй кивнул головой и сказал по-русски:

— Теперь иди отдыхай. Завтра поедешь в школу: пора приниматься за работу...

Артюшевский даже не подозревал, что в этот день он познакомился с так называемым «детектором лжи», которым заме-ность выделения пота и отмечает даже незначительные колебания кровяного давления. Таким приспособлением, рассчитанным на слабонервных и дураков, испытывают каждого, прежде чем отправить в школу диверсантов.

### Школа на окраине

ШКОЛА разведчиков и диверсантов, в которую привезли Артюшевского и его нового друга Бена, стояла на южной окраине Кауфбейрена, на территории военного городка, около бывшего немецкого аэродрома. Размещалась она в одном из ангаров, рядом с казармами. В казармах жили солдаты американской армии, а в ангаре, где было десятка полтора комнат, обучались диверсанты.

В двенадцати из них проходили занятия. В одной стоял стол для пинг-понга, в другой — небольшой кинотеатр и буфет. «Классы» располагались на втором этаже, и из их окон была хорошо видна вся территория военного городка. Школа усиленно охранялась немцами, они ходили вдоль заборов, а у главного входа всегда дежурили и проверяли документы американские полицейские из «Эм-Пи» (военной полиции).

Сколько в школе обучалось диверсантов, Артюшевский не знал: здесь действовал строгий закон конспирации. «Ученики» одной группы не знали никого из обучающихся в других группах. В первый же день Артюшевскому присвоили кличку «Фин» и посоветовали навсегда забыть настоящие имя и фамилию.

Группа, в которой обучался Артюшевский, состояла всего из двух человек — его и Бена.

Вначале их «обрабатывали» клеветническими измышлениями о жизни в Советском Союзе, заставляли читать эмигрантские газеты, журналы, книги. Затем в течение долгих месяцев Фин и Бен учились работать на рации, изучали топографию, оружие, тайнопись и подрывное дело.

Занятия начинались с восьми тридцати утра. От двенадцати до часу — перерыв на обед, а потом снова «уроки»

что в начале второй мировой войны, когда произошла его первая встреча с американцами, он был всего сержантом, а сейчас ходит в большом чине.

С подчиненными и разведчиками Виктор был сух, строг и требователен. Пока Фин и Бен изучали радиодело, он приезжал к ним один-два раза в неделю, интересовался успехами, потом зачастил и даже возил с собой в лучшие рестораны. Платил Виктор за всех, и платил довольно щедро.

— Вот так и вы будете жить, когда вернетесь!.. — говорил он.

Инструктором по топографии был младший лейтенант Ник Ворд — американец, который владел только английским языком.

Этот высокий, худой человек с голубыми глазами и небольшой горбинкой на носу — след давнего удара — держался небрежно, был скуп, одевался без вкуса и бедно. В школе ходили слухи, что он сын генерала американской армии, аристократ. Во всяком случае дело свое он знал до тонкости. Позже, когда Фин и Бен готовились к вылету в СССР, Ник Ворд сам отбирал для них экипировку, умело упаковал ее в рюкзаки, а одному из них даже купил финский нож, зажигалку и ручные часы. Ни Фин, ни Бен не знали, конечно, его подлинного имени (так же, впрочем, как и начальника школы, которого сначала именовали Максом и лишь потом — Виктором).

Радиодело в школе преподавал американец Дан. Этот словоохотливый парень рассказывал о себе много. До школы служил рядовым, воевал в Южной Корее, но, слава богу, не без удовольствия заметил он однажды, счастливо оттуда выбрался и даже потом посещал какой-то университет. Дан часто вслух мечтал о том лучшем времени, когда кончится «работа» в школе и он вернется наконец в Штаты...

Так шло обучение Фина и Бена диверсиям, убийству и шпионажу. Многоопытные «профессора» тренировали их в стрельбе из пистолета, рукопашной схватке.

Не раз после игры в пинг-понг они уезжали на полигон и до боли в глазах расстреливали одну за другой обоймы «вальтеров» и длинноствольных бесшумных пистолетов американского образца. Стояла ясная летняя погода, вокруг, казалось, царили тишина и покой, но за глухим забором на окраине Кауфбейрена эти двое лихорадочно тренировались без промаха поражать мишень, без ошибки бить ножом и без раздумий вскрывать ампулу со смертельным ядом.

Несколько раз к ним приезжал инструктор, которого даже Виктор называл только по кличке — «Сибиряк». Этот огромный, угловатый верзила со шрамом на щеке вывозил Фина и Бена в соседний лесок и там учил бесшумно ходить по валежнику, заметать следы, строить землянки и разжигать костры так, чтобы они не дымили и неярко горели в ночной темноте.

Однажды начальник школы явился еще с двумя парнями. «Джо и Карл», — отрекомендовал он новых молчаливых незнакомцев.

— На задание поедете вместе, четверо. Привыкайте друг к другу...

Адна з публікацый у «Камсамольскай праўдзе», прысвечаная дэсанту Рады БНР.

Улетку 1960 года Радзе БНР была выплачаная поўная сума страхоўкі, якая вызначалася на выпадак гібелі ўдзельнікаў групы — 32 тысячы даляраў. Рада меркавала выдаткаваць гэтыя грошы на пабудову «мемарыяльнага цэнтра» ў памяць герояў, палеглых у змаганні за незалежнасць Беларусі, у тым ліку ўдзельнікаў групы. Супрацоўнікі амерыканскай разведкі, аднак, выказвалі здзіўленне, што гэтыя грошы будуць патрачаныя такім неадпаведным чынам: «Здаецца, такую прыстойную суму лепш было б патраціць на акцыі супраць Саветаў, чым на стварэнне мемарыяла недзе ў вольным свеце».

## Доўгі лёс

10–14 лістапада 1955 года Вайсковы трыбунал Беларускай вайсковай акругі прысудзіў Цімоха Вострыкава і Генадзя Касцюка да 25 гадоў зняволення, якое яны адбывалі ў Мардовіі. Менавіта там былі знятыя эпізоды з удзелам дэсантнікаў, якія ўвайшлі ў савецкі прапагандысцкі фільм 1962 года «Людзі з чорнымі душамі», прысвечаны дзейнасці беларускіх нацыяналістаў падчас нямецкай акупацыі і на Захадзе. Касцюк неўзабаве пасля гэтага моцна захварэў і памёр — як меркаваў Вострыкаў, гэта таксама здарылася невыпадкова. Сам ён будзе вызвалены ў 1975 годзе, пасля 23 гадоў зняволення. Памёр Цімох Вострыкаў у Гомелі 13 лістапада 2007 года. Ён паспеў пабачыць Беларусь незалежнай — дзеля чаго калісьці ўвязаўся ў вялікую гульню вялікіх дзяржаў і паклаў сваю маладосць. А амерыканцы, у сваю чаргу, строга вытрымалі свой абавязак і пасля краху СССР выплацілі сям'і Вострыкава належную суму страхоўкі з улікам гіганцкіх працэнтаў, што набеглі за гады зняволення.

*Працяг будзе.*

# Моцная, слабая, усё сабе даравала: жанчына з-пад Любані жыве ў Варшаве і вядзе фантастычны дзённік па-беларуску

*Жыццё Святланы Курс мела нямала ліхіх паваротаў. Мінск 90-х, гарачыя пачаткі незалежнасці. Розныя работы. Каб урэшце прызямліцца ў Варшаве, дзе Святлана працуе. А ў сваім фэйсбуку вядзе свайго роду дзённік. Быццам бы звычайны — але ёсць магічнае ў ім. І тую Варшаву бачыш, і як яна, у той Варшаве будучы, жыве жыццём Беларусі. Пранікаеш у жыццё жанчыны, што жыве ў Еўрасаюзе, вучыць сына Фелікса ў польскай школе, жыве праблемамі вялікага свету, а душа часам адлятае на радзіму пад Любанню, на край Палесся. Роўнасць жанчын моцна хвалюе Святлану. Палітыка хвалюе, і вечнасць. Гранічна шчыры дзённік.*

*Ну і мова, мова ў яе фантастычная.*

*Прапануем вашай увазе запісы і фоты з яе вэб-дзённіка за пачатак гэтага года. На маю думку, гэта вялікая літаратура ў фэйсбук-фармаце.*



**1 студзеня**

Адна цётка, пакуль хатнія спяць, прабралася да шыкоўных навагодніх парэштказў і недапіткаў. Гэта рытуал.

**2 студзеня**

От, расстройства з гэтымі вечнымі гульнямі з часам. Час няўмольна выйграе. Пайшла ў краму па звычайны, базавы набор — сялянскі хлеб, малако, яйкі, тварог. Вярнулася, адкрыла хлебніцу — і выпусціла адтуль водар навагодняга хлеба з маслінамі, як водар свята, лятучы, імгненны. Востры момант невяртальнага, ледзь не заплакала.

* * *

«Радзіва «Прудок» [кніга пра тое, як 32-гадовы мінчук пераехаў на глухое Палессе ў дзедаву хату] дачытала. Ад самага пачатку баялася свае рэакцыі. Блізкасць, рэўнасць, зайздрасць — праз гэта заўжды вельмі цяжка прадрацца. Гэта маё, роднае. Раней, да Горвата, я думала, што яно памерла і належыць толькі мне, і я ляжала на ім, як сабака на сене альбо Смаўг на раскошах [герой рамана Толкіена «Хобіт»]. Аднак інтарэс жыцця палягае ў чэснай гульні. Я прызнаю: пра гэта пісаў раней Андрэй Федарэнка (і панёс паразу), потым Андрэй Горват (невядома што ён панёс, паразу альбо перамогу). Мая праўда палягае ў беларускай вёсцы, я ўсіх да яе раўную. Прасціця *(напісала, скрыгічучы зубамі)*.

* * *

Аднойчы я не магла заснуць да 5 раніцы, хаця ехаць мне было а 7. Чытала Федарэнку [беларускі пісьменнік, выхадзец з беднай сям'і з Гомельшчыны]. Той таксама гомельскі і вельмі моцны.

**3 студзеня**

Не любіць палякаў немагчыма, бяруць цябе голымі рукамі. Выходжу я сёння з крамы, ганаруся ўласнай гаспадарлівасцю: 44 злотых гатоўкі было, і я патраціла 39.89, не выкарыстоўваючы карткі. Трасу кулаком з жоўтымі капейкамі над вухам, рада-шчаслівая. І тут чалавек з пшанічнымі вусамі адрываецца ад ліхтара і просіць на папраўку здароўя. Я ў адказ: «Ой, мне няёмка пану такую драбязу даваць». А ён кажа: «Ручаюся, проша пані, я гэтых бедных маленькіх сіротак не пакрыўджу!» Ссыпала яму са жмені ў жменю.

**8 студзеня**

Я заўсёды хацела ведаць, як жывуць, што любяць і адчуваюць іншыя. І маю ўражанне, што ўся сусветная літаратура ад Гамера пачынаючы сказала мне меней, чым фэйсбук Цукерберга.

**14 студзеня**

Пазнаёміл з Юркам Асеннікам [рокер-беларус з Беластока], маю альбом. Глыбокі, страшнаваты. Коміксы ў ім рэзкія. Асабліва той, дзе брат ідзе на брата з сякерaю. Юрка кажа: гэта вельмі беларуская тэма, але яе распрацоўваў яшчэ Дзюрэр. А я памятаю старое нашае павер'е, што плямы на месяцы — гэта брат засякае брата. Я вельмі люблю Асенніка.

**15 студзеня**

Трохі нядзельнай слодычы:



**17 студзеня**

Я ўвесь час думаю пра цячэнне часу, і думаю ўхвальна. Але якім жа адкрыццём для мяне было тое, што за маім жыццём у маім лесе дрэвы змяніліся двойчы — вольхі павінны жыць і да 80 год, але жывуць па 20, а вераб'і змяніліся ў саракавым пакаленні.

**18 студзеня**

«Я люблю Беларусь, мне добра ў Беларусі». Новая кампанія «Нашай Нівы» своечасовая, правільная і шчырая. Стагоддзямі з нашай зямлі вымывалася яе соль, і ніхто не мог гэтаму паставіць крэс, бо не было сваёй дзяржаўнасці. А цяпер, хоць крывая, касая, каравая, як мая доля, але дзяржаўнасць ёсць. І з'явіўся нейкі гістарычны шанец эвалюцыйным шляхам перарабіць яе на нешта добрае. Наш вечны вораг слабее, і хутка яму будзе не да нас.

* * *

Нябожчык Віктар Івашкевіч [рабочы з Мінска, адзін з пачынальнікаў падпольнага руху за незалежнасць у 1980-я] лічыў, што беларускае адраджэнне мае спіральную структуру. Ён быў вельмі пераканаўчы, падмацоўваў сваю тэорыю нейкімі прыкладамі, якія за даўнасцю я забыла, але памятаю, што там вялося пра спіральнасць альбома «Пінк Флойд» «Сцяна».

* * *

Галоўны набытак майго ад'езду — у іншых краінах, па-за Беларуссю, ёсць воля, свабода. І гэтую волю-свабоду кепска ці добра, але абараняе нада мною польская, чэшская, амерыканская дзяржава. Яны як парасонік, часамі нязграбны, і цяжкі, і ломкі. А наша дзяржавухна — як гранітная пліта, якая бароніць мяне ад дажджу.

**19 студзеня**

Зараз зраблю вельмі інтымнае прызнанне, каб вас здзівіць. Сёння ўначы я прачнулася ад таго, што ўсё сабе даравала. Пачуццё было такім моцным і цудоўным, што я прыняла яго за сон, махнула рукой і зноў заснула. Але прачнуўшыся раніцай, я не адчула вечных смуткаў, трывогі і віны. Фактычна гэта быў першы добры ранак майго жыцця. Я і не ведала, што жыву ў такой турме, якую сама сабе збудавала. Мне 45 гадоў, я дастаткова адседзела і цяпер ні ў чым не вінаватая, свабодная і абыякавая. Так бывае, і без псіхатэрапіі. Ура.

* * *

А ў маладосці мяне палохалі, што пасля сарака кепска жыць! Усё падманвалі.

* * *

У мяне ёсць унутранае імя, але яго не возьмеш — яно нахабнае і нехарошае. Я называю сябе Чычаліна. Гляну, бывае, у люстра раніцай, і нешта ўнутры мне гаворa: ну, здарова, Чычаліна.

* * *

Баюся сурочыць, але змены каласальныя. Мне больш нічога не трэба заядаць, заліваць алка. Я нават перастала баяцца чынавенства і дзяржустаноў, паліклінік і інш. Прачынаюся з даверам і надзеяй і не думаю, што за гэта давядзецца заплаціць непрыемнасцямі. Гэта, бадай, усё, пара ўжо і завяршыць шчыраванні. Усім зычу добрага года.

**24 студзеня**

У мяне два любімыя краявіды. Адзін «умазрыцельны». Туды я спакойна і доўга збіраюся, можа, і не даеду, а можа, даеду нямоглай сівенькай бабулькай. Гэта ірландскія адхоны над акіянам.

Другі пейзаж — мой райскі сад (**на фота знізу**). Ён існуе сапраўды. Гэта нашае селішча стаіць проста вочы ў вочы з лесам, па начох да нас праз дарогу адтуль ходзяць і лятаюць жыхары, і наш сабака, і нашыя каты бесяцца ад узбуджэння. Над сцежкай днём лятаюць каляровыя матылькі, а днём — беска-



лёрныя мятлікі, і каты (уначы таксама бескалёрныя) палююць на іх з зарасціў мацыёлы. І пах мацыёлы, ліпы, травы, зямлі...

**29 студзеня**

Згадваю свой пост за 19 студзеня штодня. Як усё стала на месцы 19 студзеня. Былі ўжо і непрыемнасці, і мегапаскудствейка адно маё ўскрылася, і надакучыла я сама сабе й людзям надмерным словавывяржэннем. І яшчэ ад даўжэзнай пісьмовай працы баліць плячо і шыя. Аднак гэта зусім іншая якасць жыцця. Я цяпер адпаведная сама сабе і сувымерная сама сабе, і ўсё, што са мной здараецца, ёсць спакоем і нормай. Вось сёння паехала глянуць на ваду і лес у Белыя Берагі, даехала да краю Варшавы, палезла даплаціць, а кашалька — ёк! Вылезла і пайшла дахаты. Так і ішла са спакоем, ловячы пах кебаба, і чорныя малюнкі голля ды бынлягу на небе і снезе, і простых людзей з простымі вераб'ямі сузірала, як і замерзлыя дамы раёна Жалібаж. Мабыць, пайду ў школу скрыпкі ці акварэльнага малюнку.

**30 студзеня**

Абажаю простыя класічныя дэтэктывы. Нідзе няма такіх дасканалых апісанняў чалавечага побыту, у якім адбіваецца сірая чалавечая душа, псіхалогія і лёс. «На пяцьдзясят чацвёртай заходняй вуліцы я ўбачыў пабляклы брунатны дамок з высахлым брунатным газонам. Адзіная пальма ўпарта змагалася за жыццё. Паўднёвы ветрык драпаў патрэсканыя сцены адрослымі парасткамі леташняга каляндніку. Збоку, на паржавелым рыпучым дроце, калыхалася недамытае пажоўклае хусце». Як вы думаеце, хто тут жыве, хто выйдзе да дэтэктыва Філіпа Марлоу?

Удава-алкагалічка сталага веку. Адсюль гэтыя парэшткі ілюзій кшталту пакупкі каляндніку на святы і абы-якое, але пранне. Удавец бы меў крэсла-ківайку і пляшкі па піве на вэрандзе, мусіць.

***

Гэта капітан украінскай арміі Андрэй Кізіла, які загінуў пад Аўдзееўкай.



**1 лютага**

Новы, вішнёвы акт сандалеманіі:



***

Па знаку я Свіння, і гэта надае чароўнасць кожнай фразе гараскопа. «Сёлета Свінню чакаюць высокія мілосныя ўзнясенні», — прарочыць мне польскі гараскоп. І далей: «Свіння, якая мае прафесійныя амбіцыі, павінна ўвесь год выкарыстоўваць свае здольнасці глыбокага даследавання». Мо труфелі капаць?

***

Як пісаў Тэкерэй: і над тлустай таліяй можа біцца гарачае сэрца!

**2 лютага**

Людзі такога складу, як Трамп, Пуцін, і цэлая плойма ім падобных, ніколі не стаяць за цаной.

За Трампа палка перажываюць мужчыны складу «інтэнсіўнік», «разрубацель гордзіевых вузлоў», «незважальнік на трэскі, якія ляцяць, калі сякуць лес».

**3 лютага**

Па ўсёй стужцы гэтыя Фліп і Флап. Пра аднаго ўначы расказваюць, пра другога ўдзень.

**10 лютага**

Фэйсбук замучыў рэкламай партыі Гі Фэрхофстада [бельгійскі палітык]. Я яе і так хаваю, і гэтак, а Гі як усміхаўся мне абаяльным шчарбатым ротам, так і ўсміхаецца. І вось учора «ён прыйшоў ка мне ў сне». Нібыта мяне не пускалі жыць у лепшую частку горада для разумных, бо я не мела панятку, як утвараюцца світанкі і захады. Я ім на КПП кажу: Зямля віецца вакол Сонца, а таксама вакол уласнае восі, адтуль вашыя світанкі. Іржуць і не пускаюць. І тут падыходзіць сп. Фэрхофстад і кажа: хадзі, я цябе навучу. Бярэ нейкі планшэт і малюе на небе: вось ёсць агнявы леў, калі ён павернецца і гляне ў люстэрка, на зямлі світанак, ясна? І на цёмным небе сапраўды з'яўляецца чорнае люстэрка ў зорах, а насупраць яго — цяністы леў, дупаю да люстэрка. І раптам гэты леў адварочваецца і — усміхаецца ў люстэрк: агнявая пыса і агнявая грыва, і яго руды і залаты адбітак ад вялізнага люстэрка асвятляе зямлю. «Во!» — кажу я ахоўнікам і праходжу ў лепшую частку горада. Думаю, *ALDE Group — Liberals and Democrats in the European Parliament* першыя запусцілі мазгавую атаку ў фэйсбуку дзеля палітычнае рэкламы. А значыць, за імі будучыня. Галасуйця за ALDE!

**11 лютага**

Я цяпер гляджу *Westworld* і *Taboo*, а там сцэнарысты гоняць Шэкспіра, Сафокла, Дантэ, Біблію, Дастаеўскага, Мэры Шэлі, Сымону дэ Бавуар і многа-многа Дыкенса. Вось табе і серыялы. Вось табе й мыльныя оперы.

***

Якая файная фатаграфія маці і сына!



**16 лютага**

Я еду дадому. Нарэшце еду дадому, у сваю пустату.

***

Аж млею ад хвалявання і прадчування. Калі мне ніхто не перашкодзіць, то ў суботу я апынуся там. Мяне туды не давязуць, і 9 км я буду ісці ў поўнай цішы. Дарога раскладзецца на палоскі — шэры асфальт, белы пясок, чорны торф, зялёнае ўстраўе, белае абснежжа, ліловы алешнік, блакітна-белае неба. Прасціця за ўсю гэту сентыментальнасць.

***

Я не знаю, каму прызнацца ў гэтым каханні. Справа ў тым, што там культура канчаецца. Гэта патройнае памежжа Меншчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны, і дарогі там завіваюцца ракушкай і нікуды не вядуць, я ездзіла роварам, торкалася. І я сябе там адчуваю як у матцы, як у ракушцы, як у доміку. Мой брат, Віктар, пранікся гэтаё маёй тэорыяй і падарыў апошнім летам праездку па дзікіх забытых вёсках Любаншчыны, Глушчыны і Рудабельшчыны.

**23 лютага**

Дома зімішча, вецер б'ецца ў сцены, як шалёны бык. Начныя снегапады. Усё чорна-белае, апрача чыстацелу, папараці, скочак і праклятай амялы, якая распаўсюдзілася, як чартапалох у сабачай поўсці. Адкуль гэта навала? Раней яе столькі не было.

**4 сакавіка**

Што за цудоўная вясна, спадарства! Змена паравін года, коладзён — самая пекная рэч на зямлі. Я так прывязаная да гэтага. Ніякі космас мяне ніколі не маніў, я радая, шчаслівая і спакойная, што ніколі не пакіну зямлі і заўжды буду ўключаная ў гэты коладзён любым удзельнікам — сабой, травой, кузуркамі ці прахам.

***

Ура! Ура! Сонца, шпакі, глеба парue!

***

А вось цяпер я хаджу ўначы па парках, адчуваю гэты пах і кліч глебы, нібыта мірыяды траваў, цел і лістоў адтуль са мной гаворань, і думаю: ой, каб не накаркаць толькі. Вось прыляціць талерка з космасу, украдуць мяне на доследы, як сабаку Стрэлку, і любая кніга Рэя Брэдбэры падасца калянднай гісторыяй.

***

З Варшавы вяшчаю, але з адбіткам Беларусі на «ўнутранай паверхні павек» (Набокаў, здаецца).

***

Гераіня Рут Рэндэл [брытанская пісьменніца] у такі дзень лічыла: мне сорак, значыць, я ўбачу квітненне вішні максімум яшчэ сорак разоў, таму ўпускаць нельга.

**11 сакавіка**

Цэлы дзень правяла ў прыліве закаханасці ў свой народ [людзі ў гэты дзень выйшлі на плошчы ў Пінску, Оршы, Бабруйску і Рагачове]. Звычайна ў мяне шмат крыўдаў на сваіх, вядома за што. Але ў самыя важныя моманты беларусы праяўляюць свае найлепшыя якасці: шчырасць, чалавечнасць, сціплую, але высокую годнасць. Годнасць гэтая не скіраваная супраць кагосьці, яна сапраўдная, унутраная. Многія выйшлі не за сябе, а за іншых: за моладзь, дзяцей, унукаў. Бабуленькі, якія жывуць «на курыных спінках», цярпелі да апошняга, абы дзецям было добра. Але будучыню забралі і ў дзяцей, і ўсё для чыіхсьці непамерна раз'етых эга і дупы. Мая віна, што я не дома.

**17 сакавіка**

Памятаю пабоішча 1996-га. Памятаю, як касманаўты дубіналам збівалі [кінарэжысёра] Уладзіміра Халіпа, прыціснуўшы да нейкай прыгожай кратаванай брамы, і як яго закрывала сабой [дачка] Ірына. Памятаю Жыгамонта, які біўся з мянтамі, як леў, толькі шалік павяваў. Жанчыну, якая трапіла на акцыю з авоськай буракоў і кідала імі ў міліцыянтаў, а потым тыя буракі скакалі па асфальце. Ну, і як мы з незнаёмцамі трохі пагайдалі міліцэйскае аўто, а потым я праз 20 год пабачыла здымкі і пазнала ў хаўрусніках пару славутых беларусаў. 21 год мінуў, а ўсё тое ж.

**21 сакавіка**

У Варшаве з раніцы таксама было, я разлавалася. Неба як у труне, нізкае, цёмнае, бязрадаснае, тэмпература ні туды ні сюды. Мала таго, цяпло трымаецца тры тыдні, а трава і лісты не адгукаюцца. Але па абедзе ўсё змянілася.

Палезла я ў зашаф'е па ўпакоўку вясновых празрыстых шкарпэтак (час на іх!) і наткнулася на пляшку добрага віна, якую сама ад сябе заначыла. Праўда, пра якую пішуць у «Хроніках Нарніі» і ведаюць многія дзеці — шафы бясконцыя і вядуць у іншасветы. Вось, пайшла купіла браткоў і нарцысаў, саджаю на ветрыку на сваёй галерэі, а збоку на падваконні келіх *Riddle Creek* [аўстралійскае віно]. Прыхлёбваю за здароўе кожнай кветкі. З вясной!

***

Раптам так папразрысцела і высахла паветра і зямля! Гэта той момант, Воленька. Нарэшце на сорак пяты раз я магу ўлавіць кожнае адценне прышэсця вясны.

***

Такая вясна, і мы жывыя.

**23 сакавіка**

У такой сітуацыі неабходныя ўнутраная засяроджанасць і спакой. А збор дапамогі — файная магчымасць дапамагчы нашым вязням і іх сем'ям. Не плакаць, не баяцца, а рабіць — адразу стане лягчэй. Добрая магчымасць для беларусаў за мяжой віртуальна стаць за краіну.

**24 сакавіка**

Кіраванне Аляксандра Лукашэнкі застанецца ў гісторыі як правал і ганьба ад першага да апошняга дня.

**25 сакавіка**

Калі Еўропа гэта пракаўтне, то мне не патрэбна такая Еўропа.

***

Еўропа і Амерыка памагалі і памагаюць. Але цяпер я хачу ад іх простай справядлівасці і звычайнай біялагічнай чалавечай гідлівасці. Не прымаць, не ездзіць, не лгаць. Гэта як бы я пайшла есці торцік у дом, дзе гвалцяць і б'юць. А потым такая: «Ах! Што вы! Я нічога не заўважыла».

Працяг на старонцы 20.



Краявіды з малой радзімы Святланы Курс.

# «Усё сабе даравала»: жанчына з-пад Любані жыве ў Варшаве і вядзе фантастычны дзённік па-беларуску

Працяг са старонкі 19.

* * *

Што ж тут напісаць пра іх? Гэта нежыць, нелюдзі. Але ў адрозненне ад іншай нежыці — нячысцікаў, напрыклад, — шуняўкі нецікавыя, плоскія. Нуль канфлікту, нуль агню. Каб там нейкая іскра была, чалавек не стаў бы служыць гаўном.

Я гляджу ў іх твары і не адчуваю ніякага інтарэсу. Мая бабка называла такіх «пакідзішча». Прапашчы, пусты чалавек.

Сіла, прага ўлады, мілітарызм, адміранне пачуццяў і падпарадкаванне галоўнай малпе.

* * *

Ты ж не раўняй пратэсты ў вольным і нявольным краі. Гэта параўнаць няможна.

### 27 сакавіка

Столькі нянавісці ўва мне цяпер. А мне гэта шкодна. Неабходна кудысьці нырнуць і вынырнуць кімсьці іншым.

### 27 сакавіка

Я гадоў 20 хацела задаць пытанне, але саромелася. Скажыце, калі ласка: чаму «махаў рукамі» ў нашай краіне заносіцца ў пратакол і караецца суткамі? Ці ж гэта не нармальная жэстыкуляцыя ўсхваляванага чалавека? Чым, каму можа зашкодзіць маханне рукамі? Для чаго ж іншага дадзены чалавеку рукі? Працаваць і выражаць эмоцыі.

* * *

Мы шукаем свае адметнасці, каб прыцягнуць турыстаў. Дык вось жа яна: «Беларусь — краіна, дзе нельга махаць рукамі». У нейкім штаце ЗША, я чула, нельга ўсцягваць кавадла на званіцу і кідаць уніз. У іншым — забаронена займацца пэўнымі відамі сэксу ў матэлях. І ў нас ёсць свая нацыянальная адметнасць!

### 30 сакавіка

Вялікдзень я святкавала ад нараджэння. Ён так і зваўся ў нас — Вялікдзень. Не Пасха, не. Яшчэ, праўда, ад бабак я чула слова Васкрашэнне. Мы малымі думалі, гэта намёк на крашаныя ў цыбулі яйкі. Нават калі маіх бацькоў пасялілі ў двухпавярховік без печкі, яны ўдваіх, як насілкі, цягалі начоўкі з цестам праз чатыры вуліцы да кумы ў печ пячы пірагі. А потым гарачыя пірагі клалі пад велікодны белы абрус, давалі нам крывабокі паскрэбышак і казалі: «Света, Віця, спаць, пірагоў не крысці, бо Бог загневаецца!» І везлі бабу на ўсяночную. І раз-такі мы з братам, дачакаўшыся ўсяночнае, паламалі ўсе тыя пірагі на друзачкі, паелі разамлелыя разынкі, а кавалкі склалі кучкамі. Мы думалі, што розніцы ніякай, смак пірагоў усё адно захоўваецца, і невядома чаго так раўлі бацькі і бабка. І вось гэтай вясной я ўпершыню згадала пра гэта.



### 1 красавіка

Вясна. Купка прышчавых юнакоў з гусінымі шыямі ідзе праз двор. З пад'езда выходзіць рудая дзяўчынка-мара, дасканалая з ног да галавы. Як яны змоўклі, як яны глядзелі, бедныя, мілыя. Я ўзнесла падзяку нябёсам, што мне не 15. Пякельным бывае першае юнацтва. А яны, мусіць, маглі б пашкадаваць нудную цётку, якая цвітучай вясной нясе дахаты сетку картопель, крышку ад унітаза і кацінs жвір. Але цёткі ім нябачныя.

### 2 красавіка

Штосвятой нядзелькі мой бедны, вясёлы, п'юшчы раён — Блізка Воля Роботніча — прычапурваецца і валам валіць на кірмаш. Закінуты стадыён «Алімпія», дух 90-х, гандаль з раскідушак, бусікаў і проста са шчырае зямелькі. Паў-Украіны і паў-Беларусі тут, а палякі прадаюць старое рыззё з хаты. Я выправілася, каб упалякаць сабе цукарніцу з 1950-х. Ну і гародніны прыкупіць за капейкі кіло.

Сыры, хлябы, кілбасы і кіндзюкі з Літвы, зборы свежамолатых прыпраў, вясковыя куры, яйкі і мёд, вяленая, вэнджаная і сушаная рыба, самацыснутыя алеі, авакада па паўтары залатоўкі, 400 г клубніц за 2, маладая бульба за 3 зл, арэхавае печыва за 8/кг. Зяленіна і радыска па залатоўцы. На ўсё 25 баксаў пайшло.

А на прамоцыю ці на кірмашы можна шмат чаго купіць. Зяленіна, пончык, малая канапка са шмальцам і гуркам, шкляначка ёгурту, палова цёмнага хлеба, абястлушчанае малако. І за 1,49 — кіло яблык. 89 грошаў — кіло нямытай бульбы [1 злоты = прыкладна 50 капеек].

Ярка-пунсовая карункавая бялізна для распусніц (10 злотых — і ў дамках!), парцаляна і крышталь са старых сервантаў (бедныя нашы продкі, набілі некалі серванты, даставалі-мучыліся, а цяпер гэта ідзе па пары злотых), стары акардэон, афіцэрскія боты, скураныя тапкі, брыдкія, але жыццесцвярджальныя суконкі — ух, чаго там толькі не было! Не было толькі мае цукарніцы. Дакладней, была — добрая ангельская парцаляна, але без крышачкі. У такіх цукар злежваецца.

### 6 красавіка

Сёння прыходзіў мой піцерскі дзядзька-нябожчык, высокі, самавіты, пузаты, у новым аранжавым швэдры і светлым пінжаку. Я яго павіншавала па-ангельску чамусьці. «Хэпі бёздэй, — кажу, — дзядзя Ваня». Ён моўчкі прыціснуў мяне да аранжавага пуза. Так я прачнулася з адчуваннем воўны на шчацэ. Мабыць, у сне мне было гадоў 10, я сягала яму грудзей. Прачнулася і зразумела, што мой дзядзька сапраўды нарадзіўся ў красавіку 1944-га. Па віншаванні прыходзіў.

* * *

Эдуард Дубянецкі кінуў мне выклік: надрукаваць верш беларускага паэта і перадаць эстафету далей. Друкую «Запавет» Алега Мінкіна. Эстафету перадаю ўсім. Паэзія пераадольвае жыццё.

Каханне, грошы, славы сверб — мана:  
Гарэза-час завабіць імі сэрца,  
Памучае, а потым насмяецца —  
Не здраджвае Радзіма нам адна.  
Так у рацэ сплывае хлуд сухі,  
Цяжкія бёрны і ашмоцце пены,  
І толькі адбіваюцца нязменна  
У хуткабежнай плыні — берагі.



Краявід з варшаўскай кватэры Святланы Курс.

### 7 красавіка

Сёння ў 6.30 мне пазваніў кур'ер. У 6.30. І кажа такі: «А што гэта ў вас такі дзіўны нумар дома? Ці правільны ён? Я пасля шаснаццаці буду». Я хацела адаспацца, а цяпер ляжу і думаю: куды б я ўжыла такое вялікае і прастадушнае нахабства?

* * *

Лепшай навіны і не прыдумаеш. Я пра 59 лятучых ракет. Брава, Амерыка.

### 8 красавіка

Сонца, вецер. Браткі мае цвітуць сямю колерамі, залатыя нарцысы пусцілі стрэлы да Вялікадня, пайду цяпер пасаджу мяты, кропу і базілік, каб усё лета паядаць. Заадно абгойсаю вакольныя блышыныя кірмашы ў пошуках цудаў за капейкі: «Часамі жыццё цвіце як ружа», казала Шарлота Брантэ. Добрага ўікэнду добрым людзям, палёгкі тым, хто ў вязніцах.

### 10 красавіка

Ну, дачакалі: Скотланд-Ярд упершыню ўзначаліць жанчына.



* * *

Калі мне адказваюць груба, я, бывае, цярплю. Адзін чалавек у дзень — яшчэ нічога. Але бываюць дні, калі атрымліваеш адлупы з усіх бакоў. От, думаеш, бедны я надламаны цвяточак. А нараніцу падымаешся і разумееш, што не цвяточак ты, а тая кучаравая траўка, што расце на бітых дарогах — з мікраскапічнымі суквеццямі, незаўважная мяккая траўка.

### 12 красавіка

Ноччу мяне часта пераследуе вельмі карысная і разумная думка: пра што я буду шкадаваць на Божай пасцелі і што б мне ўтварыць, каб потым не шкадаваць ні пра што, а ляжаць і мерці спакойна. І я надумала-такі, пра што шкадавацьму найбольш: што так доўга дазваляла сабе ўзірацца ў нікчэмныя аблічча правадыра і ягонага шумецця. Гэта дзесяцігоддзямі рэзала мне вочы і вушы, разбурала пачуцце прыгожага, разумнага і справядлівага. І я буду шкадаваць: мала адварочвалася, мала пераводзіла позірк на добрых людзей і прыгожыя явы. А самае кепскае — мала змагалася. Ох, і сорамна мне будзе.

### 13 красавіка

Упершыню бачыла ДТЗ у рэальным часе. На шчасце, усе жывыя. Але які страшны гэты міг незваротнасці, які ён кароткі і адначасна працяглы. Страшна.

### 14 красавіка

А цалкам жа магчыма, што гэты вылюдак, дыстыляваны ў трох пакаленнях [Кім Чэн Ын], і распачне вайну. Кайнаў грэх ён зрабіў не маргнуўшы вокам. Вось купіла я сабе ліловыя туліпаны, абрус, Юлін падарунак, пасцяліла, а ў панядзелак — цюцю! Прахам пойдуць і я, і тулiпаны, і вясёлкавы пекны абрус.

### 17 красавіка

Знайшла чужую карту ў білетамаце. Адчула нехарошае хваляванне.

### 18 красавіка

Сябры са стужкі бавяцца новым калейдаскопам: размяшчаюць свае фотачкі старымі, юнымі, іншапольнымі. Гляджу, і ўсе чатыры здымкі складваюцца ў адзіны твар вечнага, індывідуальнага чалавека. «Дык вось ты які(ая)», — думаю. Файная гульня. Дарэчы, усё ясней бачу пранізлівае харaство старасці, мабыць, з узростам мне выдаюць усё новую і новую оптыку.

* * *

«Мы на НН часам друкуем лісты арыштаваных па справе «Белага легіёна» да сваіх родных. Дундукова, Лазоўскага, Данілава. Гэта самае моцнае чытво, якое мне траплялася апошнім часам. Якія гэта глыбокія людзі, якая ўнутраная светліня і стрыжань. І галоўнае, што па-беларуску. Гэта людзі, якімі трэба ганарыцца, якія павінны быць на кіруючых пасадах у сілавых органах. А замест гэтага яны сядзяць у турме. Патрыёт — не злачынца, калі гэта ўжо дойдзе і наверсе?» — піша Зміцер Панкавец.

Гэта дайшло наверсе. Менавіта таму яны ў турме.

### 22 красавіка

Я ведаю мора прымавак дэфекатыўнай тэматыкі, Віця. Ужываю выключна дома, бо яны... проста немагчымыя. А я іх люблю — не магу. Мая цётачка пра сквапнага чалавека кажа: «А гэты і з гаўна плеўкі здярэ». Пра амбітную паездку мая бабка казала: «У жопу носам, назам калёсам». А найбольш незразумелую прымаўку мне расказаў дрывасек Аскольд: «Сяры ды маж, і будзеш чорт наш». Паняцця не маю, што гэта азначае. Але Аскольд гэта ўжываў, калі яму прапаноўвалі замалыя грошы за клетку дроваў.

### 25 красавіка

Параўноўваючы сябе з іншымі людзьмі (найчасцей, жанчынамі), прыўважыла, што я тормаз. Пазнюся на кожным жыццёвым этапе. Дзяўчаты, скажам, ужо кінулі пячы кулічкі з пяску, а я пяку. Дзяўчаты кінулі гуляць у класікі і скакалкі, а я толькі ў смак уваходжу. Дзяўчаты пачалі фарбавацца і хадзіць на дзіскацекі, а я пнём пень. Ну і так далей — інфантыльнае завісанне. І вось сёння ўначы мяне азарыла, што я — жанчына сярэдніх год, маці маладога чалавека! І што мой сын хутка мяне пакіне. Аказваецца, адна думка пра яго адыход невыносная.

# Ялоўская «Хроніка», або У якім касцёле быў ахрышчаны Каліноўскі

На старой каралеўскай дарозе з Беластока ў Менск, вёрстаў дванаццаць не даязджаючы да Свіслачы, разлеглася старадаўняе мястэчка Ялоўка. Калісь яно належала да Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні. Цяпер гэта тэрыторыя Польшчы. Але да сучаснай беларускай мяжы тут лічаныя кіламетры.

Выгаднае транзітнае размяшчэнне спрыяла хуткаму росту паселішча. Прызнаннем яго значнасці і дадатковым штуршком да далейшага развіцця стала наданне Ялоўцы ў 1545 Магдэбургскага права.

Аднак праз стагоддзі стары каралеўскі шлях страціў былое значэнне. Будаўніцтва чыгункі і шашы прывяло да яго паступовага занепаду. Канчаткова ён абязлюдзеў, калі быў перарэзаны дзяржаўнай мяжой. Гэта не магло не адбіцца на лёсе Ялоўкі. Сёння гэта ціхае мястэчка з багатай лакальнай гісторыяй, у якой адбілася ўся супярэчлівая мінуўшчына беларуска-польскага памежжа.

Але для беларусаў Ялоўка адметная не толькі гэтым.

6 лютага 1838 менавіта тут, у мясцовым парафіяльным касцёле, ксёндз Францішак Караneўскі ахрысціў немаўлятка, сына ўласніка недалёкага маёнтка Мастаўляны. Хлопчык атрымаў імя Вінцэнт. Праз два месяцы, 4 красавіка, быў праведзены паўторны абрад хросту, і да першага імя было дададзена другое — Канстанцін, пад якім сыну Сымона і Веранікі Каліноўскіх і было суджана ўвайсці ў гісторыю.



Траецкі касцёл у Струбніцы. Так мог выглядаць і ялоўскі касцёл.
Фота А. Дыбоўскага.

Сённяшні ялоўскі мураваны касцёл Божага Перамянення многімі якраз і лічыцца месцам хрышчэння Кастуся Каліноўскага. Аднак гісторыя храма сведчыць, што яго пачалі будаваць толькі ў 1859-м, і прыняць хрост у ім будучы кіраўнік беларуска-літоўскіх паўстанцаў ніяк не мог.

Тым больш не мог ён хрысціцца ў касцёле Св. Антонія, руіны якога захаваліся ва ўсходняй частцы мястэчка, бо гэты храм узводзіўся яшчэ пазней — у 1910–1915 гг.

Дык дзе ж хрысцілі Каліноўскага? Адказ на гэтае пытанне дае «Хроніка парафіяльнага касцёла ў мястэчку Ялоўка», складзеная ў 1849 мясцовым ксяндзом Віктарам Кулешам. Дарэчы, у 1841 г. ён быў капеланам Свіслацкай гімназіі, у якую праз шэсць гадоў паступіць вучыцца Кастусь Каліноўскі. Калі айцец Віктар быў пераведзены ў Ялоўку — дакладных звестак няма. Вядома, што праз нейкі час яго выслалі ў Сібір, дзе сляды Віктара Кулешы губляюцца.

Ялоўская «Хроніка» не была арыгінальным творам у звыклым нам разуменні. І ініцыятыва яе складання не належала мясцоваму каталіцкаму святару. Звесткі пра парафіяльныя касцёлы ў сярэдзіне XIX ст. збіраліся цэнтралізавана біскупскай курыяй. З Вільні па парафіях рассылаўся друкаваны фармуляр-апытальнік «Хронікі». Ён утрымліваў 10 пытанняў, якія тычыліся гісторыі касцёла, яго выгляду і ўнутранага аздаблення, легендаў, звязаных з храмам. Парафіяльныя ксяндзы мусілі даць на кожнае пытанне разгорнуты адказ і адаслаць фармуляр назад. Каштоўнасць кожнага такога дакумента наўпрост залежала ад таго, наколькі падрабязна той ці іншы святар адказваў на прысланыя з Вільні пытанні.

Такім чынам быў утвораны цэлы комплекс касцельных «Хронік», якія цяпер захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта. Сярод іх і ялоўская «Хроніка».

Запаўняючы фармуляр, Віктар Кулеша засведчыў, што ў 1747 у Ялоўцы на сродкі старасты Казіміра Сапегі замест старога драўлянага храма пабудавалі новы парафіяльны касцёл Міхала Арханёла. Гэта і быў той касцёл, у якім хрысцілі Кастуся Каліноўскага.

Новы храм узвялі з дрэва. Ён стаяў фасадам на поўдзень, званку быў ашаляваны і меў прыблізна 27—29 м у даўжыню і 14—16 м ушыркі. Унутраная прастора касцёла бялілася. Падрабязных звестак пра выгляд будынка не захавалася, але ён, верагодна, меў пэўныя супольныя рысы з іншымі драўлянымі касцёламі Гродзеншчыны ў сярэдзіне XVIII ст. У якасці прыкладу можна разглядаць Траецкі касцёл у вёсцы Струбніца Мастоўскага раёна.

Вакол храма традыцыйна быў цвінтар, дзе хавалі ксяндзоў. Сёння ад тых магіл нічога не засталося. Падчас апошняй вайны помнікі скінулі ў раку для ўмацавання броду. Паводле словаў мясцовага краязнаўцы Мар'яна Гайдучэні, да нядаўняга часу захоўвалася адна надмагільная пліта, але і яна знікла. Па іроніі лёсу той апошні надгробак быў з магілы памерлага ў 1842 вікарыя Францішка Каранеўскага. Святара, які хрысціў Каліноўскага.

Спадар Мар'ян упэўнена паказвае месца, дзе стаяў колішні драўляны касцёл: праз дарогу ад сучаснага мураванага. Цяпер на тым месцы будынак плябаніі. Побач на маленькім пагорку стаіць скульптура Божай Маці. Магчыма, гэты пагорак — тое, што засталося ад падмурку старой бажніцы.

У сярэдзіне XIX ст. касцёл Міхала Арханёла ўжо знаходзіўся ў стане занепаду. Стагадовы драўляны будынак патрабаваў значнага рамонту, і замест гэтага было вырашана пабудаваць новы мураваны храм. Стары касцёл, які памятаў хрост Каліноўскага, прастаяў як мінімум да 1866 г. і быў, паводле некаторых звестак, разабраны на гаспадарчыя пабудовы.

Прапануем увазе чытачоў поўную публікацыю «Хронікі» ялоўскага парафіяльнага касцёла 1849 г. у перакладзе на беларускую мову. Першапачатковы друкаваны тэкст фармуляра-апытальніка падаецца намі тлустым, а звесткі, унесеныя ад рукі Віктарам Кулешам, — звычайным шрыфтам.

Аўтары выказваюць шчырую падзяку выкладчыку Вышэйшай духоўнай семінарыі, доктару гісторыі, а. Тадэвушу Крагелю (Беласток) за неацэнную дапамогу ў пошуку арыгінала «Хронікі», а таксама краязнаўцу Мар'яну Гайдучэню (Ялоўка) і архітэктару Андрэю Шулаеву (Менск) за карысныя звесткі і кансультацыі.

**Зміцер Кузменка, Вольга Сямашка**

**Хроніка парафіяльнага касцёла ў мястэчку Ялоўка, размешчанага ў Віленскай дыяцэзіі, Гродзенскай губерні, Ваўкавыскім павеце і дэканаце.**

**Калі і кім закладзены, драўляны ці мураваны і ў якім часе вымураваны, калі перад тым быў драўляны? Пад імем якога святога? Ці ёсць пры касцёле шпіталь і кім заснаваны?**

1. Ялоўскі драўляны парафіяльны касцёл, заснаваны невядома якім з польскіх каралёў, пасля зруйнавання першага [быў] за кошт ялоўскага старасты яснавяльможнага Казіміра Сапегі наноў адбудаваны ў 1747 з дрэва пад тытулам святога Міхала Арханёла.

Пры касцёле маецца драўляны шпіталь, заснаваны ў 1844 вяльможным ягамосцем, панам Леонам Златніцкім — паручнікам войскаў польскіх, парафіянінам ялоўскага касцёла.

2. Нараўкаўскі філіяльны касцёл, размешчаны над ракой Нараўкай за тры мілі ад ялоўскага парафіяльнага касцёла. Драўляны, на падмурку. Фундаваны ў 1777 г. пад тытулам святога Яна Хрысціцеля святой памяці найяснейшым Станіславам Аўгустам Панятоўскім, каралём польскім.

**Якія касцёл мае зямельныя фундушы, у капіталах ці ануатах, кім і калі яны былі нададзеныя? Колькі ёсць філіяў, прыналежных да гэтай парафіі, і як [яны] называюцца? Якія былі і ёсць абавязкі парафіяльнага і філіяльнага касцёла?**

Фундушу зямельнага, [які] валодаў гэты касцёл, і цяпер валодае, агулам зямлі 269 моргаў, 249 прутоў.

Ануаты былі наступныя.

1-я завешчаная сума рублёў ср.[эбрам]: сто пяць у 1702 г. ягамосцем ксяндзом Якулоўскім, плябанам ялоўскім адпісаная і заснаваная на фальварку Каласы ў Ваўкавыскім павеце абшарнікаў Буткевічаў, укладзеная імі ж у 1840 г. у гарадзенскі Прыказ.

2-я завешчаная сума рублёў ср.[эбрам]: сто дваццаць у 1736 г. Францішкам Лапатам адпісаная і на Мсціба́ўскім кагале размешчаная.

3-я завешчаная сума рублёў ср.[эбрам]: шэсцьсот яснавяльможным Сапегам, старастам ялоўскім, невядома ў якім годзе была адпісаная, размешчаная на спадчынных уладаннях яснавяльможнага Тымана [ў] Дзярэчыне ў Слонімскім павеце. З таго ўкладання ягамосць ксёндз Міхал Грабавецкі, плябан ялоўскі, [суму] зняў, не адклаў, і [яна] тым падаткам загінула.

4-я сума рублёў ср.[эбрам]: семдзясят пяць тастаментам Міхала Адамовіча, дзедзіча фальварка Бліскоўшчына, тым жа [фальваркам] закладзеная.

5-я сума рублёў ср.[эбрам]: пятнаццаць на фальварку Клярынава шляхціца Грымянца заснаваная.

Усе гэтыя сумы адышлі да скарба.

Абавязкі ялоўскага парафіяльнага касцёла: апроч нядзельных і святочных дзён, у якія святая спяваная Імша за жывых і памерлых парафіян павінна адпраўляцца, ялоўскага фундушавых святых службаў сто пяцьдзясят дзевяць.

Нараўкаўскі філіяльны касцёл, як відаць з прывілею святой памяці Станіслава Аўгуста, караля польскага, выдадзенага 21 лістапада 1793 г., меў фундушам нададзеную вёску Заблочына, хаты чатыры, а таксама дзесяць валок і шэсць маргоў зямлі. Але ў пазнейшым часе ягамосць ксёндз Міхал Карповіч, учыніўшы 6 чэрвеня 1841 г. дамову з вяльможным ягамосцем панам Стэфанам Карчэўскім, паручнікам войск рас.[ейскіх], меў толькі забяспечальны фундуш рублёў ср.[эбрам]: сто дваццаць, а таксама шэсць шанкоў жыта, шэсць шанкоў аўсу, шанок грэчкі і паўшанка гароху. Абавязкаў жа нараўкаўскага філіяльнага касцёла, апроч святой спяванай Імшы [адпраўлянай па днях] нядзельных і святочных за парафіян жывых і памерлых, ніякіх іншых няма.

**Якія надгробкі ёсць у касцёле або найбольш адметныя на цвінтары? Надпісы [на надгробках] прадставіць у дакладных копіях. Дзе ёсць ці былі крыпты для фундатараў і якія, пазначыць.**

Надгробкаў у касцёле і на цвінтары, а таксама крыптаў для фундатараў ніякіх няма. Пры самым нараўкаўскім філіяльным касцёле на цвінтары ёсць шэсць мураваных надгробкаў з цэглы, на якіх, хаця і былі надпісы, але з-за даўнасці яны сцёрты. Крыптаў для фундатараў таксама ніякіх няма.

**Колькі званоў? Якія на іх надпісы? Кім урачыстым абрадам або толькі святой вадой і малітвай асвечаныя і калі нададзеныя касцёлу? Колькі прыкладна важаць пудоў?**

Званоў пры парафіяльным касцёле чатыры, надпісаў на іх няма, і невядома, кім [яны] былі асвечаныя. Першы з іх важыць прыкладна пятнаццаць пудоў, другі, меншы, — пудоў дзесяць. Абодва нададзеныя касцёлу яснавяльможным Антоніем Лапатам, лідскім лоўчым, 25 сакавіка 1738 г. Трэці і чацвёрты важаць пудоў па пяць, няма ніякіх звестак, кім яны ахвяраваныя касцёлу.

Званоў пры філіяльным касцёле тры, першы з якіх важыць (паводле інвентара) пудоў дванаццаць. Іншыя два — па шэсць пудоў. Гэтыя званы асвечаныя ягамосцем ксяндзом Францішкам Дуброўскім, першым пробашчам нараўкаўскім, за кошт якога [і] былі выробленыя ў 1770 г. Надпісаў на іх няма.

**Гістарычныя памяткі, якія згадваюць гэты касцёл ад найдаўнейшых часоў да нашых дзён — ці з вусных паданняў, ці з дакументаў, ці ў памяці старых людзей захаваныя сабраць і апісаць.**

Працяг на старонцы 23.

Индивидуальный предприниматель
Самкова Алина Сазоновна
220088, Республика Беларусь
г. Минск, ул. Антоновская, 10, пом.67,
тел. / факс (017) 294-32-37
+37529 670-06-60;+37529 166-41-14;
+8033 600-65-48
e-mail:alinas50@mail.ru

«31» марта 2017 г. № 1/1

**АУДИТОРСКОЕ ЗАКЛЮЧЕНИЕ**
**по бухгалтерской отчетности**

общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» за период с 01 января по 31 декабря 2016 г.

Директору общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» Бохану Денису Павловичу

| Аудируемое лицо | |
|---|---|
| Наименование | Общество с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» |
| Место нахож-дения | Республика Беларусь, 220109, Республика Беларусь, г. Минск, ул. Павловского, дом 52, помещение 5. Юридический адрес соответствует фактическому месторасполо-жению. |
| Сведения о государственной регистрации | Сведения о государственной регистрации: Общество с ограниченной ответственностью «Страховой брокер «Центр страхования» зарегистрировано Министерством Финансов 13 июня 2014 года, регистрационный номер 13-2-25/218, в Едином государственном регистре юридических лиц и индивидуальных предпринимателей за № 806000551. |
| УНП | 806000551 |
| Аудиторская организация, Индивидуальный предприниматель: | |
| Наименование | Индивидуальный предприниматель Самкова Алина Сазоновна |
| Место нахож-дения | Местонахождение: Республика Беларусь , 220088, г. Минск, ул. Антоновская, дом 10, помещение 67. |
| Сведения о государственной регистрации | Сведения о государственной регистрации: Индивидуальный пред-приниматель зарегистрирован решением Минского городского исполнительного комитета от 31.03.2000. ИП внесена в Единый государственный регистр юридических лиц и индивидуальных предпринимателей Республики Беларусь за № 101352638. |
| УНП | 101352638 |

**ЗАКЛЮЧЕНИЕ ПО БУХГАЛТЕРСКОЙ ОТЧЕТНОСТИ**

Проведенный аудит прилагаемой бухгалтерской отчетности «Страховой брокер «Центр страхования», закончившийся 31 декабря 2016 года, состоит из:
бухгалтерского баланса на 31 декабря 2016 года;
- отчета о прибылях и убытках за январь-декабрь 2016 года;
- отчета об изменении собственного капитала за январь-декабрь 2016 года;
- отчета о движении денежных средств за январь-декабрь 2016 года;
- примечаний к бухгалтерской отчетности.

**ОБЯЗАННОСТИ РУКОВОДСТВА АУДИРУЕМОГО ЛИЦА ПО ПОДГОТОВКЕ БУХГАЛТЕРСКОЙ ОТЧЕТНОСТИ**

Руководство «Страховой брокер «Центр страхования» несет ответственность за составление и представление бухгалтерской отчетности в соответствии с Законом Республики Беларусь «О бухгалтерском учете и отчетности» от 12.07.2013 № 57-З и несет ответственность за составление и представление отчетности в соответствии с применимой основой составления и представления отчетности и организацию системы внутреннего контроля аудируемого лица, необходимой для составления отчетности, не содержащей существенных искажений, допущенных вследствие недобросовестных действий или ошибок.

**ОБЯЗАННОСТИ АУДИТОРА, ИНДИВИДУАЛЬНОГО ПРЕДПРИНИМАТЕЛЯ**

Аудитор несет ответственность за выраженное аудиторское мнение о достоверности бухгалтерской отчетности, основанное на результатах проведенного аудита.
Проведен аудит в соответствии с требованиями Закона Республики Беларусь от 12 июля 2013 года № 56-З «Об аудиторской деятельности» и национальных правил аудиторской деятельности, которые обязывают соблюдать нормы профессиональной этики, планировать и проводить аудит таким образом, чтобы обеспечить достаточную уверенность относительно наличия либо отсутствия существенных искажений в представленной бухгалтерской отчетности.
За исключением ограничения, описанного ниже, мною проведен аудит в соответствии с Законом Республики Беларусь «Об аудиторской деятельности»; республиканскими правилами аудиторской деятельности; внутренними правилами аудиторской деятельности; нормативными правовыми актами, регулирующими отдельные виды деятельности аудируемого лица. Данные правила обязывают меня соблюдать нормы профессиональной этики, планировать и проводить аудит таким образом, чтобы обеспечить достаточную уверенность относительно наличия либо отсутствия существенных искажений в представленной бухгалтерской отчетности.
В ходе аудита были выполнены аудиторские процедуры, направленные на получение аудиторских доказательств, подтверждающих значения показателей бухгалтерской отчетности ООО «Страховой брокер «Центр страхования», а также другую раскрытую в ней информацию. Выбор аудиторских процедур осуществлялся на основании профессионального суждения с учетом оценки риска существенного искажения бухгалтерской отчетности в результате ошибок или недобросовестных действий. При оценке риска существенного искажения бухгалтерской отчетности рассматривалась система внутреннего контроля ООО «Страховой брокер «Центр страхования», необходимая для составления бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, с целью планирования аудиторских процедур, соответствующих обстоятельствам аудита, но не с целью выражения мнения относительно эффективности функционирования этой системы.
Аудит также включал оценку применяемой учетной политики, обоснованности учетных оценок и общего содержания бухгалтерской отчетности ООО «Страховой брокер «Центр страхования».
Полагаю, что в ходе аудита мною были получены достаточные и надлежащие аудиторские доказательства, которые могут являться основанием для выражения аудиторского мнения.

**ОСНОВАНИЯ ДЛЯ ВЫРАЖЕНИЯ АУДИТОРСКОГО МНЕНИЯ С ОГОВОРКОЙ**

Дата проведения инвентаризации не совпала с датой проведения аудита, аудитор в аудируемом периоде не принимала участие в проведении инвентаризации по состоянию на 31 декабря 2016 года, в связи с чем допускается возможность наличия определенных искажений в бухгалтерском учете и отчетности ООО «Страховой брокер «Центр страхования».

**АУДИТОРСКОЕ МНЕНИЕ**

По моему мнению, за исключением влияния на бухгалтерскую отчетность обстоятельств, изложенных в разделе «Основания для выражения аудиторского мнения с оговоркой», бухгалтерская отчетность ООО «Страховой брокер «Центр страхования», достоверно во всех существенных аспектах отражает финансовое положение ООО «Страховой брокер «Центр страхования», на 31 декабря 2016 года, а также финансовые результаты деятельности и изменения финансового положения ООО «Страховой брокер «Центр страхования» за 2016 год, закончившийся 31 декабря 2016 года, в соответствии с требованиями законодательства Республики Беларусь.
Аудиторское заключение составлено в 3-х экземплярах. Два переданы Заказчику, один остается у Исполнителя.
Индивидуальный предприниматель:
Аудитор А.С. Самкова
Аудиторское заключение получено:
Директор ООО «Страховой брокер «Центр страхования»
Д.П. Бохан
Дата подписания аудиторского заключения по бухгалтерской (финансовой) отчетности: «31» марта 2017года.

Приложение 1
к постановлению
Министерства
финансов
Республики Беларусь
12.12.2016 № 104

БУХГАЛТЕРСКИЙ БАЛАНС

На 31 декабря 2016 года

| | |
|---|---|
| Организация | ООО "Страховой брокер"Центр страхования" |
| Учетный номер плательщика | 806000551 |
| Вид экономической деятельности | 67201 |
| Организационно-правовая форма | частная |
| Орган управления | юридическое лицо без ведомственной подчиненности |
| Единица измерения | тыс руб. |
| Адрес | г. Минск, ул. Павловского, д.52, пом.5 |

| | |
|---|---|
| Дата утверждения | |
| Дата отправки | |
| Дата принятия | |

| Активы | Код строки | На 31 декабря 2016 года | На 31 декабря 2015 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| I. ДОЛГОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ | | | |
| Основные средства | 110 | 27 | 55 |
| Нематериальные активы | 120 | - | - |
| Доходные вложения в материальные активы | 130 | - | - |
| В том числе: инвестиционная недвижимость | 131 | - | - |
| предметы финансовой аренды (лизинга) | 132 | - | - |
| прочие доходные вложения в материальные активы | 133 | - | - |
| Вложения в долгосрочные активы | 140 | - | - |
| Долгосрочные финансовые вложения | 150 | - | - |
| Отложенные налоговые активы | 160 | - | - |
| Долгосрочная дебиторская задолженность | 170 | - | - |
| Прочие долгосрочные активы | 180 | - | - |
| ИТОГО по разделу I | 190 | 27 | 55 |
| II. КРАТКОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ | | | |
| Запасы | 210 | - | - |
| В том числе: материалы | 211 | - | - |
| животные на выращивании и откорме | 212 | - | - |
| незавершенное производство | 213 | - | - |
| готовая продукция и товары | 214 | - | - |
| товары отгруженные | 215 | - | - |
| Долгосрочные финансовые вложения | 150 | - | - |
| Отложенные налоговые активы | 160 | - | - |
| Долгосрочная дебиторская задолженность | 170 | - | - |
| Прочие долгосрочные активы | 180 | - | - |
| ИТОГО по разделу I | 190 | 27 | 55 |
| II. КРАТКОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ | | | |
| Запасы | 210 | - | - |
| В том числе: материалы | 211 | - | - |
| животные на выращивании и откорме | 212 | - | - |
| незавершенное производство | 213 | - | - |
| готовая продукция и товары | 214 | - | - |
| товары отгруженные | 215 | - | - |
| прочие запасы | 216 | - | - |
| Долгосрочные активы, предназначенные для реализации | 220 | - | - |
| Расходы будущих периодов | 230 | - | 1 |
| Налог на добавленную стоимость по приобретенным товарам, работам, услугам | 240 | - | - |
| Краткосрочная дебиторская задолженность | 250 | 10 | 7 |
| Краткосрочные финансовые вложения | 260 | - | - |
| Денежные средства и их эквиваленты | 270 | 53 | 53 |
| Прочие краткосрочные активы | 280 | - | - |
| ИТОГО по разделу II | 290 | 63 | 61 |
| БАЛАНС | 300 | 90 | 116 |

| Собственный капитал и обязательства | Код строки | На 31 декабря 2016 года | На 31 декабря 2015 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| III. СОБСТВЕННЫЙ КАПИТАЛ | | | |
| Уставный капитал | 410 | 34 | 34 |
| Неоплаченная часть уставного капитала | 420 | - | - |
| Собственные акции (доли в уставном капитале) | 430 | - | - |
| Резервный капитал | 440 | - | - |
| Добавочный капитал | 450 | - | - |
| Нераспределенная прибыль (непокрытый убыток) | 460 | 28 | 32 |
| Чистая прибыль (убыток) отчетного периода | 470 | - | - |
| Целевое финансирование | 480 | - | - |
| ИТОГО по разделу III | 490 | 62 | 66 |
| IV. ДОЛГОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА | | | |
| Долгосрочные кредиты и займы | 510 | - | - |
| Долгосрочные обязательства по лизинговым платежам | 520 | 26 | 48 |
| Отложенные налоговые обязательства | 530 | - | - |
| Доходы будущих периодов | 540 | - | - |
| Резервы предстоящих платежей | 550 | - | - |
| Прочие долгосрочные обязательства | 560 | - | - |
| ИТОГО по разделу IV | 590 | 26 | 48 |
| V. КРАТКОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА | | | |
| Краткосрочные кредиты и займы | 610 | 0 | 0 |
| Краткосрочная часть долгосрочных обязательств | 620 | 0 | 0 |
| Краткосрочная кредиторская задолженность | 630 | 2 | 2 |
| В том числе: поставщикам, подрядчикам, исполнителям | 631 | 1 | 1 |
| по авансам полученным | 632 | - | - |
| по налогам и сборам | 633 | - | - |
| по социальному страхованию и обеспечению | 634 | - | - |
| по оплате труда | 635 | 1 | 1 |
| по лизинговым платежам | 636 | - | - |
| собственнику имущества (учредителям, участникам) | 637 | - | - |
| прочим кредиторам | 638 | - | - |
| Обязательства, предназначенные для реализации | 640 | - | - |
| Доходы будущих периодов | 650 | - | - |
| Резервы предстоящих платежей | 660 | - | - |
| Прочие краткосрочные обязательства | 670 | - | - |
| ИТОГО по разделу V | 690 | 2 | 2 |
| БАЛАНС | 700 | 90 | 116 |

Руководитель ____________ Бохан Денис Павлович
(подпись) (инициалы, фамилия)

Главный бухгалтер ____________ Савельева А.А.
(подпись) (инициалы, фамилия)

Приложение 2
к постановлению
Министерства
финансов
Республики Беларусь
31.10.2011 № 111

ОТЧЕТ

о прибылях и убытках

за 2016 год

| | |
|---|---|
| Организация | ООО "Страховой брокер"Центр страхования" |
| Учетный номер плательщика | 806000551 |
| Вид экономической деятельности | 67201 |
| Организационно-правовая форма | частная |
| Орган управления | юридическое лицо без ведомственной подчиненности |
| Единица измерения | тыс руб. |
| Адрес | г. Минск, ул. Павловского, д.52, пом.5 |

| Наименование показателей | Код строки | За 2016 год | За 2015 год |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Выручка от реализации продукции, товаров, работ, услуг | 010 | 92 | 107 |
| Себестоимость реализованной продукции, товаров, работ, услуг | 020 | - | - |
| Валовая прибыль (010-020) | 030 | 92 | 107 |
| Управленческие расходы | 040 | - | - |
| Расходы на реализацию | 050 | (86) | (74) |
| Прибыль (убыток) от реализации продукции, товаров, работ, услуг (030 - 040 - 050) | 060 | 6 | 33 |
| Прочие доходы по текущей деятельности | 070 | - | - |
| Прочие расходы по текущей деятельности | 080 | - | - |
| Прибыль (убыток) от текущей деятельности (+/-060 + 070 - 080) | 090 | 6 | 33 |
| Доходы по инвестиционной деятельности | 100 | - | - |
| В том числе: доходы от выбытия основных средств, нематериальных активов и других долгосрочных активов | 101 | - | - |
| доходы от участия в уставном капитале других организаций | 102 | - | - |
| проценты к получению | 103 | - | - |
| прочие доходы по инвестиционной деятельности | 104 | - | - |
| Расходы по инвестиционной деятельности | 110 | - | - |
| В том числе: расходы от выбытия основных средств, нематериальных активов и других долгосрочных активов | 111 | - | - |
| прочие расходы по инвестиционной деятельности | 112 | - | - |
| Доходы по финансовой деятельности | 120 | 20 | 23 |
| В том числе: курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 121 | 16 | 17 |
| прочие доходы по финансовой деятельности | 122 | 4 | 6 |
| Расходы по финансовой деятельности | 130 | (19) | (6) |
| В том числе: проценты к уплате | 131 | - | - |
| курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 132 | 19 | 6 |
| прочие расходы по финансовой деятельности | 133 | - | - |
| Прибыль (убыток) от инвестиционной и финансовой деятельности (100 - 110 + 120 - 130) | 140 | 1 | 17 |
| Прибыль (убыток) до налогообложения (+/- 090 +/- 140) | 150 | 7 | 50 |
| Налог на прибыль | 160 | (1) | (9) |
| Изменение отложенных налоговых активов | 170 | - | - |
| Изменение отложенных налоговых обязательств | 180 | - | - |
| Прочие налоги и сборы, исчисляемые из прибыли (дохода) | 190 | - | - |
| Прочие платежи, исчисляемые из рибыли (дохода) | 200 | - | - |
| Чистая прибыль (убыток) (+/- 150 - 160 +/- 170 +/- 180 - 190 - 200) | 210 | 6 | 41 |
| Результат от переоценки долгосрочных активов, не включаемый в чистую прибыль (убыток) | 220 | - | - |
| Результат от прочих операций, не включаемый в чистую прибыль (убыток) | 230 | - | - |
| Совокупная прибыль (убыток) (+/-210 +/- 220 +/- 230) | 240 | 6 | 41 |
| Базовая прибыль (убыток) на акцию | 250 | - | - |
| Разводненная прибыль (убыток) на акцию | 260 | - | - |

Руководитель ____________ Бохан Денис Павлович
(подпись) (инициалы, фамилия)

Главный бухгалтер ____________ Савельева А.А.
(подпись) (инициалы, фамилия)

***Аудитор, индивидуальный предприниматель***
***Атрасевич Ольга Викторовна***
*223030, Минский район, п.Ждановичи, ул.Полевая, д. 17 к.29*
*Тел.+375 17 2525760, GSM +375 29 6138656*
*р/с3013026590013 в ОАО «Банк Москва-Минск» г.Минск код272*
*УНП 690064363*
*e-mail: olga.atrasevich@yandex.ru*

**АУДИТОРСКОЕ ЗАКЛЮЧЕНИЕ**
**ПО БУХГАЛТЕРСКОЙ ОТЧЕТНОСТИ**
**ООО «Страховой брокер Спорт Капитал »**
**за период с 01.01.2016г. по 31.12.2016г.**

**Директору Общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер Спорт Капитал» Н.Е.Цветковой**

***Аудируемое лицо:*** Общество с ограниченной ответственностью «СТРАХОВОЙ БРОКЕР СПОРТ КАПИТАЛ » (ООО «Страховой брокер Спорт Капитал»);

***Место нахождения:*** 220020, г. Минск, пр-т. Победителей, д.20, корп.3, ком.5;
***Сведения о государственной регистрации:*** свидетельство о государственной регистрации выдано решением Министерства Финансов Республики Беларусь от 09 декабря 2010 г.;
УНП 806000671;

***Аудитор, индивидуальный предприниматель:*** Атрасевич Ольга Викторовна
***Место нахождения:*** 223030, Минский р-н, а/г. Ждановичи, ул. Полевая, 17-29;
***Сведения о государственной регистрации:*** Решение Минского облисполкома № 690064363 от 02 июня 2000 г.;
УНП 690064363;
***Разрешение на право осуществления аудиторской деятельности:*** квалификационный аттестат на право занятия аудиторской деятельностью № 0000885 от 30.07.2003 г., выданный Министерством финансов Республики Беларусь.

Мною проведен аудит прилагаемой бухгалтерской отчетности Общество с ограниченной ответственностью «Страховой брокер Спорт Капитал», состоящей из:
-бухгалтерского баланса на 01.01.2017 г.;
-отчета о прибылях и убытках январь-декабрь 2016 года, отчета об изменении капитала за январь-декабрь 2016 года, отчета о движении денежных средств за январь-декабрь 2016 года, а также примечаний к бухгалтерской отчетности за 2016 год;

**ОБЯЗАННОСТИ РУКОВОДСТВА АУДИРУЕМОГО ЛИЦА ПО ПОДГОТОВКЕ БУХГАЛТЕРСКОЙ ОТЧЕТНОСТИ**

Руководство ***ООО «Страховой брокер Спорт Капитал»*** несет ответственность за составление и представление бухгалтерской (финансовой) отчетности в соответствии с законодательством Республики Беларусь по бухгалтерскому учету и отчетности и организацию системы внутреннего контроля, необходимой для составления бухгалтерской (финансовой) отчетности, не содержащей существенных искажений, допущенных вследствие недобросовестных действий или ошибок.

Данная ответственность распространяется на разработку, внедрение и поддержание надлежащего функционирования системы внутреннего контроля, которая должна обеспечивать подготовку достоверной бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений в результате ошибок или недобросовестных действий; выбор и применение надлежащей учетной политики, а также обоснованных оценочных значений.

**ОБЯЗАННОСТИ АУДИТОРА**

Я несу ответственность за выраженное мною аудиторское мнение о достоверности данной бухгалтерской отчетности, основанное на результатах проведенного аудита.

Мною проведен аудит в соответствии с требованиями Закона Республики Беларусь от 12 июля 2013 года «Об аудиторской деятельности» и национальных правил аудиторской деятельности, которые обязывают нас соблюдать нормы профессиональной этики, планировать и проводить аудит таким образом, чтобы обеспечить достаточную уверенность относительно наличия либо отсутствия существенных искажений в представленной бухгалтерской отчетности.

В ходе аудита мною были выполнены аудиторские процедуры, направленные на получение аудиторских доказательств, подтверждающих значения показателей бухгалтерской отчетности ***ООО «Страховой брокер Спорт Капитал»***, а также другую раскрытую в ней информацию. Выбор аудиторских процедур осуществлялся на основании профессионального суждения с учетом оценки риска существенного искажения бухгалтерской отчетности в результате ошибок или недобросовестных действий. При оценке риска существенного искажения бухгалтерской отчетности мною рассматривалась система внутреннего контроля ***Общества с ограниченной***

# Ялоўская «Хроніка», або У якім касцёле быў ахрышчаны Каліноўскі

**Працяг са старонкі 21.**

Гістарычныя памяткі, якія згадваюць гэты касцёл ад найдаўнейшых часоў аж да нашых дзён, такія: што, як выяўляецца [з] вусных паданняў народа, перад гэтым драўляны касцёл быў меншы за цяперашні. А паданне аб існаванні папярэдняга касцёла пацвярджаюць парафіяльныя Акты хросных метрык, якія пачынаюцца ад 1635 г.

**Якія прадметы, вартыя згадкі, мае скарбніца альбо закрысція?**

Скарбніца альбо закрысція гэтага касцёла не мае такіх прадметаў, якія маглі б звярнуць [на сябе] асаблівую ўвагу. У скарбніцы ж нараўкаўскага філіяльнага касцёла знаходзіцца французскі ядвабны дыван незвычайнай прыгажосці — наўкруг кветкі, а пасярэдзіне персанажы, якія невядома што азначаюць. Мае даўжыні восем локцяў, а шырыні — пяць. Ахвяраваны яснавяльможным Гутоўскім з Варшавы.

**Якія фэсты, святы і брацтвы звязаныя з гэтым касцёлам і якімі паўнамоцтвамі?**

Фэстаў у гэтым касцёле — два: святога Антонія Падуанскага і святога Міхала Арханёла як патрона касцёла.

Брацтва да спявання святога Ружанца ў касцёле хаця і ёсць, але без ніякага [акрэсленага] паўнамоцтва.

У нараўкаўскім філіяльным касцёле ёсць толькі адзін фэст — святога Яна Хрысціцеля як патрона касцёла. Брацтва пры тым касцёле ніякага няма.

**Пералічыць касцельнае аздабленне, якое можа звярнуць увагу з прычыны мастацкай ці гістарычнай адметнасці. Пазначыць найбольш выдатных пробашчаў, якія навукай, парадкаваннем касцёла або дабрачыннасцю славіліся.**

Касцельнага аздаблення як ялоўскага парафіяльнага касцёла, так і нараўкаўскага філіяльнага касцёла, такога, якое магло б звярнуць [на сябе] ўвагу з прычыны мастацкай ці гістарычнай адметнасці, няма.

Прысяжных пробашчаў такіх, якія б навукай або парадкаваннем касцёла славіліся, як сведчаць касцельныя візіты, не было. Але было [ў] нядаўнім часе два адміністратары, а менавіта: вялебны ягамосць ксёндз Антоній Кіткевіч, былы капелан Свіслацкай гімназіі і разам [з тым] адміністратар ялоўскага касцёла, а цяперашні рэктар Віленскай дыяцэзіяльнай семінарыі, які навукай славіўся і дужа шмат садзейнічаў рамонту ялоўскага касцёла і адбудаванню наноў некаторых гаспадарчых будынкаў. А наступнік ягоны — святой памяці Францішак Каранеўскі ордэна камендулаў, планы свайго папярэдніка, як што да касцёла, так і [да] будоўлі гаспадарчай, давёў да поўнага ажыццяўлення.





Фрагмент арыгінала ялоўскай «Хронікі».

**Да чыйго ўладання належыць вёска або мястэчка, дзе знаходзіцца касцёл? Як і калі маёнтак гэты з рук у рукі пераходзіў?**

Мястэчка Ялоўка, у якім знаходзіцца парафіяльны касцёл, сёння дзяржаўнае, але даўней мястэчка з маёнткам той жа назвы і сёламі, да яго прыналежнымі, належалі каралям польскім як сталовыя маёнткі, якія ўвесь час аддаваліся гэтымі ж каралямі ў 50-гадовае трыманне асобам за ваенныя і грамадзянскія заслугі ў краі, як то: спачатку Гараінам, потым Сапегам і, урэшце, Булгарыным.

Мястэчка Нараўка, дзе знаходзіцца філіяльны касцёл, сёння таксама дзяржаўнае, але папярэдне мястэчка з маёнткам той жа назвы і сёламі, да яго прыналежнымі, належалі каралям польскім як сталовыя ўладанні, якія ўвесь час аддаваліся гэтымі ж каралямі ў 50-гадовае трыманне асобам [за] ваенныя і грамадзянскія заслугі ў краі, як то: Бенкінам, а потым Карчэўскім.

**Колькасць парафіян абодвух палоў. Знешні выгляд будынка касцёла. Аблічча ваколіцы. Характарыстыка парафіян.**

Агульная колькасць парафіян ялоўскага касцёла мужчынскага полу 2 436, жаночага — 2 280. Знешні выгляд парафіяльнага касцёла: даўжыні 45 локцяў, шырыні — 25. Звернуты на поўнач фронтам, на поўдзень — галоўным фасадам. Унутры пабелены, звонку наўкруг дошкамі ашаляваны.

Знешні выгляд нараўкаўскага філіяльнага касцёла: мае даўжыні 32 локці, шырыні — 18. Звернуты на поўнач фронтам, на поўдзень жа — галоўным фасадам. Унутры ўвесь пафарбаваны, звонку наўкруг дошкамі ашаляваны.

Аблічча ваколіцы — па большай частцы ўзгорыстае і пясчанае; шмат зарасніку і лясоў, прыдатных да будоўлі.

Характарыстыка парафіян ялоўскага касцёла: да касцёла свайго прыхільныя, набожныя і часта на набажэнства ў вялікай колькасці збіраюцца, а таксама прыстойныя і ў дамах сваіх простыя і гасцінныя.

Гэткія сведчанні, часткова з візітаў касцёла пазычаныя, а часткова з вусных паданняў народа, якія ёсць праўдзівыя і верныя, уласнаручным подпісам сцвярджаю.

**Даў у плябаніі 1 снежня 1849 г.**
**ксёндз Віктар Кулеша, адміністратар ялоўскага касцёла.**




Да адкрыцця мотасезона 30 красавіка больш за тысячу байкераў з дзесяці краін сустрэліся ля Кургана Славы і праехалі ў калоне па праспекце Пераможцаў да пляцоўкі ля Дома футбола ў Мінску. Узначалілі калону памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Віктар Лукашэнка і міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч. На фота: Віктар Лукашэнка і ягоная жонка.




19 красавіка акцёры легендарнага Cirque du Soleil выйшлі з імправізаванымі пастаноўкамі на вуліцы Мінска.













«Бонстыкі» — рэкламная гульня «Еўраопта» — стала надзвычай папулярнай у дзяцей. Пра новае шаленства — чытайце на nn.by.




Міністэрства замежных спраў прэзентавала новы лагатып.




У Беларусі пачалі вырабляць кілбасу з баброў.



## Анекдоты і жарты

* * *

Пра тое, што хутка мы будзем жыць добра, мы чуем ад тых, хто ўжо жыве добра.

* * *

— Гэта праўда?
— Не, гэта па тэлевізары.

* * *

Раней, калі прыходзілі госці, ім адразу давалі тапкі, а цяпер — пароль ад Wi-Fi.

* * *

Самая папулярная птушка ў Беларусі — гэта грыф «совершенно секретно».

* * *

— Мужчына, падзяліцеся ўражаннямі ад апошняй прачытанай вамі кнігі.
— Ой, там абы-што нейкае было: чыя мама, якая рама, нашто яе мыць?!

* * *

— Як жа хочацца весялосці, віна і шалёнага сэксу! Дзяўчаткі, выклікайце таксі!
— Каця, ты моцна пераацэньваеш таксістаў...

* * *

– Ты ж збіралася худнець?
– Я ем салацік!
– Ты змяшала кілбасу, бульбу і маянэз!
– Я. Ем. Салацік!

## «НН» 111 гадоў з вамі

**Аб жыдах.** Цяпер злыдні ўсё цкуюць хрысціянаў на жыдоў. Даводзяць яны, быццам сам Бог кажа біць жыдоў. Але ж гэта — чыстая брахня. Хто чытаў Евангелле, хто напраўдзе верыць у рэлігію хрысціянскую, той добра ведае, што гэта няпраўда. Хрыстос сам вучыў: «Няма ні грэка, ні жыда» — значыць, усе людзі роўныя, усе — браты, хаця яны іншай веры, іншай народнасці.

**«НН». 4 мая 1907**

**Мілінкевіч выступіць на сумесным пасяджэнні соймаў Літвы і Польшчы.** 23 мая 1791 года Сойм Рэчы Паспалітай зацвердзіў Канстытуцыю — першую ў Еўропе, другую ў свеце і апошнюю для супольнае дзяржавы Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Урачыстасці да гадавіны Канстытуцыі пройдуць адначасова ў Варшаве і Вільні. Аляксандр Мілінкевіч выступіць на сумесным урачыстым пасяджэнні парламентаў Польшчы і Літвы з удзелам прадстаўнікоў Еўрапейскага парламента, нямецкага Бундэстага, чэшскага сената, латвійскага сейма, парламентаў Венгрыі і Эстоніі.

**«НН». 2 мая 2007**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 5535. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 02.04.2017.
Замова №1663.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 17005